Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Весьці

## НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТУ ЮСТЫЦЫІ БЕЛАРУСКАЕ ССР.

Зьмест:




№ 9—10.

ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК 1927 г.

1-ы год выданьня.

Менск

## Зьмест.



Галоўлітбел № 26.459. Тыраж—1500 экз. Друкарня Менспраўдому.

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# ВЕСЬЦІ

**Народнага Камісарыяту Юстыцыі Беларускае ССР.**

№ 9—10. **Верасень—Кастрычнік.** 1-ы год выданьня.

## КРЫМІНАЛЬНА-ПРАЦЭСУАЛЬНЫ КОД. БССР І АГУЛЬНА САЮЗНЫЯ АСНОВЫ КРЫМІНАЛЬНАГА СУДАВОДЗТВА.

Савет Народных Камісараў БССР на пасяджэньні ад 7 верасьня прыняў і ўнёс на зацьвярджэньне Прэзыдыуму ЦВК пастанову „аб зьменах і дапаўненьнях Крымінальна-Працэсуальнага Кодэксу БССР“. З тае прычыны, што гэта пастанова ўносіць шэраг грунтоўных зьмен у крамінальны працэс, мы лічым карысным азнаёміць з ім нашых чытачоў.

Гэта пастанова мае сваею задачаю ўзгадніць КПК з нормамі ўстаноўленымі ў агульна-саюзным заканадаўстве, у прыватнасьці з „Асновамі крымінальнага судаводзтва“, паколькі гэтым праэктам у КПК унесены ўсе зьмены, выклікаемыя „асновамі“ НКЮ і КЗП пакінулі арт. 1-ы ў дзеючай рэдакцыі, каторая кажа: „Парадак вядзеньня крымінальных спраў у судовых установах БССР адзначаецца гэтым кодэксам“, не ўпамянуўшы зусім аб „асновах“, як аб крыніцы права для суду. Прышлося аднак унесьці ў гэты артыкул істотны дадатак. Як відаць з яго тэксту, ён распаўсюджваецца на судовыя ўстановы БССР. Спрэчнае пытаньне аб тым ці ўваходзяць ваенныя трыбуналы ў сыстэму судовых органоў саюзных рэспублік альбо зьяўляюцца судовымі ўстановамі Саюзу ССР, канчаткова вырашана арганізацыйнай інстанцыяй для ваенных трыбуналаў у складзе найвышэйшага суду Саюзу і прадастаўленьня права вытрабаваньня спраў у парадку нагляду толькі судовым органам СССР. Адсюль выцякае, што пытаньне аб тым, якія працэсуальныя законы павінны ўжываць ваенныя трыбуналы падлягае вырашэньню агульнасаюзнага заканадаўства. Дзеля гэтага ў арт. 1-ы ўнесен наступны дадатак: „Парадак вядзеньня крымінальных спраў у ваенных трыбуналах, якія дзейнічаюць на тэрыторыі БССР і межы ўжываньня ваеннымі трыбуналамі, ваеннымі сьледчымі і ваеннаю пракуратураю нормаў гэтага кодэксу ўстанаўляецца агульна-саюзным заканадаўствам“, у паасобку, „палажэньнем аб ваенных трыбуналах“ (дадатак).

Якія-ж законы ўжываюць ваенныя трыбуналы, пракуратура і сьледчыя—аб гэтым кажа арт. 1-ы асноў судаводзтва і шэраг артыкулаў „Палажэньня аб ваенных трыбуналах“. Арт 1-ы „Асноў“ ў якасьці крыніц Крымінальна-Працэсуальнага права для судовых установ Саюзу ўстанаўляе: 1) „Асновы“, 2) выдаваемыя ў парадку агульнасаюзнага заканадаўства палажэньне аб найвышэйшым судзе; спэцыяльнага палажэньня, азначаючыя асаблівасьці справавядзеньня



ў ваенна судовых установах і 3) КПК саюзных рэспублік. Тое-ж кажуць арт. 18,19 і 28 „палажэньня аб ваенных трыбуналах, ваеннай пракуратуры („С. З. Саюзу за 26 г., № 57, арт. 413").

Значыцца, КПК БССР зьяўляецца абавязковым для ваенных судовых устаноў пастолькі, паскольки няма адпаведных норм у агульна-саюзным заканадаўстве. Дзеля гэтага з КПК БССР выключаны ўсе артыкулы і паасобныя часьці артыкулаў, якія тычацца ваенных трыбуналаў. Так, выключаны арт. арт. 27,36,37, 383,407 і 408 і зьменены 19 іншых артыкулаў КПК.

Далейшыя зьмены, якія тычыцца дзейнасьці судовых органаў БССР, мы будзем прывадзіць у храналёгічным парадку, г. зн. у парадку прахаджэньня крымінальных спраў.

Пачнём з зьмены ў парадку падняцьця спраў. Замест арт. 9-ага, які кажа аб абавязку пракуратуры ўзбуджаць крымінальнае прасьледваньне перад судовымі і сьледчымі органамі па ўсякаму адбыўшамуся і падлягаючаму пакараньню злачынству ўвёўшы больш багаты па зьместу артыкул, адпавядаючы першым двум абзацам арт. 4-ага „Асноў", дзе гаворыцца ня толькі аб пракуратуры, але і аб судовых і сьледчых органах, і органах дазнаньня. Вот тэкст арт. 9: „Крымінальнае прасьледваньне падымаецца пракуратураю, судавымі і сьледчымі органамі і органамі дазнаньня ў выпадках і ў парадку, паказаных у гэтым кодэксе. Пракурор, сьледчыя, судзьдзі і органы дазнаньня павінны прымаць да справавядзеньня ўсе заявы аб злачынствах ад дзяржаўных органаў, грамадзкіх арганізацый і прыватных асоб."

Разам з тым павялічаны правы пракуратуры ў адносінах спраў, падымаемых па прыватнай скарзе (арт. арт. 10 і 11 КПК). Паводле п. „г" арт. 6 „Асноў" гэтыя справы могуць падымацца і пракуратурай, калі яна лічыць гэта неабходным. Адпаведна гэтаму ўнесена зьмена ў арт. 4 п. „з" КПК і аб'яднаны арт. 10 і 11 КПК, пры чым 1-ая часьць новага арт. 10-ага выкладзена наступным парадкам: „Справы аб злачынствах, прадугледжаных арт. арт. 153 1 ч., 169, 169-а, 172, 173, 174, 175, 198 і 199 Крымінальнага Кодэксу, падымаюцца ня інакш, як па скарзе пацярпеўшага, калі толькі пракуратура ня знойдзе патрэбным падняць справу па сваёй ініцыятыве". Адначасна ў гэты артыкул унесена яшчэ адна зьмена: з ліку спраў паднімаемых па прыватнай скарзе выключана 2 ч. арт. 169 і ўключан арт. 169-а КК. Гэтаю зьменаю ня вычарпана аднак пытаньне аб справах, падымаемых па прывытнай скарзе. Патрэбна прагледзець як пералік гэтых спраў, гэтак і самы парадак разгляду іх. Але гэтыя пытаньні не прапрацованы з тае прычыны, што мэта данай пастановы, як ужо сказана, вельмі вузкая: узгадненьне з агульна-саюзным заканадаўствам.

Вельмі істотныя зьмены ўнесены ў пытаньне аб мерах прасячэньня, прычым у даным выпадку падпалі зьменам, як віды дапускаемых мер прасячэньня, так і выпадкі і парадкі назначэньня. Паводле арт. 144-а КПК ў ліку мер прасячэньня маецца паручыцельства асабістае і маемаснае і залог. Гэтыя меры прасячэньня цяпер выключаюцца ў адпаведнасьці з „Асновамі" з КПК і ўзамен іх уводзіцца „парука рабочых, у паасобку прафэсіянальных, сялянскіх і іншых грамадзкіх арганізацый". Дакладчык праэкту „Асноў" на сэсіі ЦВК Саюзу, т. Вінакураў наступным чынам аб'ясьніў неабходнасьць такой зьмены: „Калі ўзяць кодэксы саюзных рэспублік, і РСФСР, і БССР, і інш, дык звычайна ўстанаўляецца парука у відзе грашовага залогу. Напэўна, гэта ня можа быць дапушчана.

Изд.

Нельга дапусьціць, каб дзякуючы грашоваму залогу нэпманы вызваляліся, а рабочыя і сяляне, каторыя іншы раз з прычыны цяжкіх умоў учынілі крымінальнае дзеяньне, заставаліся сядзець. Калі рабочыя і сялянскія арганізацыі дадуць даручыцельства, што гэта асоба сапраўды не такая небясьпечная, каб яе трымаць у турме, дык яна будзе выпушчана на волю. Калі-ж яны не дадуць такога даручыцельства, дык няхай ён мае хоць цэлую машну чырвонцаў, —ён павінен адсядзець у турме той час, каторы накладаецца нашымі законамі. Адпаведна з гэтым зьменен арт. 144 КПК і выключаны арт. 151—156. Артыкул-жа 150 толькі ўстаноўляе парадак даручыцельства арганізацый, паводле гэтага артыкулу пытаньне аб даручыцельстве павінна быць вырашана толькі пастановай агульнага сходу членаў данае арганізацыі, але ня іх выканаўчых органаў. Практыка пакажа, ці належыць унесьці зьмены ў гэты артыкул і якія.

Разам з тым пашыран лік выпадкаў, пры каторых можа быць ужыта ў відзе меры прасячэньня пазбаўленьне волі. Паводле ч. 1 арт. 10 „Асноў“ пазбаўленьне волі ў якасьці меры прасячэньня дапускаецца па справах аб злачынствах, якія цягнуць пазбаўленьне волі незалежна ад тэрміну яго, у той час як па дзеючаму артыкулу 158 КПК гэта мера прасячэньня дапусьціма толькі тады, калі злачынства цягне ня менш шасьці месяцаў пазбаўленьня волі. Прызнаньне абвінавачваемага сацыяльна-небясьпечным зьяўляецца ва ўсіх выпадках падставай для пазбаўленьня яго волі ў якасьці меры прасячэньня, у той час, як па арт. 158 КПК гэта дапусьціма толькі па злачынствах, прадугледжаных пэўнымі артыкуламі КК. Нарэшце, дапасаваньне гэтай меры прасячэньня дапускаецца ў выпадку паднязьця справы аб прызнаньні абвінавачваемага сацыяльна-небясьпечным. Такім чынам, мы ў частковасьці зьвярнуліся да старой рэдакцыі арт. 158, дзейнічаючага да 12/VI-1925 г. Пашырыўшы круг дапасаваньня пазбаўленьня волі, як меры прасячэньня „Асновы“, аднак абмяжоўваюць судовыя органы ў іншым: „пазбаўленьне волі ў якасьці меры прасячэньня ня можа прадаўжацца больш двух месяцаў па ўсіх справах, а ня толькі па справах, прадугледжаных арт. 159 КПК (калі ёсьць небясьпека, што абвінавачваемы будзе перашкаджаць выкрыцьцю ісьціны) і толькі ў выключных выпадках можа быць прадоўжана яшчэ на адзін месяц. У гэтым сэнсе і зьменен арт. 159. Разам з тым удакладнен парадак паведамленьня органамі дазнаньня судовых і сьледчых органаў аб затрыманьні першымі асоб, западазроных у ўчыненьні злачынстваў і аб зацьверджэньні або адмене прынятай органамі дазнаньня меры (арт. арт. 102 і 104 КПК).

Павілічан лік выпадкаў, калі справы могуць разглядацца ў адсутнасьці абвінавачваемага. Паводле арт. 19 „Асноў“, яўка падсуднага абавязкова толькі па справах аб злачынствах, за каторыя можа быць назначана пазбаўленьне волі ня ніжэй шасьці месяцаў у той час, як па дзеючым арт. 256 КПК яўка абавязкова ва ўсіх выпадках, калі магчыма пазбаўленьне волі на любы тэрмін. Калі к таму-ж прыняць пад увагу, што па праэкту КК, цяпер распрацованаму, праводзіцца агульнае зьніжэньне санкцый, то лік спраў, якія могуць разглядацца ў адсутнасьці абвінавачваемага надзвычайна узрастае. Яно павялічваецца ў дадатках яшчэ і тым, што і справы, па каторых патрабуецца яўка падсуднага могуць слухацца ў яго адсутнасьці, „калі суд прыдзе да перакананьня, што падсудны ўхіляецца ад суду,“ у той час як па дзеючым арт. 256 КПК вымагаўся доказ тэй акалічнасьці, што падсудны ўхіляецца ад уручэньня позвы аб

выкліку ў суд, або ўкрываецца ад суду. У адпаведнасьці з „Асновамі“ і зменен арт. 265 КПК. Аднак, належыць па нашай думцы, узьняць пытаньне аб унясеньні ў „Асновы“ зьмен арт. 19-га, абмежаваўшы магчымасаць разгледжаньня спраў у адсутнасьці падсуднага толькі выпадкамі, калі яму пагражае пазбаўленьне волі тэрмінам ня вышэй трох месяцаў. Артыкуламі 8, 8-а 50, 53 ў новай рэдакцыі значна пашырана права ўдзелу ў працэсе рабочых і прафэсіянальных арганізацый, сялянскіх таварыстваў узаемадапамогі і інш. грамадзкіх арганізацый пралетарыяту і працоўнага сялянства, каторыя могуць выступаць у якасьці абвінавачваемых, абаронцаў, прадстаўнікоў інтарэсаў пацярпеўшага і грамадзянскага ісца.

Значным зьменам падпала касацыйнае справавядзеньне і справавядзеньне ў парадку нагляду. Паводле дзейнічаючых арт. арт. 419 і 437 акруговыя і найвышэйшы суды могуць зьмяніць прыгавар толькі ў пэўных граніцах: акрсуд ня можа павялічыць меру сацыяльнай абароны і ня можа зьмякчаць яе ніжэй граніцы, устаноўленай арт. КК, ён павінен быў хадайнічаць аб гэтым перад прэзыдыумам ЦВК. Па новай рэдакцыі паказаных вышэй артыкулаў, адпавядаючаму арт. 27 „Асноў“, гэтыя абмежаваньні адменены. Касацыйныя інстанцыі маюць права зьмяніць прыгавар як у бок памяншэньня, гэтак і павялічэньня меры сацыяльнай абароны, у тым выпадку, калі гэта магчыма без асобнага справавядзеньня па паверцы доказаў. Калі-ж паверка доказаў неабходна, а таксама ў іншых выпадках, калі касацыйная інстанцыя знойдзе гэта патрэбным, справа перадаецца для новага разгляду ў ніжэйшую інстанцыю. Пры разглядзе ніжэйшай інстанцыяй такой справы, паводле новай рэдакцыі арт. 424, у які унесена норма, выкладзеная ў арт. 26 (ч. 3) „Асноў“, суд можа павысіць меру сацыяльнай абароны толькі тады, калі прыгавар апратэставан пракуратурай, між тым як да гэтага часу для магчымасьці ўзмацненьня меры патрабавалася толькі адмена прыгавару па матывах, не паказаных у касацыйнай скарзе.

У адносінах справавядзеньня ў парадку нагляду вынесены наступныя зьмены: 1) у адносінах працоўных спраў права вытрабаваньня іх і ўзбуджэньня справаводзтва ў парадку нагляду дадзена і пракурору па працоўных справах; 2) перагляд прыгавару, уступіўшага ў законную сілу, дапусьцім у выпадку калі судом, які вынес прыгавар, было дапушчана пры разглядзе справы „істотнае парушэньне форм судаводзтва або законаў СССР або саюзных рэспублік“ (дзеючыя артыкулы кажуць толькі аб „істотных парушэньнях“); 3) пры пераглядзе справы ў парадку нагляду дапускаецца толькі адмена прыгавару і паказаньне з якой стадыі працэсу аднавіць справу; тым самым адмяняецца права інстанцый нагляду ўнесьці зьмены ў прыгавор. У сэнсе паказаных зьмен і перарэдагаваны арт. арт. 440 і 441.

Нарэшце, у адпаведнасьці з характарам касацыйнага разгледжаньня спраў па нашаму заканадаўству касацыйнае справавядзеньне перамянована ў касацыйна-рэвізійнае.

Асобна належыць вылучыць артыкул аб мове, на якой вядзецца працэс. Гэта асабліва важна для многанацыянальнай рэспублікі, якою зьяўляецца БССР. Праблема мовы працэсу стаіць у нас даўно і ўжо раней зроблены некаторыя крокі да вырашэньня гэтага пытаньня. Паводле арт. 19 „Палажэньня аб судабудаўніцтве БССР“ утвараюцца ў азначаным гэтым артыкулам парадку камэры народных судоў з пастаноўкай у іх судаводзтва на мове данай нацыянальнасьці. Мы таксама ведаем, што пры ўкамплектаваньні найвышэйшага і акруговых судоў ведаючыя гэтым органы імкнуцца да ўклю-

чэньня ў склад іх асоб, якія прыналежаць да нацыянальных меншасьцяй. Гэтыя меры зьяўляюцца, напэўна, найбольш грунтоўнымі. Але з тае прычыны, што ў выніку шмат якіх прычын урад ня можа ўтварыць такую колькасьць „нацыянальных камэр“, каб поўнасьцю здаволіць інтарэсы ўсіх нацыянальнасьцяй, і з тае прычыны, што апрача таго ў большай колькасьці выпадкаў у судовым працэсе ўдзельнічаюць асобы розных нацыянальнасьцяй, то прыняты шэраг іншых мер. У поўнай адпаведнасьці з „Асновамі“ зьменена радакцыя арт. 22 КПК наступным чынам: „Крымінальныя справы на судзе разглядаюцца, як агульнае правіла, на беларускай мове. Калі падвіноўныя ня ведаюць беларускай мовы, то суд перад тым як назначыць справу да разгляду, вырашае ў распарадчым пасяджэньні пытаньне аб мове, на якой будзе весьціся справа, а па справах, падсудных народнаму суду, таксама пытаньне аб перадачы справы ў нацыянальную камэру (арт. 19 Палажэньня аб судабудаўніцтве), кіруючыся пры вырашэньні гэтых пытаньняў інтарэсамі найбольш поўнага высьвятленьня справы, інтарэсамі публічнасьці суду і інтарэсамі падвіноўных.

Калі асобы,што бяруць удзел у справе, ня ведаюць мовы, на якой вядзецца даная справа, то сьледчыя органы і суд павінны запрасіць перакладчыка і праз гэтага перакладчыка паведамляць зацікаўленых асоб аб кожным працэсуальным дзеяньні, у такіх выпадках абвінавальнае заключэньне і іншыя дакумэнты павінны ўручацца падвіноўнаму ў перакладзе на яго родную мову і агалошваюцца, калі ён гатага будзе патрабаваць, таксама на яго роднай мове. Значыцца, поруч з перадачай справы ў нацыянальную камэру патрабуецца абавязковае запрашэньне перакладчыка, абавязковае ўручэньне абвінавачваемаму абвінавальнага заключэньня і іншых дакумэнтаў на яго роднай мове, абавязковае прыняцьце ад яго папер і дакумэнтаў на яго роднай мове і, нарэшце, абавязковае ў выпадках выражанага ім жаданьня, агалашэньня ўсіх дакумэнтаў на судзе на яго роднай мове. Усе гэтыя меры ў найбольшай ступені забясьпечваюць інтарэсы нацыянальных меншасьцяй.

З другіх зьмен і дадаткаў адзначым яшчэ наступныя: ўстаноўлен парадак зносін з замежнымі судамі (арт. 22-а); зьменен парадак вытварэньня вобыскаў і выемак у памяшканьнях дыплёматычных прадстаўнікоў чужаземных дзяржаў (арт. 178); удакладнен парадак пазбаўленьня ордэну чырвонага або працоўнага сьцягу (увага да арт. 454) і ўстаноўлен парадак датэрміновага вызваленьня ад іншых апрача пазбаўленьня волі і прымусовых прац, мер сацыяльнай абароны (абз. 2-га арт. 458); нарэшце ўнесена шэраг рэдакцыйных зьмен.

Аднак, гэтым перапрацоўка КПК толькі пачата. Належыць заразжа прыступіць да грунтоўнага перагляду КПК па сутнасьці ва ўсіх артыкулах працэсу, паставіўшы перад сабою мэтай спрашчэньня працэсу пры адначасным захаваньні гарантыі для падсуднага, поўнага зьнішчэньня валакіты і бяздушнага фармалізму, ідучага ў ушчэрбак матар'яльнай ісьціне і сапраўдным інтарэсам абвінавачваемых. У гэтай працы не павінна перашкаджаць існаваньне агульнасаюзных норм, бо пры неабходнасьці можна падняць хадайніцтва перад ЦВК Саюзу аб зьменах гэтых норм. Мы ўжо зазначалі на некаторыя артыкулы „Асноў“, якія патрэбна зьмяніць. Пакажам яшчэ для прыкладу на арт. 8, які пералічае выпадкі абавязковасьці вытва-

рэньня папярэдняга следзтва*) і арт. 22, які ўводзіць чамусь-ці, у паказаных у ім выпадках, прынцып спаборніцтва ў крымінальны працэс. Пастанова аб неабходнасьці перааправоўкі КПК Наркамюстам ужо прынята на пасяджэньні КЗП 2 жніўня 1927 г. Трэба думаць, што НКЮ, ужо прыступіўшы да гэтай працы, выпаўніць яе ў цесным супрацоўніцтве з нізавымі судовымі органамі.

## АБ АБАРОЧВАНЬНІ СПАГНАНЬНЯЎ НА ЎКЛАДЫ, ЯКІЯ ХАВАЮЦЦА Ў ДЗЯРЖАЎНЫХ АШЧАДНЫХ КАСАХ.

За адсутнасьцю крэдытнага статуту, праўнае становішча ўкладаў крэдытных установаў рэгулюецца, як сынгулярнымі законамі, гэтак, у асаблівасьці, статутамі крэдытных установаў.

Першым з такіх законаў па часу, зьяўляецца пастанова Саўнаркому РСФСР ад 30/VI—1921 г., устанаўляючая, што банкаўскія ўклады ня могуць падлягаць канфіскацыі і арышту, інакш як па спэцыяльных пастановах органаў, нададзенымі судовымі правамі. Гэта пастанова мела і захоўвала да сучаснага моманту значэньня агульнасаюзнага закону.

Зусім ідэнтычныя палажэньні ў адносінах захаваньня тайны ўкладаў зьмяшчае пастанова СНК РСФСР ад 25/II—1925 і адпаведная пастанова заканадаўчых Саюзных рэспублік.

Прынцыпы, выкладзеныя ў гэтых дэкрэтах успрыняты большасьцю банкаўскіх статутаў.

Асноўнай перавагай банкаўскіх укладаў зьяўляецца праўная гарантыя, якая забараняе ад спагнаньняў падатковых органаў і канфіскацый у адміністрацыйным парадку. Такім чынам, уклады ў крэдытных установах не забраніраваны толькі супроць судовых спагнаньняў па грамадзянскіх і крымінальных справах.

Такою-ж істотнаю часткаю банкаўскага заканадаўства зьяўляецца гарантыя тайны ўкладаў, пад каторай разумеецца як абарона ўкладачных апэрацый ад знаямленьня з імі пабочных асоб, так і ад вучоту гэтых апэрацый з боку фінорганаў, могучага быць вытвараным з мэтаю падатковага абкладаньня (гл. пастановы СНК РСФСР ад 30 ліпеня 21 г., З.З. № 52, арт. 301 і ў асаблівасьці пастанова СНК ад 25 лютага 25 г., З. З. № 18, арт. 115 і інш.).

Поруч з гэтымі агульнымі гарантыямі зусім выключную абарону і выключныя перавагі па ўкладных апэрацыях атрымалі ўкладчыкі ашчадных кас. Аб'ём гетых пераваг так вялікі і так новы для нашых мясцовых судовых працаўнікоў, што выклікае ня рэдкія разнагалосьсі між імі і ашчаднымі касамі на грунце адмовы апошніх ад выкананьня памылкова, па не знаёмству судовых органаў з Палажэньнем аб Дзяржаўных працоўных ашчадных касах, вынесеных рашэньняў па грамадзянскіх і працоўных справах, і з органамі

*) Арт. 108 КПК складзен з арт. 8 „Асноў" яшчэ да прыняцьця гэтай пастановы.

фіска па спагнаньню падаткаў. Расьсеяць гэтыя недаўменьні неабходна як дзеля таго, каб пазбавіць ашчадныя касы ад магчымасьці недапусьцімага, з пункту гледжаньня рэвалюцыйнай законнасьці, адмовы ад выкананьня вынесеных судовымі мясцамі, у парушэньне палажэньня аб ашчадных касах, рашэньняў, так і з мэтаю ўмацаваньня давер'я насельніцтва да ашчадных кас.

Ільготы, якія даюцца законам укладчыкам ашчадных кас, падзяляюцца на наступныя дзьве катэгорыі: 1) ільготы, якія маюць сваёй мэтай абараняць уклады ад прэтэнзій 3-х асоб і 2) ільготы, якія прадстаўляюць з сябе выключэньне з агульных законаў на карысьць укладчыкаў. Да 1-ай катэгорыі ільгот прыналежаць ільготы, прадугледжаныя артыкулам 4 Палажэньня аб Дзяржаўных ашчадных касах. Гэтыя ільготы ўяўляюць з сябе ўжо вядомую нам па банкаўскіх статутах пастанову аб тайне ўкладаў, аднак, у значна больш шырокім відзе. Так, большасьць банкаўскіх статутаў дазваляе выдачу справак аб укладчыках і аб стане ўкладаў судовай уладай па вытвараючыхся ў іх грамадзянскіх і крымінальных справах, артыкул-жа 4-ы Палажэньня аб ашчадных касах дазваляе выдачу справак судовым установам толькі па вытвараючыхся крымінальных справах. Такім чынам, выдача справак па грамадзянскіх справах Палажэньнем аб ашчадных касах забаронена. Адпаведна вышэйскладзенаму рэдагаван арт. 3-ці Палажэньня аб Ашчадных касах, паводле каторага ўклады, якія ўнесены ў ашчадкасы, могуць падпадаць арышту і канфіскацыі ня інакш як у моц пастаноў судовых і судова-сьледчых органаў па крымінальных справах.

З гэтага (між іншым даволі туманнага і няўдалага зрэдагаванага артыкулу) з бясспрэчнасьцю, аднак, выцякае, што абарочваньня спагнаньняў на ўклады ў ашчадныя касы па грамадзянскіх справах (а таксама і па падатковых) не дапускаецца, бо само сабою разумеецца, што ўсякаму такому прымусоваму спагнаньню ня можа не папераджаць, ці ў парадку забесьпячэньня іску, альбо ў парадку выкананьня судовага рашэньня, забарона выдачы ўкладу яго ўласьніку, г. зн., інакш кажучы, арышт укладу. Гэтак-жа сама магчымасьць абарочваньня спагнаньняў на ўклады па грамадзянскіх справах парушала-б арт. 4 Палажэньня, бо ў выканаўчым лісьце павінна быць дакладна паказана, на якую маемасьць накладаецца ў парадку забесьпячэньня або выкананьня арышт або абарочваецца па судоваму рашэньню спагнаньне.

Між тым ісцу ня можа быць вядома ні тая акалічнасьць, што ў адказчыка ёсьць уклад наогул, ні ў асаблівасьці разьмер апошняга. Ашчадныя-ж касы ніякага водзыву аб маючыхся ў іх на рахунках укладах па грамадзянскіх справах даваць ня маюць права.

З вышэй паказанага належыць, што спагнаньне на ўклады па грамадзянскіх справах без парушэньня абараняемай дзяржавай тайны ўкладу, магчыва толькі ў адным выпадку, калі адказчык сам дабраахвотна перадае пазыку ўкладныя дакумэнты або пакажа разьмер хаваючыхся ва ўкладзе сум, даў тым самым сваю згоду на абарочваньне спагнаньняў на ўклад. У такім-жа самым становішчы знаходзяцца і спагнаньні і па падатковых справах. Гэтыя апошнія таксама ня могуць быць прымусовым парадкам абернуты на ўклады ў ашчадных касах. Між тым, калі па падатковых справах пэўныя дырэктывы па лініі Наркамфіну ўжо дадзены, і падатковыя органы амаль паўсямесна адмовіліся ад карыстаньняў на абарочваньня спагнаньняў на ўклады, дык па судовых справах, напроціў, да гэтага часу мы ня здолелі дабіцца аднастайнай судовай практыкі. Мы ведаем шэраг

рашэньняў судовых месц, згодна каторых спагнаньні па грамадзянскіх справах пастаноўлена абярнуць на ўклады. Ня маючы права выконваць такога роду рашэньні, ашчадныя касы зьяўляюцца ў затрудніцельным становішчы, бо абскардзіць гэтыя рашэньні ў касацыйным парадку яны звычайна ня могуць у моц таго, што рашэньні прад'яўляюцца да выкананьня ўжо па ўступленьні іх у законную сілу. Разам з тым скаргі ў парадку нагляду, часта ня могуць быць паданы як за пропускам месячнага тэрміну, так і таму, што гэтыя скаргі за няведаньнем Палажэньня аб Дзяржаўных працоўных ашчадных касах, не прапускаюцца пракуратурай.

У такіх выпадках касам прыходзіцца выбіраць між аднолькава непрыемлемымі, з пункту гледжаньня савецкай законнасьці выйсьцямі: невыкананьнем вайшоўшага ў законную сілу рашэньня суду або парушэньнем абавязку дзяржавы перад укладчыкам. Азначаныя вышэй непаразуменьні належыць у мэтах разьвіцьця ашчаднай справы, у асаблівасьці ў вёсцы, неадкладна адхіліць і мясцовым судовым працаўнікам належыць вывучыць сапраўдны сэнс адпаведных артыкулаў Палажэньня аб дзяржаўных працоўных ашчадных касах.

Разам з тым, працаўнікам на мясцох трэба зразумець, што зазначаныя вышэй артыкулы зусім не прадстаўляюць з сябе сродкаў для сакрыцьця ўкладаў ад законных спагнаньняў і што калі такога роду сакрыцці будуць мець месца, дык да вінаватых нямінуча будуць дапасованы арт. арт. 60, 169, 134, 158 і інш. арт. Крымінальнага Кодэксу РСФСР і аналёгічныя артыкулы К. К. саюзных рэспублік, якія караюць за злосны неплацёж падаткаў, ухіленьне ад плацяжу алімэнтаў, парушэньне заканадаўства аб працы і інш.

Рэальная-ж карысьць для дзяржавы ад прыцёку грошай у ашчадкасы, у зьвязку з умацнёнай іх абаронай законам ад спагнаньняў, натолькі значней, чым шкода ад магчымых выпадкаў што няможа сакрыцьця пахістаць упэўненасьці ў мэтазгоднасьці сапраўднай замены ашчадных кас у самыя надзейныя таямніцы насельніцтва.

У сучасны момант вырашчэньня пытаньня аб ахове ўкладаў ад няправільных спагнаньняў палягчаецца выданьнем спэцыяльнай пастановы СНК СССР ад 11/IV (Изв. от 20/IV, № 90) падкрэсьліваючай неабходнасьць самага строгага захаваньня тайны ўкладаў. А без парушэньня тайны укладаў, як мы зазначалі ўжо вышэй, немагчыма і абарочваньне спагнаньня на гэтакія.

*П. Ліндэ.*

## АБСЬЛЕДАВАНЬНЕ ДЗЕЙНАСЬЦІ САВЕЦКІХ УСТАНОЎ І НЕДАХОПЫ ГЭТАЕ ПРАЦЫ.

З увядзеньнем інстытуту вучастковай пракуратуры ў БССР (восень 1925 г.), побач з памяншэньнем усяе працы пракуратуры, значна разгарнулася праца па галіне агульнага нагляду. Аднэй з асноўных форм гэтае працы, якая існавала і мае пэўную падставу існаваць і ў далейшым—гэта абсьледаваньне савецкага апарату. У апошнія часы сустракаюцца праціўнікі форм гэтае працы ў відзе абсьледаваньняў і праціўнікі гэтыя выходзяць з складу супрацоўнікаў пракурорскага нагляду. Таварышы разважаюць часта так: што абсьледаваньні

зводзяцца ў большасьці да дробязяў (санабгляд, сьмяцьцё ў с/сав., апалы ў школах і інш.), што абсьледаваньні замяняюцца рэвізіямі, і трэці момант—гэта абгляды ўсіх установ, чаго часам не патрабуе жыцьцё і не ўваходзіць у непасрэдныя абавязкі пракурора. Вялікая блытаніна ў разьмежаваньні азначэньня „абсьледаваньня“ ад „рэвізіі“ і адначасова незразуменьне таго, што пракурор павінен абсьледаваць —якія ўстановы, якімі шляхамі і складаюць хворыя думкі і разважаньні аб непатрэбнасьці абсьледаваньняў.

Практыка працы ўжо даказала недарэчнасьць такіх поглядаў. Разгледзім паасобку асобныя галоўныя моманты гэтае працы: 1) Ці патрэбны нам, альбо не—абсьледаваньні і якіх установ? 2) І якім чынам рабіць гэтыя абсьледаваньні, і іх сучасныя недахопы?

Пры разглядзе першага пытаньня трэба разумець, што нагляд пракурора за законнай дзейнасьцю таго ці іншага савецкага органу мае два моманты: першы—гэта праверка фармальна—правільнасьці і другі—праверка кожнага пытаньня па сутнасьці, з пункту погляду клясавай прыроды савецкай улады і камуністычнай партыі. Практыка працы Пракуратуры даказвае, што бываюць частыя выпадкі, калі па форме рашэньня ўстановы і правільна, але-ж яно не адпавядае пралетарскай палітыцы па сутнасьці, асабліва ў вёсках па зямельных, падатковых і іншых пытаньнях.

І вось, каб фармальна праверыць распараджэньне альбо пастанову пракурор зьбірае лічбавыя матар'ялы, копіі і інш. дакумэнты, але-ж прагляд гэтых матар'ялаў у нізавым савецкім апараце ніколі ня дасьць пэўнага малюнку ўкараненьня рэвалюцыйнай законнасьці без непасрэднай сувязі асоб пракуроскага нагляду з рабочымі і сялянскімі масамі на месцы. Так, пракурор праглядае фармальны бок законнасьці рашэньняў установы, а потым шляхам гутарак з актывам і насельніцтвам, прыёмам скаргі па розных пытаньнях правярае пастановы наколькі яны верны з пункту погляду нашай палітыкі, мясцовых умоў і г. д. Вось зачым патрэбны абгляды.

Зразумела, што фармальныя абгляды ўстаноў, асабліва нізавога савецкага апарату без палітычнай работы пракурора, бяз сувязі яго з ячэйкай, актывам і масамі выльлюцца ў чыста фармальны канцэлярскі і бюракратычны абгляд. Пагэтаму абгляды павінны злучацца заўсёды з палітпрацай пракурора.

На пытаньне аб тым, дзе павінна быць згрунтавана ўвага пракурора ва ўсёй яго працы і ў прыватнасьці па агульнаму нагляду ўжо сказаў СНК БССР па дакладу НКЮ яшчэ 14-га кастрычніка 1926 году. У ўступнай частцы дырэктыў Саўнаркому сказана: „Даручыць НКЮ накіраваць сваю работу ў 1926/27 годзе на важнейшыя пытаньні, якія высоўваюцца на першы плян сучасным гаспадарчым і палітычным становішчам рэспублікі“ і далей арт. 6 пастановы кажа: „У парадку агульнага нагляду за рэвалюцыйнай законнасьцю органам пракуратуры трэба асаблівую ўвагу зьвярнуць на вёску“.

Па дакладу НКЮ аб рэвалюцыйнай законнасьці артыкул першы пастановы СНК кажа: „Асноўную работу органаў юстыцыі і асабліва пракуратуры накіраваць на самую рашучую барацьбу з парушэньнямі закону меўшымі месца ў нізавых савецкіх, адміністрацыйных і гаспадарчых органах, асабліва ў вёсцы“.

Адсюль зусім відавочна, што ўся ўвага павінна быць зьвернута на нізавы савецкі апарат, які непасрэдна датыкаецца з насельніцтвам і здавальняе штодзённыя патрэбы насельніцтва. Такімі ўстановамі зьяўляюцца: сельсавет, земкамісія, РВК і міліцыя. Вось тут і патрэбен сыстэматычны абгляд і барацьба з парушэньнямі.

Разам з гэтым трэба заўважыць і ўнясьці яснасьць у абсьледаваньні іншых нізавых устаноў.

На вёсцы існуе шэраг іншых устаноў, напрыклад: камітэт сялянскае ўзаемадапамогі, каапэрацыі ўсіх відаў, мэліарацыўныя і грамадзкія арганізацыі. Установы гэтыя зьўляюцца ўстановамі грамадзкімі і арганізуюцца ў выніку самадзейнасьці грамады, пагэтаму пракуратура не павінна ставіць сабе як абавязак абсьледаваньня гэтых устаноў у плянавым парадку, а можа і павінна абглядаць іх у тых выпадках, калі маюцца повады да злоўжываньня службовых асоб, з мэтай папярэджаньня крымінальных пасьледкаў.

Галоўнымі недахопамі ў працы пры абглядах яшчэ зьяўляюцца: адсутнасьць у пракуратурах самай сыстэмы абсьледаваньня, адсутнасьць плянавасьці працы, распыленасьць аб'ектаў абсьледаваньня, фармальна-канцэлярскі падыход да абсьледаваньняў і адсутнасьць ўвязкі абсьледаваньняў з палітпрацай пракурора і шэраг іншых, але-ж аб гэтым пагаворым у наступным нумары.

*Судакоў.*

# АДМІНІСТРАЦЫЙНАЕ ВЫСЯЛЕНЬНЕ *).

Месяцы перад лістападам звычайна зьяўляюцца найбольш „страднымі“ па ліку высяленьняў у адміністрацыйным парадку. Большая частка гэтых высяленьняў прыпыняецца з 1-га лістапада па 1-га красавіка і натуральна, што Камгас стараецца выкарыстаць дадзены яму законам тэрмін і да 1-га лістапада вызваліць жыльлёвую плошчу, якая занята грамадзянамі не па закону.

У сувязі з гэтым асабліва абвастраецца інтарэс да закону за 19-га лютага (аб умове і апрадку высяленьня грамадзян з займаемых імі памяшканьняў у гарадох і мястэчка-З.З. БССР № 12, арт. 42), зьяўляецца неабходнасьць разьвязаць тыя спрэчныя пытаньні, якія паступаюць у сувязі з ужываньнем гэтага закону на практыцы.

Мы спрабуем, калі ня вырашыць, дык паставіць гэтыя пытаньні на абгаварэньне.

Як правіла, закон устанаўляе высяленьне ў судовым парадку і толькі ў відзе рэдкага выключэньня дапускае адміністрацыйнае высяленьне, ставячы магчымасьць яго дапасаваньня ў надзвычайна

*) **Ад рэдакцыі:** Зьмяшчаючы гэты артыкул у парадку абгаварэньня, рэдакцыя лічыць патрэбным зрабіць наступныя заўвагі:

1) Хоць ужыты ў п. „а“ і „б“ арт. 2 закону 19-II—27г. выраз „для службовых мэтаў“ і патрабуе афіцыйнага растлумачэньня, аднак, правільна яго разумець у сэнсе „патрэбнасьцяй установы“ у тым ліку і патрэбнасьці прадастаўленьня кватэр служачым данай установы. Пад патрэбнасьць установы не падыходзіць, канечна, здача ў арэнду пабочным.

2) У адносінах высяленьня асоб, самавольна ўсяліўшыхся ў свой час, Аддзелам Заканадаўчых Праэктаў НКЮ дадзена растлумачэньне, што высяленьне асоб, самавольна ўсяліўшыхся ў дамы, якія прадастаўлены ЖКТ-ам, павінна вытварацца ў адміністрацыйным парадку.

3). Асоба, якая ўсялілася ў парадку арт. 70 Гр. Код. пры патрабаваньні органаў Камунальнай Гаспадаркі падлягае высяленьню ў адміністрацыйным парадку па п. „в“ арт. 2.

вузкія рамкі і, разумеецца, што практыка непавінна штучна рассоўваць гэтыя рамкі, бо пры існуючым жыльлёвым крызісу, высяленьне з памяшканьняў зьяўляецца вельмі цяжкім ударам для высяляемых.

Умову для дапасаваньня адміністрацыйнага высяленьня можна зьвесьці да наступных груп:

1. З замацованых дамоў, калі памяшканьні патрэбны для ўстаноў, за якімі дамы замацованы (арт. 2 п. п. „А" і „Б").

2. З памяшканьняў, знаходзячыхся ў распараджэньні Камунальнага Аддзелу пры самавольным заняцьці гэтакіх (арт. 2, п „в").

3. З памяшканьняў, якія заняты па спэцыяльнаму дагавору альбо ў сувязі са службаю па заканчэньні дзеяньня дагавору або службовых адносін (арт. 2, п. п. „д", „е", „ж", „з", „і", „м".)

4. З дамоў, якія пагражаюць абвалам (п. „і").

5. З казарменных памяшканьняў і з памяшканьняў, знаходзячыхся ў паласе адчужэньня пабочных асоб.

6. Высяленьне з замацованых дамоў.

Пытаньне аб тым, якія дамы зьяўляюцца замацованымі ўзьнікала і ў РСФСР яшчэ ў 1924 г., калі неабходна было дакладна акрэсьліць, з якіх дамоў можна высяляць у адміністрацыйным парадку. У тым-жа 1924 г. Трэці Аддзел Наркамюсту растлумачыў што дамы могуць замацованы толькі ў парадку спэцыяльнага акту дзяржаўнай улады і што адзінай падставай для замацаваньня зьяўляюцца адміністрацыйныя акты агульнасаюзных, агульнарэспубліканскіх або мясцовых органаў савецкай улады.

Закон 19 лютага ўстанаўляе два віды замацованых дамоў: а) дамы замацованыя за ўстановамі пастановай Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту або Саўнаркому і б) дамы замацованыя за ўстановамі акруговых выканаўчых камітэтаў, гарадзкіх або местачковых саветаў. Для другой катэгорыі замацованых дамоў закон устанаўляе сур'ёзнае абмежаваньне: дамы замацованыя пастановай не цэнтральнай, а мясцовай улады могуць быць вызвалены ад жыльцоў у адміністрацыйным парадку толькі ў тых выпадках, калі замацаваньне адбывалася да выданьня паказанага закону. Усе выпадкі замацаваньня мясцовай угадаю дамоў за ўстановамі, якое мела месца пасьля 19 лютага, не ствараюць умовы для адміністрацыйнага высяленьня. Пастанова-ж аб замацаваньні Цэнтральных Органаў Улады ўтвараюць гэтыя ўмовы незалежна ад таго ці адбыліся гэтыя пастановы да ці пасьля 19 лютага.

Што тычыцца прадастаўленьня даму ўстанове на дагаворных пачатках, то яно, разумеецца, ня цягне за сабою дапасаваньня артыкулу 2 закону 19 лютага. Такое растлумачэньне даваў па гэтаму пытаньню і Трэці Аддзел Наркамюсту РСФСР ў 1924 г: „Дамы перададзеныя данаму прадпрыемству або ўстанове ў доўгатэрміновую або каротка-тэрміновую арэнду без спэцыяльнага акту дзяржаўнай улады не павінны лічыцца дамамі замацаванымі за даным прадпрыемствам або ўстановай, бо ў супраціўным выпадку дагаворная згода Камунаддзелу з даным прадпрыемствам або ўстановай прыводзіла-б да пазабаўленьня права пражываньня асоб, якія не знаходзяцца на службе ў данай установе, у арэндных дамох", і далей—„тая акалічнасьць, што пасьля акту цэнтральнага або мясцовага органу ўлады прадпрыемства або ўстанова, за каторай замацован дом, заключае арэндны дагавор з мясцовым Камунаддзелам не ўстанаўляе і не адхіляе замацаваны стан данага дому. Заключэньне або не заключэньне арэнднага дагавору само па сабе зьяўляецца абы якім фактам для прызнаньня дому замацованым".

1) Пры высяленьні з дамоў замацованых (усёроўна па п. п. „А“ ці „Б“.) павінна быць захавана вельмі важная і сур'ёзная ўмова: патрэбна ўстанавіць тую акалічнасьць, што ўстановы або прадпрыемствы, хадайнічаючыя аб вызваленьні памяшканьняў, сапраўды маюць патрэбу ў гэтакім і без іх пазбаўлены магчымасьці правільна функцыянаваць. На гэту умову ў нас зварочваюць мала ўвагі і між тым не захаваньне яе стварае кватэрную чахарду. Мы ня можам высяляць з дома замацованага за ўстановай, калі кватэра патрэбна ўстанове, напрыклад, для агульнага памяшканьня, і калі па роду работы супрацоўнікі могуць свабодна жыць па-за данай установай.

2) Высяленьне з памяшканьняў знаходзячыхся ў распараджэньні Камунальнага Аддзелу пры самавольным заняцьці гэтакіх.

Адміністрацыйнае высяленьне з памяшканьняў, аднесеных намі да другой групы найбольш часта сустракаюцца.

Мы ўмысна аб'ядналі гэтыя памяшканьні не па прымеце прыналежнасьці іх, а па прымеце права распараджэньня імі камунаддзеламі. Да ліку гэтакіх дамоў адносяцца: а) памяшканьні, уваходзячыя ў камунальна-жыльлёвы фонд і б) так званая 30 проц. плошча ў прыватна-ўладальніцкіх дамох.

Пры высяленьні асоб самавольна заняўшых 30 проц. плошчу ў прыватных дамох, пытаньне аб прыналежнасьці дому не выклікае сумненьня. Ясна што дом прыналежыць прыватнай асобе і камунаддзел мае толькі права распараджэньня данай плошчаю.

Але тое-ж права распараджэньня домам павінна быць наяўна і пры высяленьні ў адміністрацыйным парадку з дамоў муніцыпалізаваных, вахадзячых у Камунальны жыльлёвы фонд. Калі-ж Камунаддзел пераступіў па дагавору прыватнай асобе, установе або каапэрацыі данае памяшканьне, дык высяленьне асоб самавольна ўсяліўшыхся ў такія памяшканьні павінна вытварацца не ў парадку арт. 2 закону ад 19 лютага, а ў парадку п. „е“ першага артыкулу гэтага-ж закону, г. зн. не адміністрацыйным, а ў судовым парадку. Да гэтага тлумачэньня нас прыводзіць тэкст п. „в“ арт. 2. Паводле гэтага артыкулу высяленьне ў адміністрацыйным парадку можа адбыцца ў тых выпадках, калі кватэра занята без дазволу кіраўніцтва дамамі аддзелу (часьці) камунальнай гаспадаркі, або замяняючага яго органу. Натуральна, што ў дамох арэндуемых ЖКТ-амі, прыватнымі асобамі і г. д. заняцьця кватэр ня можа адбыцца з дазволу, а вытвараецца толькі з дазволу арэндатара і ў выпадках самавольнага заняцьця памяшканьняў ў арандуемых дамох няма ўмовы патрабуемага п. „в“ арт. 2.

Правільнасьць такога тлумачэньня пацьверджаецца таксама і тым, што п. „е“ арт. 1 прадугледжваючы ўмову высяленьня ў судовым парадку, прадугледжвае ўсяленьне ў прыватна-уладальніцкія дамы, бо ў гэтакіх няма дамакіраўніцтва, адносіцца іменна да арандуемых дамоў.

Вымаганьне ЖКТ-аў і ўстаноў арандуючых дому аб адміністрацыйным высяленьні самавольна ўсяліўшыхся зьяўляецца незаконамернымі і не падлегаюць здавальненьню.

Неабходна яшчэ ўстанавіць граніцы самавольнага ўсяленьня.

Ці належыць пад самальным усяленьнем разумець усе выпадкі па найму з парушэньнем арт. 170 Гр. Код., г. зн. без дазволу камунаддзелу.

Закон аб адміністрацыйным высяленьні з нашага пункту гледжаньня дапасоўваецца ў тых выпадках, калі няма ніякай спрэчкі аб

праве грамадзянскім, калі наяўнасьць ёсьць толькі аднаўленьне парушанага ўладаньня.

Ва ўсіх-жа выпадках, калі неабходна вырашыць якую-небудзь спрэчку аб законнасьці пад найму, аб застаўленьні ранейшым наймальнікам кватэры і г. д., пытаньне павінна быць вырашана ў судовым парадку.

Што тычыцца астатніх умоў высяленьня ў адміністрацыйным парадку і зьвязаных з ім пытаньняў, дык мы іх яшчэ зачэпім у наступным артыкуле.

*М. Гарт.*

## АБ ДАГАВОРЫ ПАСТАЎКІ.

Грамадзянскі Кодэкс Б. С. С. Р., роўна як і грамадзянскія кодэксы іншых саюзных сацыялістычных рэспублік, не дае ніякіх норм аб дагаворы пастаўкі.

Адзіны напамінак аб дагаворы пастаўкі маецца ў арт. 244, каторы адпавядае і паўтарае зьмест арт. 235 Г. К. Р. С. Ф. С. Р.

Арт. 244 Гр. Код. Б. С. С. Р. гаворыць: „У адносіне да парадку, у каторым заказьнікам зьяўляецца орган дзяржавы, дапасоўваюцца правілы палажэньня аб дзяржаўных падрадах і пастаўках“.

Прыведзены вышэй арт. 244 зьяўляецца апошнім артыкулам у разьдзеле VII абавязацельственага права грамадзянскага кодэксу, разважаючым аб падрадзе.

Такім чынам, у адрозьніваньне ад падраду, каторы нарміруецца як Грамадзянскім Кодэксам, так і спэцыяльным палажэньнем аб дзяржаўных падрадах і пастаўках, дагавор пастаўкі прама прадугледжваецца толькі ў гэтым апошнім палажэньні. Арт. 2 гэтага палажэньня (С. З. Союза С. С. Р. 1927 года, № 28, ст. 292) дае азначэньне дзяржаўнай пастаўцы, а арт. 4 таго-ж палажэньня пастанаўляе, што адносіны пажім старанамі па дзяржаўных пастаўках, ва ўсім, што не прадуглежана гэтым палажэньнем, рэгулююцца пастановамі грамадзянскіх кодэксаў саюзных рэспублік аб куплі-продажу.

Выкладзеныя вышэй артыкулы ня мелі месца ў ранейшым палажэньні аб дзяржаўных падрадах і пастаўках 1923 году, каторая зараз адменена.

Ня гледзячына гэта судовая практыка ўпаўне правільна і раней дапасоўвала да пастаўкі адпаведныя нормы Грамадзянскага Кодэксу, што разважаюць аб куплі-продажу.

Пагэтаму арт. 4 новага палажэньня аб дзяржаўных падрадах і пастаўках толькі пацьвярджае існуючы парадак рэчаў.

І тэорыя грамадзянскага права і наша судовая практыка, прыходзяць, бясспрэчна да таго вываду, што дагавор пастаўкі зьяўляецца адным з відаў дагавору куплі-продажу. Вось пагэтаму як і большасьць заходня-эўрапейскіх кодэксаў, наш грамадзянскі кодэкс не рэгулюе асобна дагавору пастаўкі. Аднак, належыць прызнаць, што дагавор пастаўкі наогул, а па нашаму заканадаўству ў асаблівасьці, мае некаторыя спэцыяльныя рысы, на каторых і неабходна спыніцца, каб правільна дапасоўваць да яго нормы закону ня зьмешваючы гэты дагавор з іншымі дагаворамі.

Паказаны вышэй арт. 2 палажэньня аб дзяржаўных падрадах і пастаўках дае такое азначэньне: „Па дагавору дзяржаўнай пастаўкі пастаўшчык (прадавец) абавязуецца даставіць дзяржаўнай установе або прадпрыемству (купцу) да азначанага тэрміну умоўную колькасьць рэчаў (тавараў), азначаных радавымі прымерамі, а купец абавязуецца прыняць іх і заплаціць умоўную цану.“

Згодна прыведзенага азначэньня асаблівай і найбольш характэрнай прыметай пастаўкі зьяўляецца прадмет яе, а іменна: „умоўленая колькасьць рэчаў (тавараў) азначаных радавымі прыметамі. Гэтай прыметай пастаўкі адрозьніваецца, напрыклад, ад запродажу, прадметам каторай можа быць толькі асабова пэўная рэч. Наадварот, прадметам пастаўкі ніякім чынам ня можа быць асабова пэўная рэч.

Астатнія дзьве істотныя прыметы пастаўкі: а) перадача ва ўласнасьць і б) за ўмоўленую цану—тыя-ж, што і для куплі-продажу. Такім чынам можна сказаць, што ўсякі дагавор пастаўкі зьяўляецца ў той-жа самы час і дагаворам куплі-продажу, але на рэчы (тавары), азначаемыя радавымі прыметамі.

Але пастаўка мае яшчэ дзьве характырных для яе прыметы, на каторыя няма паказаньняў у прыведзеным вышэй азначэньні закону:

1) Бясспрэчнай прыметай дагавору дастаўкі (ня мае значэньня вядома, аб якой пастаўцы мы гамонім—аб дзяржаўнай ці паміж прыватнымі асобамі) зьяўляецца ўмова аб вядомай пэрыядычнасьці выкананьня дагавору, калі кантрагэнт прымае на сябе абавязак пастаўляць другому кантрагэнту азначанага роду рэчы не адразу, а па частках ва ўмоўленай колькасьці і ў тэрміны, каторыя імі вызначаны ўперад, або па меры патрабаваньня аб тым другога кантрагэнта, то гэта будзе дагавор пастаўкі.

2) Другой асаблівасьцю дагавору пастаўкі зьяўляецца тое, што гэты дагавор упаўне дзейны і ў тым выпадку, калі пастаўшчык у момант заключэньня дагавору ня быў уласьнікам рэчаў, каторыя ён абавязаўся пастаўляць, або абавязваецца толькі набыць іх.

Для пастаўкі, як і для запродажу гэтае пытаньне ня мае значэньня, і прадметам пастаўкі як і запродажу могуць быць рэчы, права ўласнасьці на каторыя ў момант заключэньня дагавору яшчэ не набытыя пастаўшчыкам.

Тут належыць адзначыць, што заходня-эўрапейскія кодэксы і для дагавору куплі-продажу наогул не патрабуюць, каб у прадаўца у момант заключэньня дагавору было наяўна права ўласнасьці на прадаваемую рэч, пагэтаму для гэтых заканадаўстваў паступова адсутнасьць асобных норм аб пастаўцы і запродажу.

Па нашаму заканадаўству палажэньне некалькі інакшае. Артыкул 185 Грамадзянскага Кодэку Б. С. С. Р. выразна патрабуе, каб прадавец уладаў правам уласнасьці на прадаваемаю рэч. Узятая асобна пастанова арт. 185 Г. К. Б. С. С. Р. дастаткова катэгарычна, і на падставе гэтага артыкулу належыць прыйсьці да таго вываду, што заключэньне дагавору продажу дапусьціма толькі адносна такіх рэчаў, права ўласнасьці на каторыя належыць прадаўцу. Але ў такім выпадку, як-жа быць з пастаўкай, бо прадметам яе ў большась-

сьці выпадкаў зьяўляюцца рэчы, права ўласнасьці на каторыя пастаўшчыку ў момант заключэньня дагавору не прыналежыць; хіба-ж з-за гэтага неабходна дапаўняць Грамадзянскі Кодэк асобнымі нормамі аб пастаўцы?

Практыка аднак нашла ўпаўне законны выхад з гэтага палажэньня. Для правільнага растлумачэньня арт. 185, яго належыць зьвязаць з арт. 182, які дае азначэньне паняцьця куплі-продажу і з арт. арт. 66 і 67.

Прадавец павінен перанесьці на набыўца рэчы права ўласнасьці на гэту рэч (арт. 182 Г. К. БССР), значыцца прадавец сам павінен мець права ўласнасьці на рэч, што прадаецца да моманту пераняеньня права ўласнасьці на яе да пакупніка. Гэты-ж апошні момант наступае ў розны час у залежнасьці ад таго, якія рэчы зьяўляюцца прадметам дагавору куплі-продажу.

Калі прадаецца рэч асабова пэўная, дык права ўласнасьці на яе ўзьнікае ў набыўца ў момант заключэньня дагавору куплі-продажу (арт. 66). Адгэтуль належыць, што прадавец асабова азначанай рэчы павінен уладаць правам уласнасьці на яе ўжо ў момант заключэньня дагавору куплі-продажу.

У выпадку-ж продажу рэчаў, азначаемых радавымі прыметамі, права ўласнасьці на іх узьнікае ў набыўца толькі ў момант перадачы, зроблена і з захаваньнем арт. 67 Г. К. Адгэтуль робіцца вывад аб тым, што заключаючы дагавор аб продажу рэчаў, што азначаны радавымі прыметамі, прадавец у момант заключэньня дагавору можа і не ўладаць правам уласнасьці на гэтыя рэчы—гэта права ўласнасьці на іх павінна быць у яго толькі да моманту перадачы рэчаў набыўцу.

Дагавор пастаўкі, як ужо паказана вышэй, па істотнасьці зьяўляецца адным з відаў куплі-продажу рэчаў, азначаемых радавымі прыметамі. Пастаўшчык, як агульнае правіла, да моманту заключэньня дагавору, нават ня мае ў сваім уладаньні тых рэчаў, каторыя ён абавязаўся паставіць: ён абавязуецца толькі набыць іх. Але гэта акалічнасьць ня можа служыць перашкодаї да дапасаваньня правілаў аб куплі-продажы да пастаўкі, бо патрабаваньне налічча ў прадаўца права ўласнасьці на рэч у момант утварэньня дагавору адносіцца толькі да рэчаў асабова азначаных.

Такім чынам неабходна прызнаць, што і па нашаму заканадаўству, ня гледзячы на налічча нормы прыведзенага вышэй артыкулу 185 Г. К. БССР, няма падстаў для вылучэньня ў асобную групу правіл аб пастаўцы. Гэты дагавор цалкам абымаецца разуменьнем куплі-продажу рэчаў, што азначаны радавымі прыметамі і рэгулююцца адпаведнымі нормамі Г. К. аб куплі-продажу. Калі гэтыя нормы не дастаткова разьвіты і не прадугледжваюць усіх узьнікаючых на практыцы пытаньняў, дык гэтае асобнае пытаньне, каторага ў гэтым артыкуле не датычым, —яно можа быць вырашана шляхам больш падрабязнай распрацоўкай норм аб куплі-продажу і не патрабуе вылучэньня асобнага разьдзелу з правіламі аб пастаўцы.

*Б. Ватацы.*

# ПОЛАВЫ, УЗРОСТНЫ І САЦЫЯЛЬНА-КЛЯСАВЫ СКЛАД АСУДЖАНЫХ У БССР.

Уяўленьне аб сапраўднай масе злачынцаў, іх узростным, полавым і сацыяльным складзе можа быць атрымана шляхам выяўленьня асаблівасьцяй учыньніка злачынстваў. Як узрост злачынцаў, так разьмеркаваньне па полу тлумачацца ня толькі фізыолёгічным значэньнем узросту і полу (якія маюць уплыў на разьвіцьцё злачынстваў), але ўмовамі і акаляючым жыцьцём правапарушніка.

## I. Полавы склад.

Па сутнасьці злачынствы ў аграмаднай сваёй масе ўчыняюцца мужчынамі. Жанчыны ўдзельнічаюць у злачынстве толькі ў аднэй пятай або шостай долі, што цесна зьвязана з яе дзейнасьцю, не ўваходзячай у большасьці за межы хатняй гаспадаркі. Сацыяльнае становішча абодвых полаў у вялікай меры адбіваецца і ў іх злачынстве. Больш разнастайным сфэрам дзейнасьці мужчыны адпавядае разнастайная злачыннасьць,а вузкі круг дзейнасьці жанчыны сказваецца на спэцыфічнасьці жаночай злачыннасьці.

Па савецкаму Саюзу ўдзел жанчыны ў злачыннасьці выражаецца ў 12 проц. У Беларусі назіраецца таксама: у 1924 г. асуджана жанчын 12,2 проц., а ў 1925 г. 12,1 проц. у стасунку да ўсяго ліку асуджаных. У даваенны час у Меншчыне за пэрыяд з 1886 па 1913 г. з 100 асуджаных Акруговым Судом на долю жанчыны ў сярэднім прыходзілася 10,2 проц.

Пры агульным паніжаным параўнальна з мужчынамі ўдзеле жанчын ў злачынстве усё-ж маецца цэлы шэраг злачынстваў, дзе процант гэты значна вышэй прыведзеных сярэдніх. Калі жанчына ня можа раўняцца з мужчынамі ў шэрагу злачынстваў, якія патрабуюць дапасаваньня фізычных патуг, як, напрыклад, рабункі, цяжкія цялесныя пакалечаньні, за тое ў такіх злачынствах, як брахня і зьневажэньне, палавыя, парушэньне правілаў аб гандлі, скупка і продаж крадзенага—удзел жанчын досыць інтэнсыўны.

Прывядзём найбольш выдзяляючыеся ва ўмовах Беларусі жаночыя злачынствы за 1925/26 г.

| | |
|---|---|
| Парушэньне правіл аб гандлі . . | 24,6 проц. |
| Брахня і зьневажэньні . . . . . | 36,5 „ |
| Парушэньне запісу ЗАГСаў . . . | 23,7 „ |
| Супраціўленьне ўладзе . . . . | 22,2 „ |
| Самагонакурэньне . . . . . . | 21,4 „ |
| Ашуканства . . . . . . . . | 14,9 „ |
| Кража і скупка крадзенага . . | 13,1 „ |

Сярод пералічаных злачынстваў першае месца займаюць парушэньні гандлёвыя, цесна зьвязаныя з эканамічным становішчам жанчыны, якая стараецца ў шмат якіх выпадках абыходзіць законы аб гандлі. Брахня і зьневажэньні абумоўліваюцца замкнутасьцю жанчыны ў кругу хатняга ачагу і суседзяй, з прычыны пастаянных спатканьняў з якімі ўзьнікаюць частыя стычкі, якія заканчваюцца ў

большасьці брахнёю або зьневажэньнем. Астатнія віды жаночых злачынстваў шчыльна зьвязаны з эканамічнымі ўмовамі і сярод іх зварочвае ўвагу досыць высокі процант жанчын самагоншчыц. Апошні факт інтэнсыўнай самагоначнай злачыннасьці жанчын прыцягвала ўвагу працаўнікоў Маскоўскага Габінэту па вывучэньню асобы злачынца, у якім на гэты конт рабілася падрабязнае абсьледаваньне.

## II. Узрост асуджаных.

Разьмеркаваньне асуджаных па ўзросту характарызуе нахіл людзей адпаведнага ўзросту да злачынства, а вывучэньне гэтага пытаньня палягчае працу па барацьбе з злачынствамі, паказвае шляхі і прынцыпы магчымых мер сацыяльнай абароны і мае не малое значэньне пры выпрацоўцы папераджальных мер. Перш за ўсё супаставім лік асуджаных па ўзростных групах на 10000 насельніцтва адпаведнага ўзросту:

| Узростныя групы | 1924 г. муж. | 1924 г. жан. | 1924 г. абодв. пол. | 1925 г. муж. | 1925 г. жан. | 1925 г. абодв. пол. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 15—19 | 86 | 11 | 47 | 117 | 15 | 62 |
| 20—29 | 265 | 27 | 144 | 342 | 34 | 187 |
| 30—39 | 224 | 30 | 119 | 263 | 42 | 152 |
| 40—49 | 188 | 31 | 105 | 215 | 34 | 122 |
| 50—59 | 165 | 30 | 92 | 178 | 28 | 97 |
| 60 і вышэй | 117 | 15 | 68 | 109 | 17 | 63 |

Найбольш інтэнсыўна праяўляецца злачынны нахіл у ўзросты юнацкія, і максымум прыходзіцца на ўзрост 20—29 год (187), далей як да старэйшых, так і да маладзейшых ўзростаў назіраецца памяншэньне. Разглядаючы паўзростна разьмеркаваньне асуджаных па полу назіраем, што ў мужчын максымум прыходзіцца на тыя-ж ўзросты (ад 20—29 г.), а ў жанчын—на наступную ўзростную групу (ад 30—39 г.).

Разьмеркаваньне асуджаных па ўзростах у дынамічным разрэзе паказвае на павялічэньне ўдзелу ў злачыннасьці маладых ўзростаў і паніжэньне—асоб старэйшых ўзростаў.

Пры разгледжаньні пытаньня па відах злачынстваў стане ясна, у якіх ўзростах і якія злачынствы часьцей ўчыняюцца і на кім асабліва адбіваецца няспрыяючая абставіна, акаляючае жыцьцё і г. д. Тэорыя прафэсара Няхлюдава „о космополитичности возраста“ аб так званай спэцыфічнай уласьціваські асоб пэўнага ўзросту ўчыняць злачынствы адхілена і шляхам статыстычнага мэтаду прыйшлі да вывадаў, што злачыннасьць абумоўлівае ня ўзрост, а абставіны акаляючага асяродзьдзя.

Патрэбна адзначыць, што найбольшы процант асуджаных за дзяржаўныя злачынствы падае на ўзрост ад 25-30 год (26,6%), у параўнаньні з 1924 г. на адну ўзростную групу старэй. На гэту-ж узростную групу (ад 20 да 30 год) прыходзіцца найбольшы процант асуджаных за вайсковыя злачынствы (96,9 проц.) тут іграе пераважнае значэньне ўзрост 20—24 годы. Некалькі паніжаны лік асуджаных у гэтым узросьце за злачынствы супроць парадку кіраваньня і асабовыя. Разьмеркаваньне асуджаных па гэтых групах знаходзіцца ў адваротнай між сабою адносіне: процант асуджаных за першыя па вышан у старэйшыя ўзросты, а за асабовыя—у малодшыя. Потым, пат-

рэбна таксама зьвярнуць увагу на высокі процант (18,1 проц.) асуджаных за маемасныя злачынствы ва ўзросьце да 20 год.

З прычыны асобнай важнасьці злачынстваў супроць асобы і маемасных разгледзім па ўзростнае разьмеркаваньне асуджаных па паасобных відах гэтых злачынстваў.

Даныя паказваюць, што найбольшы процант мужчын, якія асуджаны за забойствы прыходзіцца на ўзрост—20—24 год, а лік асуджаных наступных старэйшых узростаў рэзка паніжаецца. Найбольшы процант осуджаных жанчын падае на старэйшыя ўзросты ад 29—40 год, і далей ужо з 40 год рэзка паніжаюцца.

У цеснай сувязі з разьмеркаваньнем асуджаных за забойствы стаіць процант разьмеркаваньня іх-жа за разбой і рабункі. Таксама мужчыны ў большасьці асуджаных ва ўзросьце ад 20-24 год, а жанчыны ў старэйшыя ўзросты.

(У 1925 г. жанчын 16—27 год і 40—49 год прыходзіцца аднолькавы лік).

Забойствы і разбоі між сабою цесна зьвязаны, бо яны ўзаемна абумоўліваюцца іншы раз роўнымі прычынамі і ў юрыдычнай прыродзе гэтых злачынстваў шмат агульных характэрных асаблівасьцяй.

На ўзрост ад 20-24 год у мужчын прыходзіцца вялікі процант палавых злачынстваў; роўна на гэты і малодшыя ўзросты выпадае найбольшая колькасьць краж і ашуканства. На найболей старэйшыя ўзросты выпадаюць падпалы, зьневажэньне і цялесныя пакалечаньні. У жанчын палавыя злачынствы прыходзяцца на 20-24 год.

Зьневажэньне і брахня як злачынствы, якія знаходзяцца ў цеснай сувязі з сямейным бытам жанчыны прыходзіцца ў большасьці на сярэдні ўзрост 30 год.

Прывядзем цяпер даныя аб процанце пэўных злачынстваў у кожнай узростнай групе асуджаных прынятай за 100 *).

Даныя гэтай табліцы паказваюць, што цялесныя пакалечаньні а таксама кражы складаюць 3/4 злачынстваў непаўналетніх да 17 год, а далей, у старэйшыя ўзросты процант іх паніжаецца. У тойжа час адваротны малюнак прадстаўляюць зьневажэньні, брахня і ў некаторай частцы ашуканства, якое складае нязначны процант у злачынстве маладых.

Падпалы дасягаюць 5,1 проц. злачыннасьці 14—15 годніх, далей паніжаючыся да 1,7 проц. у 20-24 гады, а ад 25 год і вышэй, у асаблівасьці 50-59 складаюць каля 3 з лішкам процантаў у кожнай узростнай групе.

Забойствы і разбоі, як мы ўжо адзначылі вышэй, маюць між сабою шмат агульных пунктаў і ў злачынасьці 20-24 годніх яны складаюць максымум у параўнаньні з процантам іх у іншых узростах.

Палавыя злачынствы вышэй сярэдняга ў злачыннасьці 16-19 гадовых і далей ва ўзросьце 30-39 год і 50-59 гадовых. (Агульны закон аб павышэньні злачыннасьці старыкоў у галіне палавых адносін падцьвярждаецца і данымі БССР).

У большай меры характэрныя вывады атрымоўваем мы пры супрацьпастаўленьні прыведзеных даных па мясцовасьці ў гарадзкіх і сельскіх пасяленьнях. Толькі што адзначаныя факты аб высокай удзельнай вазе пакраж і цялесных пакалечаньняў у злачыннасьці непаўналетніх упаўне. пацьвярджаецца ў адносінах гарадоў і сельскіх мясцовасьцяй, але з тэй толькі розьніцаю, што ў гарадох

*) Глядзі дадатак: „табліцу“, якая ніжэй прыкладзена.

**Усяго па БССР**

| ЗЛАЧЫНСТВЫ | Непаўналетніх 14—15 г. | Непаўналетніх 16—17 г. | Непаўналетніх Разам | Паўналетніх 18—19 г. | Паўналетніх 20—24 г. | Паўналетніх 25—29 г. | Паўналетніх 30—39 г. | Паўналетніх 40—49 г. | Паўналетніх 50—59 г. | Паўналетніх 60 г. і стар. | Паўналетніх Разам | Узрост невяд. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Забойствы | 1.0 | 1.8 | 1.7 | 1.1 | 1.1 | 1.0 | 0.6 | 0.4 | 0.2 | 0.3 | 0.7 | 0.2 | 0.8 |
| Цялесныя пакалечаньні | 28.3 | 27.9 | 27.9 | 27.9 | 21.9 | 25.4 | 24.1 | 21.1 | 18.1 | 15.9 | 22.6 | 15.0 | 22.7 |
| Палавыя | — | 0.2 | 0.2 | 0.2 | 0.1 | 0.1 | 0.2 | 0.0 | 0.2 | | 0.1 | | 0.1 |
| Зьневажэньне і брахня | 2.0 | 2.0 | 2.0 | 3.4 | 2.8 | 4.0 | 5.8 | 7.5 | 7.0 | 6.6 | 5.0 | 7.3 | 4.9 |
| Разбоі і рабункі | | 0.6 | 0.5 | 0.2 | 0.6 | 0.3 | 0.1 | 0.0 | 0.1 | 0.1 | 0.2 | | 0.2 |
| Кражы | 42.4 | 43.4 | 4.33 | 33.6 | 19.6 | 16.4 | 12.4 | 11.6 | 10.4 | 8.8 | 15.6 | 2.2 | 16.4 |
| Ашуканствы | | 3.0 | 2.8 | 2.9 | 1.9 | 2.6 | 2.6 | 2.2 | 2.2 | 2.1 | 2.4 | 0.5 | 2.3 |
| Падпалы | 5.1 | 2.7 | 2.9 | 2.1 | 1.7 | 3.2 | 2.8 | 2.9 | 3.1 | 2.1 | 2.6 | 1.0 | 2.6 |
| Іншыя | 21.2 | 18.4 | 18.7 | 28.6 | 50.3 | 47.0 | 51.4 | 54.3 | 58.7 | 63.5 | 50.8 | 73.8 | 50.0 |
| Усяго адн. | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Усяго абсал. | 99 | 994 | 1093 | 1831 | 7420 | 5474 | 7052 | 4140 | 2519 | 2046 | 30482 | 412 | 31987 |

**Гарадзкое насяленьне**

| ЗЛАЧЫНСТВЫ | Непаўналетніх 14—15 г. | Непаўналетніх 16—17 г. | Непаўналетніх Разам | Паўналетніх 18—19 г. | Паўналетніх 20—24 г. | Паўналетніх 25—29 г. | Паўналетніх 30—39 г. | Паўналетніх 40—49 г. | Паўналетніх 50—59 г. | Паўналетніх 60 г. і стар. | Паўналетніх Разам | Узрост невяд. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Забойствы | 3.7 | 0.3 | 0.6 | | 0.3 | 0.4 | 0,3 | 0.3 | | | 0.3 | | 0.3 |
| Цялесныя пакалечаньні | 11.1 | 14.4 | 14.1 | 15.6 | 10.9 | 15.1 | 15.6 | 13.3 | 12.1 | 11.0 | 13.3 | 13.1 | 13,3 |
| Палавыя | | 0.3 | 0.3 | | | 0.2 | 0.2 | | 0.6 | | 0.1 | | 0.1 |
| Зьневажэньне і брахня | 3.7 | 0.3 | 0.6 | 3.4 | 2.4 | 4.2 | 7.2 | 9.2 | 9.8 | 9.0 | 5.4 | 5.3 | 5.1 |
| Разбоі і рабункі | | 0.7 | 0.6 | 0.3 | 0.2 | 0.4 | 0.2 | 0.3 | | | 0.2 | | 0.3 |
| Кражы | 77.8 | 65.4 | 66.4 | 47.1 | 30.3 | 28.8 | 19.0 | 22.5 | 19.1 | 13.5 | 26.4 | 5.3 | 28.6 |
| Ашуканствы | | 6.2 | 5.7 | 7.8 | 3.7 | 5.4 | 6.1 | 5.6 | 5.3 | 3.7 | 5.1 | | 5.1 |
| Падпалы | | 1.6 | 1.5 | | 0.3 | 0.8 | 0.3 | 0.7 | 1.7 | 1.2 | 0.6 | | 0.6 |
| Іншыя | 3.7 | 10.8 | 10,2 | 25.8 | 51.9 | 44.7 | 51.1 | 48.1 | 51.4 | 61.6 | 48.6 | 76.3 | 46.6 |
| Усяго адн. | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Усяго абсал. | 27 | 306 | 333 | 384 | 1742 | 945 | 1162 | 608 | 356 | 245 | 5442 | 38 | 5813 |

**Сельскае насяляньне**

| ЗЛАЧЫНСТВЫ | Непаўналетніх 14—15 г. | Непаўналетніх 16—17 г. | Непаўналетніх Разам | Паўналетніх 18—19 г. | Паўналетніх 20—24 г. | Паўналетніх 25—29 г. | Паўналетніх 30—39 г. | Паўналетніх 40—49 г. | Паўналетніх 50—59 г. | Паўналетніх 60 г. і стар. | Паўналетніх Разам | Узрост невяд. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Забойствы | | 2.5 | 2.2 | 1.4 | 1.4 | 1.1 | 0.6 | 0.4 | 0.2 | 0.4 | 0.9 | 0.3 | 0.9 |
| Цялесныя пакалечаньні | 34.7 | 33.9 | 34.0 | 31.2 | 25.3 | 27.5 | 25.8 | 22.5 | 19.2 | 16.6 | 24.6 | 15,2 | 24.7 |
| Палавыя | | 0.1 | 0.1 | 0.3 | 0.1 | 0.1 | 0.1 | 0.0 | 0.1 | | 0.1 | | 0.1 |
| Зьневажэньне і брахня | 1.4 | 2.8 | 2.6 | 3.4 | 2.9 | 3.9 | 5.6 | 7.2 | 6.5 | 6.2 | 4.9 | 7.5 | 4.9 |
| Разбоі і рабункі | | 0.6 | 0.5 | 0.2 | 0.7 | 0.2 | 0,1 | | 0.1 | 0.1 | 0.2 | | 0.2 |
| Кражы | 29.2 | 33.6 | 33.2 | 30.0 | 16.3 | 13.9 | 11,1 | 9.7 | 8.9 | 8.2 | 13.3 | 1.9 | 13 7 |
| Ашуканствы | | 1.6 | 1.4 | 1.7 | 1 4 | 2.0 | 2.0 | 1.6 | 1.7 | 1.9 | 13.7 | 0.5 | 1.7 |
| Падпалы | 6.9 | 3.2 | 3.6 | 2.6 | 2.1 | 3.7 | 3.3 | 3.3 | 3 3 | 2.9 | 3 0 | 1.1 | 3.0 |
| Іншыя | 27.8 | 21.7 | 22.4 | 29.2 | 49.8 | 47 6 | 51.4 | 55.3 | 60.0 | 63.7 | 51,3 | 73.5 | 50.8 |
| Усяго адн. | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Усяго абсал. | 72 | 688 | 760 | 1447 | 5678 | 4529 | 5890 | 3532 | 2163 | 1801 | 25040 | 374 | 26174 |

на маемасныя злачынствы ў 14-15 гадовых прыходзіцца 98,9 проц., пры чым на кражы 77, 8 проц. (проці сярэдняй 28 проц.), а на цялесныя пакалечаньні 11,1 проц. (проціў сярэдняй 13,3 проц.) і далей старэйшыя ўзросты процант пакраж паніжаецца, а цялесных пакалечаньняў павялічваецца (уключна да 40 год).

У сельскіх мясцовасьцях цялесныя пакалечаньні і пакражы складаюць 63,9 проц., пры чым на цялесныя пакалечаньні прыходзіцца шмат болей, чым ў гарадох (34,7 проц. проціў 11,1 проц.), а на пакражы мяней (29,2 проц. проціў 77.8 проц.). У сельскіх мясцовасьцях адзначаецца агульная тэндэнцыя паніжэньня проценту адных і другіх з узростам. (Закон аб павышанай злачыннасьці супроць асобы ў сельскіх мясцовасьцях, а маемаснай у гарадох упаўне падцьвярджаецца).

Процант асуджаных за зьневажэньне і брахню ў злачыннасьці гарадзкой разьмяркоўваецца па ўсіх узростах раўнамерна, дасягаючы максымуму 30—60 год (9 проц.), у сельскіх мясцовасьцях назіраецца тая-ж тэндэнцыя, але толькі павышан параўнальна з горадам процант гэтых злачынстваў у непаўналетніх (2,6 проц. проціў 0,6 проц. у гарадох).

Процант ашуканства выдзяляецца ў гарадох з аднаго боку ў злачыннасьці непаўналетніх 16—17 год (6,2 проц.), а таксама ў 18—19 год (7,8 проц.) і наогул вышэй сярэдняга по БССР (5,1 проц.) у ўзростах да 59 год. У сельскіх мясцовасьцях наглядаецца адваротнае зьявішча: процант ашуканстваў высок ва ўзросьце ад 25—30 год (2 проц.)

Падпалы ў гарадох наогул складаюць нязначны процант (0,6 проц.) і хоць вышэй сярэдняга ў злачыннасьці 16—17 гадовых (1,6 проц.), але ў наступныя старэйшыя ўзросты не выдзяляюцца, за выключэньнем 50—59 гадовых (1,7 проц.); у сельскіх мясцовасьцях падпалы складаюць 6,9 проц. у злачыннасьці 14—15 гадовых і далей, ва ўзрост ад 30—59 год процант іх вышэй сярэдняга (3,3 проц).

Астатнія злачынствы не выдзяляюцца асобнымі адрозьніваючымі рысамі ў злачыннасьці розных узростаў, падначальваючыся агульнаму развіцьцю злачыннасьці, абумоўліваючайся сацыяльна эканамічнымі фактарамі жыцьця тых або іншых, уступаючых у канфлікт з крымінальным законам.

## III. Аб сацыяльным становішчы асуджаных.

Сацыяльна-клясавы склад асуджаных прадстаўляе адну з сур'ёзных праблем вывучэньня злачыннасьці, бо паказвае з якіх груп сучаснай грамады вылучаюцца злачынцы і з другога—якія віды злачынстваў уласьцівы тэй або іншай групе. Разьвязаць пытаньне аб найбольшай інтэнсіўнасьці пэўных груп насяленьня ў злачынстве магчыма шляхам прывядзеньняў адносных вялічынь лічбовасьці гэтых груп у насельніцтве, а па другое—шляхам проценту разьмеркаваньня. З прычыны адсутнасьці даных аб ліку адпаведных сацыяльных груп у насельніцтве першае пытаньне адпадае, а другое папрабуем коратка разьвязаць. Прывядзём даныя аб процантным разьмеркаваньні галоўнейшых відаў злачынстваў у кожнай прынятай намі сацыяльнай групе, а такіх груп мы маем 12: 1) гаспадары ў сельскай гаспадарцы, 2) іншыя гаспадары, 3) рабочыя, 4) служачыя, 5) прыслуга, 6) чырвонаармейцы, 7) камандны склад, 8) бесрацоўныя, 9) дэклясаваныя групы, 10) іншыя самадзейныя, 11) несамадзейныя і 12) невядомыя.

| | Найменьне злачынстваў. | Гаспад. с.-г. | | Рабочых | | Служачых | | Гаспад. п.-з. | | Прыслуга | | Чырвонаар. | | Камсклад | | Беззработн. | | Іншыя | | Дэкляраван. | | Несамадз. | | Невядом. | | Усяго | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | М. | Ж. | Аб. |
| 1-4 | Дзяржаўныя | 0.1 | 0.2 | 0.2 | 0.3 | 1.0 | — | 0.4 | — | — | — | 0.7 | — | — | — | — | 2.2 | 2.4 | 3.0 | 3.7 | — | — | 0.5 | — | — | 0.2 | 0.3 | 0.2 |
| 5 | Бандытызм . | 0.4 | 0.4 | 0.2 | — | — | — | 0.5 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 0.3 | — | 0.4 | — | — | — | — | - | 0.3 | 0.3 | 0.3 |
| 7-7a | Ухіленьне ад павін. і падат. | 3.0 | 1.9 | 0.2 | 0.3 | 0.6 | — | 11,1 | 9.1 | — | — | — | — | — | — | — | — | 1.5 | — | — | — | — | — | — | — | 2.9 | 1.9 | 2.8 |
| 19-19a | Самаўпраўства | 10.2 | 5.8 | 3.5 | 1.7 | 3.5 | 7.7 | 2.6 | 2.0 | 3.2 | 1.3 | 1.8 | — | — | — | 0.5 | — | 5.1 | 17.8 | — | 1.0 | — | 3.3 | — | — | 8,8 | 4.9 | 8.4 |
| 24 | Пар. Код. Зак. аб працы . . | 0.1 | 0.1 | 0.1 | — | 1,2 | — | 5.0 | 2.0 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 1.5 | — | 1.0 | — | 0.3 | — | — | 0.4 | 0.3 | 0.4 |
| 26 | Самагон . . | 5.9 | 8.6 | 6.5 | 19 7 | 1.6 | — | 6.4 | 22.2 | 3.2 | 5.0 | — | — | — | — | 9.1 | 26.1 | 3.6 | 8.9 | 3.7 | 14.3 | 10.0 | 16.0 | — | 16.0 | 5.8 | 11.4 | 6.4 |
| 31-33 | Забойства . . | 0.9 | 0 5 | 0.6 | 1.3 | 0.6 | 2.6 | 0.5 | 0.4 | — | 1.3 | 0.9 | — | 4.3 | — | 0.6 | — | 0.3 | 1.5 | 0.4 | — | 2.0 | — | — | — | 0.8 | 0.5 | 0.8 |
| 34 | Ізгнаньне плоду | 0.0 | 0.5 | — | 1 0 | — | 2.6 | 0.2 | — | — | 1.3 | — | — | — | — | — | 2.2 | — | 7.5 | — | 1.0 | — | 0.5 | — | 4.0 | 0.1 | 0.7 | 0.1 |
| 42 | Хуліганства . | 3.7 | 1.1 | 7.7 | 1.3 | 3.0 | — | 3.6 | 0.4 | 12.9 | 2.5 | 3.0 | — | — | — | 8.2 | 6.5 | 5.7 | 1.5 | 2.9 | 4.1 | 6.0 | 2.8 | 2.7 | — | 3.9 | 1.4 | 3.7 |
| 36-39 | Лёгкія і цяжк. цял. пакал. . | 20.9 | 29.3 | 10.5 | 12.3 | 7.1 | 7.7 | 6.6 | 10.3 | 12.9 | 11.3 | 0.9 | — | — | — | 6.0 | 4.3 | 4.2 | 3.0 | 1.1 | 3.1 | 16.0 | 20,2 | — | 8.0 | 18.4 | 23.7 | 19.0 |
| 45 | Палавыя злач. | 0.1 | — | 0.2 | — | 0.5 | — | 0.2 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 0.1 | — | 0.1 |
| 47 | Абразы словам і дзеяньнем . | 3.1 | 15.3 | 3.1 | 9.0 | 5.7 | 13.1 | 3.9 | 9.1 | 9.7 | 3.8 | 0.9 | — | — | — | 1.6 | 2.2 | 1.5 | 7.5 | — | 1.0 | 4.0 | 16.5 | 5.5 | 16.0 | 3.1 | 13.7 | 4.4 |
| 50 | Разбой і рабун. | 0.2 | 0.0 | 0.5 | — | 0.3 | — | 0.2 | — | — | — | 0 2 | — | — | — | 0.6 | — | — | — | 1.1 | — | — | 0.3 | — | — | 0.3 | 0.1 | 0.2 |
| 51 | Кражы . . . | 13.5 | 13.3 | 31.9 | 32.0 | 8.0 | 17.7 | 13.4 | 4.8 | 29.0 | 58.5 | 20.9 | — | 4.3 | — | 45.2 | 37.0 | 24.4 | 43.0 | 78.3 | 61.2 | 40,0 | 16.0 | 13.9 | 40.0 | 15.8 | 16.9 | 15.9 |
| 52 | Купля заведам. крадзенага . | 0.3 | 0.2 | 0.8 | 3.3 | 0.4 | — | 3.1 | 2.4 | — | 2.5 | 0.4 | — | — | — | 0,3 | — | — | — | 1.1 | 1.0 | — | 2.1 | — | — | 0.4 | 0.8 | 0.5 |
| 55 | Ашуканства і фальч. , . . | 0.7 | 0.5 | 1.8 | 1.0 | 2.7 | 2.6 | 3.2 | 3.2 | 6.5 | — | 0.7 | — | — | — | 3.8 | 6.5 | 1.8 | 1.5 | 3.7 | 1.0 | — | 0.8 | — | — | 0.9 | 0.9 | 1.0 |
| 73 | Злоўжываньне, перав. і безьдз. ўладзе . . . | — | — | 0.4 | — | 5.9 | — | — | — | — | — | 1.4 | — | 11.4 | — | — | — | 0.6 | — | — | — | — | — | — | — | 0.3 | — | 0.2 |
| 76 | Растрата, прыс. | 0.3 | 0.1 | 0.7 | — | 25.7 | 7.7 | 0.2 | — | 6.5 | — | 3.0 | — | 5.7 | — | 0.8 | — | 1.5 | — | — | — | — | — | — | — | 1.1 | 0.1 | 1.0 |
| 77 | Хабарніцтва . | 0.3 | 0.3 | 0.5 | — | 2.3 | — | 1.1 | — | — | — | 0.2 | — | 1.4 | — | 0.3 | — | 0.6 | 1.5 | — | — | — | 0.3 | — | — | 0.4 | 0.2 | 0.4 |
| | Іншыя . . . | 19.4 | 19.8 | 29.8 | 16.8 | 29.3 | 38.3 | 36.9 | 33.3 | 16.1 | 12.5 | 65.0 | — | 72.9 | — | 23.0 | 13.0 | 46.2 | 41.8 | 3.6 | 11.3 | 22.0 | 20.4 | 77.9 | 16.0 | 22.3 | 20 5 | 22.0 |
| 17 | Лесарубка . . | 16.9 | 2.1 | 0.8 | — | 0.0 | — | 0.9 | 0.8 | — | — | — | — | — | — | — | — | 0.3 | — | — | — | — | — | — | — | 13 7 | 1.4 | 12.2 |
| | **Усе злачынствы** | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | — | 100 | — | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |

Як паказваюць даныя, прыведзеныя ў табліцы, процант дзяржаўных злачынстваў вышэй сярэдняга ў злачынасьці „дэклясаваных груп“ (3,7 проц. процїў 0,2 проц.), а таксама ў „беспрацоўных“ і „іншых“.

Забойствы вылзяляюцца ў злачыннасьці сельскіх гаспадароў. Пакражы і ашуканствы вельмі важны па сваймў зьместу і працанту злачыннасьці ў тых або іншых групах у тых адносінах, што іх разьвіцьцё паказвае на некаторыя асаблівасьці жыцьця адпаведных сацыяльных груп. Прыкмячаецца найбольшае разьвіцьцё пакраж у рабочых“ (у два разы больш сярэдняга), у прыслуг, „беспрацоўных“ і каля 80 проц. у злачыннасьці дэклясаваных; што-ж тычыцца гаспадароў, то ў іх злачыннасьці пакражы не складаюць велічыні, якая перавышае сярэднюю. Разьвіцьцё ашуканстваў ідзе пад іншым кутом. Найбольшы процант яно складае якраз ў злачыннасьці „гаспадароў“, у асаблівасьці-ж, у гарадох (у тры разы перавышае процант ашуканстваў у „рабочых“).

Самаўпраўства і лесарубка па пераважнасьці злачынствы—„сельскіх гаспадароў“, у „рабочых“, „беспрацоўных“ і сярод „несамадзеяльных“ жанчын, складае ва ўсіх гэтых групах процант, у некалькі раз (амаль у 4 разы) перавышаючы сярэднюю.

Хуліганства, на якое зьвернута асаблівая ўвага ў апошні час, больш усяго пашыраны сярод „рабочых“ (7 проц.), „беспрацоўных“ (8,2 проц.), ніжэй сярэдняга ў дэклясаваных груп, „гаспадароў“ і ўсіх „іншых“*).

Парушэньне Кодэксу аб працы ў большасьці робіцца „гаспадарамі і іншымі“, у асаблівасьці, у гарадох.

Растраты, хабарніцтвы, злоўжываньне ўладаю, бязумоўна, злачынствы служачых (33,9 проц.), каманднага складу і чырвонаармейцаў.

Наогул, злачынствы супроць парадку кіраваньня часта ўчыняюцца гаспадарамі; злачынствы супроць асобы—гаспадарамі сельскімі, прыслугаю і несамадзеяльнымі; маемасныя-ж—рабочымі, прыслугаю, беспрацоўнымі і дэклясаванымі **).

*С. Слупскі.*

---

*) У таго-ж аўтара маецца падрабязговы нарыс аб хуліганстве БССР.

**) У наступным нарысе будзе дадзена характарыстыка ступені дапасаваньня папярэдняга ўтрыманьня пад вартай і мер сацыяльнай абароны ў сувязі з сацыяльным становішчам асуджаных.

# Старонка практыка.

## Ці патрэбны ў акругах старэйшыя сьледчыя.

За апошні час у штотыднёвіку Савецкай юстыцыі РСФСР і ў іншых спэцыяльных пэрыядычных выданьнях („Рабочий Суд“) самым рашучым чынам пастаўлена пытаньне аб скасаваньні інстытуту старэйшых сьледчых. Аўтары шматліковых артыкулаў прыводзяць разнастайныя матывы ў абарону высоўваемых імі палажэньняў аб непатрэбнасьці старэйшых сьледчых, і трэба заўважыць, што матывы гэтыя зьяўляюцца даволі важкімі і ўпаўне грунтоўнымі.

Калі так абстаіць справа са старэйшымі сьледчымі ў РСФСР, дык тым больш даўно пара іх скасаваць у нашай Беларускай Рэспубліцы.

Паводле ўстанавіўшайся практыкі старэйшым сьледчым накіроўваліся для вытварэньня сьледзтва, галоўным чынам, справы аб службовых і гаспадарчых злачынствах, зьвязаныя з неабходнасьцю вытварэньня бухгальтэрскай экспэртызы. Прынята чамусь-та называць гэтыя справы „асобна складанымі і важнымі“, але гэта няверна, і справа зусім ня ў складнасьці, і ня ў важнасьці, а ў тым, што вучастковы сьледчы, за адсутнасьцю на мясцох бухгальтароў-экспэртаў, іншы раз карыстаўся перадаць якую-небудзь справу, пад дабравіднай прычынай, ст. сьледчаму, як маючаму больш часу і лепш забясьпечанаму. Вось мэтад ператварэньня ў складаныя справы.

Большаю часткаю сьледзтва заключалася ў тым, што ст. сьледчы вытвараў бухгальтэрскую экспэртызу, гэта значыць—сабраць бухгальтароў, даць ім кнігі ў рукі, растлумачыць, што патрэбна зрабіць, і к якому тэрміну падаць рэвізійныя акты (адначасна вялома і ўдзельнічаючы асабіста ў іх рабоце), а потым даручаў таму-ж самаму вучастковаму сьледчаму, ад якога паступіла справа, апытаць абвінавачваемых, сьведак і іншых і па збору матар'ялаў складаць абвінавальнае заключэньне. Што сапраўды ў нашых умовах у старэйшых сьледчых ня можа быць якіх-небудзь асобна важных і складных гаспадарчых спраў,—выцякае з супастаўленьня БССР і РСФСР. Калі ў РСФСР, дзе маюцца аграмадныя дзяржаўныя прадпрыемствы і ўстановы, стала быць і наліччa аб'ектыўных даных для узьнікненьня буйных гаспадарчых злачынстваў. Калі нават там справа хіліцца да таго, каб інстытут ст. сьледчых быў скасован,—тым больш няма патрэбы ў тым інстытуце ў Беларусі, дзе няма ні асобна буй-

ных прадпрыемстваў, ні індустрыяльнай прамысловасьці, ні іншых аб‘ектаў, якія могуць вайсьці ў склад буйнага гаспадарчага злачынства. Калі-ж выключыць з справавядзеньня ст. сьледчых гаспадарчыя справы, дык што-ж ім застаецца рабіць? Але быць можа не адньмі гаспадарчымі справамі яны займаюцца?

Паглядзім.

У прошлым годзе аўтарам гэтага артыкулу было перадана ст. сьледчым для разгрузкі яго больш дзесятку сьледчых спраў. Па разглядзе сярод гэтых спраў аказаліся, к прыкладу, наступныя:

1) Справа па абвінавачваньню № па 1 ч. арт. 113. К.К. Што-ж такое зрабіў №№, колькі дзесяткаў тысяч дзяржаўных грошай ён растраціў, і які ўшчэрбак ён зрабіў нашай рэспубліцы? Аказалася, што №№ касір аднэй гаспадарчай установы ў горадзе растраціў усяго толькі каля 600 рублёў. Ці ня праўда складаная гаспадарчая службовая справа?

2) Аб прорве плаціны на №-скім вадзяным млыне. Гаспадарчае ці што, або службовая? Аказалася проста: „На мельнице вода плоці што, або службовая? Аказалася проста: „На мельнице вода плотину прососала“. Але з тае прычыны, што арандатарам млыну зьяўляўся №-скі Выканком, але начальнічаючы над ім ПВК, прасіў пракурора аддаць вінаватых суду (а каго, і за што—невядома?).

3) Аб самагубстве гр-кі №. Справа таксама аказалася самай звычайнай і г. д.

Ітак, дзе-ж тут складанасьць і важнасьць? А сапраўды гэты дзесятак пераданых нам спраў складаюць 50 проц. усіх меўшыхся ў справавядзеньні ў ст. сьледчага спраў.

Нам могуць тут пярэчыць, што ў падборы такіх спраў для расьследваньня ст. сьледчым, быць можа вінават Акр. Пракурор, выключна накіроўваючы старэйшаму сьледчаму справы. Але сьпяшаемся загадзя адказаць, што такое становішча рэчаў наглядаецца і ў іншых акругах, дзе якасьць спраў ня больш важнейшая.

З усімі задачамі, ня гледзячы на складнасьць спраў, ударнасьць, (растраты і зьніжэньне цэн і інш.), грамадзкую працу, нагляд за органамі дазнаньня, народныя сьледчыя справіліся здавальняюча. Аб гэтым лепш усяго сьведчаць справаздачныя лічбы. Кваліфікацыя нарзаседацеляў паднялася, і можна з ўпэўненасьцю сказаць, што і ў будучым яны справяцца з любой справай.

*Народныя сьледчыя* | *Гроеў.*
*Скабалан.*

## АБ МЭТАЗГОДНАСЬЦІ ІСНАВАНЬНЯ ПАРАДКУ РАЗГЛЯДУ НЕКАТОРЫХ СПРАЎ АБ ЛЕСАПАРУШЭНЬНЯХ.

У працэсе працы па агульнаму нагляду ў Бабруйскай Акрпракуратуры і праглядваючы пратаколы пасяджэньняў прэзыдыуму РВК, мной заўважана, што Райвыканкомамі выносяцца пастановы аб „капеечных“ спагнаньнях за лесапарушэньне, прыкладам чаго можа сьведчыць наступнае:

Па пратаколу прэзыдыуму Бабруйскага Райвыканкому № 6 за 29 чэрвеня 1927 г., маюцца такія пастановы:

1) па пратаколу Панюшкаўскага л-ва № 190 на гр-на Трухана Пятра, за лесапарушэньне Прэзыдыум РВК наклаў спагнаньне карнявога кашту . . . . 90 кап.

2) Таксама па пратаколах №№ 43 і 437 на гр-н Ваньковіча і Іваноўскага па . . . . 75 кап.

3) Таксама № 307 з Болбаса . . 1 р. 08 кап.

4) „ № 906 з Піменава . . 60 кап.

5) „ № 915 з Шашоўкіна . . 30 кап.

6) „ № 494 з Пафаховіча . . 75 кап.

7) „ № 499 з Крычка . . . 50 кап.

8) „ № 504 з Сяўрука . . . 85 кап.

і яшчэ цэлы шэраг аналёгічных спагнаньняў.

Калі да такіх спагнаньняў падыйсьці з боку аховы дзяржаўнай капейкі, аб чым яшчэ гаварыў тав. Ленін, што „зьберажоная савецкая капейка ахоўвае савецкі рубель,“ трэба прыйсьці да вываду, што спагнаньне па такіх пратаколах за лесапарушэньне капеек абыходзіцца савецкай уладзе ў вялікія рублі, напрылад:

Па пратаколу, складзенаму л-вам за пасечаную селянінам жэрдку, гэты пратакол павінен правесьціся па некалькіх кнігах у л-ве, з лясьніцтва гэты пратакол ідзе ў Райвыканком, дзе таксама павінен правесьціся зноў па некалькіх кнігах. Потым выносіцца пастанова Прэзыдыуму аб спагнаньні гэтых капеек. Далей, гэтая справа з выняткай з пратаколу Райвыканкому накіроўваецца ў міліцыю для спагнаньня. І трэба адзначыць, што ў міліцыі гэтая справа таксама праводзіцца па некалькіх кнігах і таксама адымае шмат працоўнага часу, пакуль гэту справу даручаюць для спагнаньня вучастковаму міліцыянэру, але-ж тут яшчэ ня ўсё скончана па гэтай справе. Міліцыянэр піша абвестку лесапарушніку аб унясеньні ў 7-мі дзённы тэрмін яму падлеглых з яго некалькіх капеек за сьсечаную жэрдку. Але як вядома, селянін, пакуль к яму некалькі раз ня прыедзеш, грошай не заплаціць, а калі і заплаціць, то гэтыя грошы (капейкі) з міліцыі пры адпаведнай паперы накіроўваюцца ў грашовую частку райвыканкому, а там неабходна пісаць квіток на атрыманыя грошы і правесьці іх па адпаведных кнігах і г. д.

Зразумела, што пры праводзімай нашай партыяй і савецкай уладай барацьбе за рэжым эканоміі і за зьберажэньне савецкай капейкі, гэтакія спагнаньні абыходзяцца вельмі дорага, прыблізна ў некалькі дзесяткоў раз даражэй, чым іх карнявы кошт і пагэтаму тут напрошваецца само па сабе пытаньне аб прыняцьці адпаведных мер, каб гэта зьявішча ўрэгуляваць.

Па маёй думцы, неабходна існуючы парадак спагнаньня за лесапарушэньне, не перавышаючы 3-х рублёў кошт пасечанага лесу, зьмяніць, даўшы права, праз выданьне адпаведнага закону, лясьніку альбо іншай службовай асобе ляснога ведамства, у выпадку затрыманьня на месцы парубкі лесапарушніка, калі гэта парубка па сваім кошту не перавышае 3-х рублёў, спагнаньне рабіць на месцы затрыманьня, як гэта робіцца па абавязковых пастановах

Н.К. Шляхаў Зносін аб ахове парадку, руху, чыгунак і г. д., бо такія справы лічацца па існуючых законах бясспрэчнымі. Такім чынам, будзе дасягнута:

а) Прыбліжэньне моманту правапарушэньня да пакараньня і калі ў лесапарушніка на месцы будзе спагнаны кошт пасечанага ім лесу, гэта будзе мець свой уплыў на памяншэньне гэтага гатунку правапарушэньня.

б) Разгрузіць райвыканкомы і міліцыі ад немэтазгоднай, дорага абыходзячайся працы па спагнаньню гэтых капеек.

*Кержаневіч.*



# АГЛЯД ВАЖНЕЙШЫХ АКТАУ САВЕЦКАГА ЗАКАНАДАЎСТВА, АПУБЛІКАВАНЫХ ЗА ЧАС ад 1-га ліпеня да 1-га жніўня 1927 г.

## А. ПАСТАНОВЫ ЎРАДУ СССР.

### I. Праца.

1) Пастановай СНК СССР за 20 чэрвеня 1927 г. **аб мерапрыемствах па прыцягненьні спэцыялістых да работы ў дзяржаўныя прамысловыя прадпрыемствы па-за буйнымі гарадзкімі паселішчамі** („Изв. ЦИК“ № 149—3 ліпеня 1927 г.) спэцыялістым, якія працуюць у памянёных прадпрыемствах, даецца шэраг льгот: працоўныя дагаворы з імі могуць рабіцца на тэрмін да 3 год з гарантыяй выплаты пры звальненьні не па іх віне пэнсіі за час да 6 месяцаў наперад; штогод ім даецца чарговы водпуск на 1 месяц з правам сумаваць водпускі за час да 3 год; па зыходзе 5 год службы ім могуць давацца навуковыя камандыроўкі на тэрмін ад 3 да 6 месяцаў з захаваньнем пэнсіі; дзеці іх карыстаюцца ў адносінах да прыёму ў школы правамі асоб фізычнай працы і інш.

### II. Жыльлёвае будаўніцтва.

2) Пастановай ЦВК і СНК за 15 чэрвеня 1927 г. зацьверджана **палажэньне аб мерах дапамогі будаўніцтву рабочых жылішч** („Изв. ЦИК“ № 159—15 ліпеня 1927 году). Для гэтай мэты ўтвараюцца спэцыяльны капітал і фонды рабочага жыльлёвага будаўніцтва, крыніцамі якіх зьяўляюцца спэцыяльныя асыгнаваньні па бюджэтах, адлічэньні з фондаў палепшаньня быту рабочых і служачых і з чыстага прыбытку Дзяржстраху СССР, мэтавыя набаўкі да ўзносаў на сацыяльнае страхаваньне, мэтавы кватэрны падатак і інш. Дзяржаўныя прадпрыемствы, акцыянэрныя таварыствы, дзяржаўны банк і спажывецкія каапэрацыйныя арганізацыі робяць адлічэньні з чыстага прыбытку ў разьмеры 10 проц. у фонды палепшаньня быту рабочых і служачых; 75—85 проц. з гэтых фондаў выдзяляецца на патрэбы жыльлёвага будаўніцтва. Для фінансаваньня жыльлёвага будаўніцтва ўтвараюцца: спэцыяльны капітал Цэнтральнага банку камунальнай гаспадаркі і жыльлёвага будаўніцтва, рэспубліканскія і мясцовыя фонды рабочага жыльлёвага будаўніцтва і фонды рабочага жыльлёвага будаўніцтва паасобных прадпрыемстваў. Спэцыяльны капітал і рэспубліканскія фонды прызначаюцца выключна для выдачы доўгатэрміновых пазык на будаваньне і рамонт рабочых жылішч, а мясцовыя фонды і фонды паасобных прадпрыемстваў могуць быць скарыстаны на доўгатэрміновыя пазыкі, а таксама непасрэдна на будаваньне і рамонт рабочых жылішч. Жылішчна арэндныя і рабочыя жылішчна-будоўныя каапэрацыйныя таварыствы і іх саюзы карыстаюцца шэрагам льгот падатковых, па ўзносах на сацыяльнае страхаваньне, па чыгуначных перавозках, па выдачы і аплаце лесасек і інш.

### III. Гандаль і прамысловасьць.

3) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 29 чэрвеня 1927 году зацьверджана **Палажэньне аб дзяржаўных прамысловых трэстах** („Изв. ЦИК“ № 150—5 ліпеня 1927 году). Гэтае палажэньне пашыраецца на дзяржаўныя прамысловыя трэсты агульнасаюзнага і рэспубліканскага значэньня, а таксама на трэсты мясцовага значэньня, якія маюць капітал ня менш 100.000 рублёў. Трэсты дзейнічаюць на падставе асобнага статуту ў якасьці самастойных гаспадарчых адзінак з правамі юрыдычных асоб і з капіталам, які не падзяляецца на паі. Трэсты могуць арганізоўвацца вышэйшымі радамі народнае гаспадаркі СССР і саюзных рэспублік, а таксама іншымі народнымі камісарыятамі СССР і саюзных рэспублік, калі гэтае права дадзена ім іх статутамі або спэцыяльнымі законамі. Дазвол на арганізацыю трэсту даецца, па належнасьці, Саветам Працы і Абароны, эканамічнымі нарадамі або мясцовымі выканаўчымі камітэтамі. Статуты трэстаў зацьвярджаюцца ўстановай, якая арганізуе трэст, па згодзе з Народным Камісарыятам Грашовых Спраў СССР

або саюзнай рэспублікі; рэгістрацыя трэстаў робіцца паводле закону аб гандлёвай рэгістрацыі. На чале трэсту стаіць праўленьне з 3—5 членаў. Прадпрыемствы, якія ўваходзяць у склад трэсту, кіруюцца дыр ктарамі, якія прызначаюцца і звальняюцца праўленьнем трэсту. У палажэньні паказаны парадак гандлёвай дзеяльнасьці і крэдытаваньня трэстаў, спэцыяльныя капіталы і прыбытак, парадак справаздачнасьці і рэвізіі, а таксама ліквідацыі, злучэньня і падзяленьня трэстаў.

4) Пастановай ЦВК і СНК за 22 чэрвеня **аб фірме** („Изв. ЦИК“ № 153—8 ліпеня 1927 г.) устаноўлены асноўныя правілы карыстаньня фірмай. Фірма прадпрыемства павінна зьмяшчаць паказаньне аб прадмеце яго дзеяльнасьці, а таксама аб тым, у чыім веданьні гэтае прадпрыемства знаходзіцца: дзяржаўнага органу, каапэрацыйнай арганізацыі, акцыянэрнага таварыства і г. д. Фірма дзяржаўнага прадпрыемства павінна мець назву віду яго—трэст, сындыкат і г. д. Фірма каапэрацыйнай арганізацыі павінна мець паказаньне аб відзе яе—спажывецкай, прамысловай, сельска-гаспадарчай і інш. Фірма прыватнай асобы павінна зьмяшчаць яе прозьвішча, імя і імя па бацьку поўнасьцю або ініцыялы. Апрача памянёных азначэньняў у фірму могуць быць уключаны таксама іншыя абазначэньні, у тым ліку скарочанае найменьне фірмы. Кожны маючы права на фірму на падставе гэтага закону можа вымагаць у судовым парадку спыненьня карыстаньня тожсамай або падобнай фірмай.

## IV. Крымінальнае права.

5) Паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 13 ліпеня 1927 г. **аб зьмене рэдакцыі арт. 38 Асноў Крымінальнага Заканадаўства СССР і саюзных рэспублік** („Изв. ЦИК“ № 169—27 ліпеня 1927 г.) да асоб, прысуджаных да тэрміновых мер сацыяльнай абароны, пасьля адбыцьця ня менш аднэй трэці вызначанага судом тэрміну, можа быць ужыта ўмоўна-датэрміновае звальненьне; яно выяўляецца ў звальненьні ад адбываньня меры сацыяльнай абароны або ў замене вызначанай судом меры сацыяльнай абароны мякчэйшай мерай. Парадак ужываньня ўмоўна-датэрміновага звальненьня ўстанаўляецца заканадаўствам СССР адносна асоб, асуджаных судовымі ўстановамі СССР і заканад ўствам саюзных рэспублік адносна асоб, асуджаных судовымі ўстановамі гэтых рэспублік. Мінімальны тэрмін (адна трэць) можа павялічвацца заканадаўствам саюзных рэспублік.

## V. Каапэрацыя.

6) Пастановай ЦВК і СНК СССР за 15 чэрвеня 1927 году зацьверджана **Палажэньне аб парадку спыненьня каапэрацыйных арганізацый пры іх ліквідацыі, злучэньні і падзяленьні** („Изв. ЦИК“ № 168 – 26 ліпеня 1927 г.). Гэтае палажэньне пашыраецца нэ каапэрацыйныя арганізацыі ўсіх відаў і ступеняў. Каапэрацыйныя арганізацыі спыняюцца з ліквідацыяй іх спраў і маемасьці або без ліквідацыі. Каапэрацыйная арганізацыя спыняецца з ліквідацыяй яе спраў і маемасьці ў выпадках: зыходу тэрміну, на які арганізацыя закладзена і зьмяншэньня колькасьці членаў арганізацыі ніжэй ліку, устаноўленага законам або статутам; прызнаньня судом арганізацыі нястаннай; ухіленьня арганізацыі ад мэты, паказанай у статуце, або ў бок супраціўны інтарэсам дзяржавы; прызнаньня агульным сходам каапэрацыйнай арганізацыі неабходнасьці яе ліквідацыі. Каапэрацыйная арганізацыя спыняецца без ліквідацыі яе спраў і маемасьці ў выпадку злучэньня дзьвёх або некалькіх арганізацый ці падзяленьня аднэй арганізацыі на дзьве або некалькі самастойных арганізацый. У пастанове падрабязна запісаны парадак дзеяньняў ліквідацыйнай камісіі, а таксама ўмоў і парадку злучэньня і падзяленьня каапэрацыйных арганізацый.

# Б. ПАСТАНОВЫ ЎРАДУ БССР.

## I. Дзяржаўная будова.

1) Пастанова ЦВК і СНК за 14 ліпеня 1927 г. **аб пашырэньні праў Рабоча-Сялянскае Інспэкцыі** („Савецкая Беларусь“ № 167—26 ліпеня 1927 году) выдана на падставе пастановы ЦВК і СНК СССР за 4-е мая 1927 г. (гл. „Весьці НКЮ“ № 6—7). Згодна гэтай пастановы лічацца канчатковымі і абавязковымі для выканьня ўсімі дзяржаўнымі ўстановамі і прапрыемствамі пастановы Н. К. РСІ БССР па пытаньнях аб спрашчэньні і скарачэньні падліку і справаздачнасьці, аб ліквідацыі лішніх органаў і прадстаўніцтваў, аб скарачэньні лішніх штатаў, аб зьмяншэньні накладных выдаткаў, аб зьмене структуры ўстаноў і прадпрыемстваў і аб накладаньні дысцыплінарных пакараньняў, а таксама аб астаўленьні і звальненьні службовых асоб за безгаспадарнасьць, бюракратызм і валакіту.

## II. Народная Асьвета.

2) Пастановай СНК за 8 чэрвеня 1927 году зацьверджана **палажэньне аб навуковых працаўнікох вышэйшых школ і навуковых устаноў БССР** („Савецкая Беларусь“ № 151—7 ліпеня 1927 г.). Да навуковых працаўнікоў вышэйшых школ належаць прафэсары, дацэнты, асыстэнты і асьпіранты, да навуковых працаўнікоў навуковых устаноў—члены і навуковыя супрацоўнікі гэтых устаноў паводле статутаў апошніх. Прафэсарамі і дацэнтамі могуць быць

асобы, якія зьяўляюцца аўтарамі навуковых прац, ухваленых двума спэцыялістамі, і маюць ня менш—першыя 6 год, а другія 3 год навуковага стажу. Асыстэнтам можа быць асоба, якая займалася навуковай працай ня менш як 2 гады. Вышэйшыя школы і навукова-дасьледчыя установы БССР маюць права надаваць навуковым працаўнікам годнасьць доктара па навуковых дысцыплінах, пералік якіх зацьвярджаецца Народным Камісарыятам Асьветы. Асобы, праслужыўшыя ў вышэйшых школах і навуковых установах у якасьці навуковых працаўнікоў ня менш 25 год або дажыўшыя да 65 год, калі яны праслужылі на такіх пасадах ня менш 10 год, маюць права на пэнсію ў разьмеры асноўнага акладу адпаведнае катэгорыі навуковых працаўнікоў; пасьля сьмерці навуковага працаўніка супруг, які знаходзіўся на яго ўтрыманьні, мае права на палову яго пэнсіі, а ўсе іншыя члены сям'і, якая знаходзілася на ўтрыманьні памёршага—на чвэрць пэнсіі кожны, з такім разьлікам, каб агульны разьмер пэнсіі не перавышаў пэнсіі памёршага.

## III. Народная гаспадарка.

3) Паводле пастановы СНК за 18-га чэрвеня 1927 г. **аб зьмене арт. 1 пастановы СНК БССР аб скарачэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў дзяржаўных органаў, дзеючых на камэрцыйным (гаспадарчым) разрахунку і акцыйных (паявых) таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага капіталу** („Савецкая Беларусь“ № 153—9-га ліпеня 1927 г.) кіраўнікі памянёных органаў і таварыстваў, якія рэгіструюцца ў Народным Камісарыяце Гандлю БССР, абавязаны неадкладна скараціць адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі ня менш, чымся на 15 проц. у параўнаньні з фактычна выдаткаванымі ў другой палове 1925—26 апэрацыйнага году, зрабіўшы падлік аб'ёму работ на плянах на 1926—27 г.

*С. Рахманін.*

# ПРАКТЫКА АСОБАЕ КАЛЕГІІ ВЫШЭЙШАГА КАНТРОЛЮ ПА ЗЯМЕЛЬНЫХ СПРАВАХ.

22. Аболецкі сельскі савет Коханаўскага раёну прасіў растлумачыць, ці можа грамадзянін, які атрымаў з запаснага фонду кавалак зямлі, перадаць яе свайму цесьцю на апрацоўку з прычыны ад'езду з сям'ёй на службу.

Па гэтаму пытаньню Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю дала 30 ліпеня 1926 г. ў журнале № 14 наступнае тлумачэньне:

„Калі асоба, якая надзелена зямлёю з запаснага фонду, уваходзіла ў склад двара свайго цесьця, яна можа пакінуць яму свой надзел на апрацоўку і часова выехаць на працоўныя заробкі. Калі-ж асоба гэтая разам з сваёй сям'ёй складала паасобны двор, дык перадача ў другі двор зямлі, атрыманай дзеля вядзеньня на ёй сельскае гаспадаркі, дае вынікі, прадугледжаныя арт. 26 зям. код., г. зн. адабраньне зямлі па суду“.

23. Аршанскі акруговы зямельны аддзел прасіў растлумачыць, ці можна паправіць землеўпарадчы праэкт, які канчаткова зацьверджан зямельнымі камісіямі, калі пасьля зацьверджаньня зьмяніліся на месцы акалічнасьці справы; напрыклад, у праэкце паказана сельска-гаспадарчая арцель на дзяржаўнай зямельнай маемасьці, аддзел-жа ДЗМ адмаўляецца цяпер ад гэтай зямлі, а арцель просіць разьмеркаваць яе на пасёлак. Альбо другі выпадак—гаспадаркі, атрымаўшы зямлю паводле зацьверджанага праэкту, дабраволньа потым памяняліся сваімі вучасткамі.

Разглядзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 15 сьнежня 1926 г., Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю па журналу свайму № 20 растлумачыла:

„Выкананы ў натуры і канчаткова зацьверджаны акруговаю зямельнаю камісіяй у парадку арт. 173 зям. код. землеўпарадчы праэкт ня можа папраўляцца, калі нават і былі пасьля гэтага зьмены ў складзе землекарыстаньняў на месцы. Калі сельскагаспадарчая арцель, утвораная, на падставе землеўпарадчага праэкту на дзяржаўнай зямлі, атрымае гэтую зямлю ў сталае працоўнае карыстаньне, то дзеля разьмеркаваньня яе на пасёлак арцель павінна зьліквідавацца і падняць потым хадайніцтва аб правядзеньні новага землеўпарадкаваньня.

Мяняцца зямельнымі вучасткамі гаспадаркі могуць на моцы арт. 26 зям. код. толькі з дазволу зямельных органаў. Апошнія дазваляюць абмен, калі знойдуць, што ён не прыкрывае незаконнай зямельнай умовы і зьяўляецца гаспадарча мэтазгодным. Мяняцца зямлёю можна: а) у парадку спрошчанага землеўпарадкаваньня, б) пры правядзеньні агульнага землеўпарадкаваньня. Зямельныя абмены, якія зроблены дварамі ў працэсе поўнага разьмеркаваньня зямель грамады, афармляюцца землеўпарадчыкамі. Ва ўсіх-жа іншых выпадках абмен зямлі робіцца толькі ў парадку спрошчанага землеўпарадкаваньня, пры якім сельскім саветам высьвятляецца гаспадарчая мэтазгоднасьць абмену, складаецца праэкт яго і прад'яўляецца зацікаўленым старанам і грамадзе. Пасьля гэты праэкт разам са скаргамі, калі яны будуць заяўлены на працягу двух тыдняў ад дня прад'яўленьня праэкту, падаецца на разгляд раённай зямельнай камісіі як землеўпарадчая справа“.

24. Калінінская акруговая зямельная камісія прыслала запытаньні, ці можа асоба, якая атрымала зямлю ў парадку надзяленьня, аддаць яе адразу-ж у арэнду, не прыступіўшы да яе апрацоўкі, а таксама, ці можна сваю бацькаўскую зямлю аддаць у арэнду з тым, каб узяць у арэнду зямлю ў другім месцы.

Пытаньні гэтыя Асобая Камісія Вышэйшага Кантролю ў пасяджэньнях 6 сакавіка і 14 красавіка па журналах — 5 і 8 растлумачыла так:

„Маюць права аддаваць у арэнду зямлю толькі часова аслабшыя працоўныя землеробчыя гаспадаркі. Дзеля чаго асобы, якія не прыступілі да вядзеньня сельскае гаспадаркі на атрыманай імі ў парадку надзяленьня зямлі, ня маюць права аддаваць яе ў арэнду. Таксама не карыстаюцца гэтым правам і такія грамадзяне, якія хацелі-б аддаць сваю зямлю ў арэнду толькі з тэй прычыны, што яны маюць замер узяць у арэнду зямлю ў

другім месцы. Пры наліччы незаконнай арэнды зямельны орган (сельсавет, райвыканком) альбо зямельная грамада павінны прад'явіць у раённай зямельнай камісіі іск аб адабраньні зямлі, на якую зроблен незаконны дагавор, і аб скасаваньні яго, калі ён быў зарэгістраваны ў райвыканкоме, з залічэньнем адабранай зямлі ў запасны фонд".

25. На пытаньню Аболецкага сельсавету, ці можна аддаць зямлю з палавіны ўраджаю на адзін год, калі гаспадарка аслабла і ня мае насеньня. Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю 30 ліпеня 1926 г. журналам № 14 растлумачыла:

„Часова аслабшая працоўная земляробчая гаспадарка можа аддаць сваю зямлю ў арэнду. Тэрмін арэнды, калі гаспадарка ня мае правільнага севазвароту, павінен не перавышаць 12 год, але можа быць і менш, хоць-бы і адзін год. Аплачвацца ўзятая ў арэнду зямля можа грашыма, прадуктамі, альбо іншымі спосабамі ўзнагароды, а значыць і часткай ураджаю, толькі-б дагавор ня быў кабальным. Маючы, аднак, на ўвазе, што арандатар цяпер у большасьці выпадкаў больш заможны за здатчыка, належыць прызнаць, што наогул аддача зямлі ў арэнду за палавіну ўраджаю ня будзе кабальнаю. Пытаньне гэтае ў кожным паасобным разе павінна быць абмяркована раённым выканаўчым камітэтам пры рэгістрацыі арэнднага дагавору.

26. Тураўская раённая зямельная камісія прасіла растлумачыць наступныя пытаньні:

а) ці мае права працоўная земляробчая гаспадарка здаць у арэнду сядзібны вучастак на праве забудоўкі;

б) ці могуць члены двара, якія перасяляюцца на калёнізацыйны фонд, аддаць у арэнду сваю долю зямлі з агульнае гаспадаркі пры ўмове, што гаспадарка зьяўляецца недрабімай і на ёй пазастаюцца другія члены двара.

Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю, разгледзеўшы гэтыя пытаньні ў распарадчых пасяджэньнях 27 студзеня і 7 красавіка 1927 г., журналамі сваімі № 22 і 26 растлумачыла:

а) працоўная земляробчая гаспадарка карыстаецца ад дзяржавы зямлёю для вядзеньня на ёй сваею працаю сельскае гаспадаркі. Пагэтаму яна ня можа здаваць зямлю, якая знаходзіцца ў яе карыстаньні, другім асобам на праве забудоўкі. Такая здача давала б двару непрацоўны даход і зьяўлялася-б незаконнай пераўступкай права карыстаньня зямлёю, што дае вынікі, прадугледжаныя арт. 26 зям. код.;

б) члены двара ня маюць самастойнага права на карыстаньне паасобнымі долямі агульнага зямельнага надзелу двара, а дзеля гэтага яны ня могуць здаваць гэтае долі ў арэнду. Зямля, якая знаходзіцца ў карыстаньні двара, можа быць аддана ў арэнду толькі ўсім дваром у цэлым у асобе яго гаспадара, як прадстаўніка двара. Калі перасяляецца частка членаў гаспадаркі, а тыя члены, якія пазастаюцца на месцы, ня згодны на аддачу зямлі ў арэнду, дык яны прадаўжаюць карыстацца ўсёй гаспадаркай. Перасяленцы ў гэтым выпадку маюць права толькі на атрыманьне сплат з гаспадаркі на падставе арт. 84 зям. код.

27. Барысаўская акруговая зямельная камісія прасіла растлумачыць, ці карыстаецца працоўная земляробчая гаспадарка правам на аддачу зямлі ў арэнду пры самахвотным (не па выбарах) паступленьні яе членаў на дзяржаўную, або грамадзкую службу.

Разгледзеўшы гэтае пытаньне ў распарадчым пасяджэньні 22 сакавіка 1927 г., Асобая Калегія Вышэйшага Кантролю журналам сваім № 24 растлумачыла:

„На грунце арт. 27 зям код. працоўная земляробчая гаспадарка, аслабшая ў выніку часовага адыходу яе членаў на працоўныя заработкі, карыстаецца правам аддачы ў арэнду зямлі з захаваньнем паказаных у законе ўмоў. Працоўнымі заработкамі лічыцца ўсякая работа па найму ў якасьці рабочага ці служачага. Пагэтаму часовае паступленьне членаў двара на дзяржаўную або грамадзкую службу не па выбарах дае двару права на аддачу зямлі у працоўную арэнду. Пры гэтым, аднак, трэба мець на ўвазе, што на падставе арт. 16 і 73 зям. код. члены двара, якія адыйшлі на працоўныя заработкі і не падтрымлівалі сувязі з гаспадаркай ні працай сваёй ні сродкамі, трацяць па сканчэньні 6 год права на зямлю і іншую маемасьць гаспадаркі, у якой ня было правільнага севазвароту. З гэтае прычыны ў выпадку аддачы зямлі ў арэнду такой гаспадаркой на 12 год і адходу потым усіх яе членаў на працоўныя заработкі, двор па сканчэньні 6 год траціць права на адданую ў арэнду зямлю. Усе правы здатчыка пераходзяць у гэтым выпадку да зямельных органаў, правы-ж арандатара, які пільнуе ўмовы дагавору, захоўваюцца да сканчэньня яго тэрміну.

# Інфармацыя і хроніка.

## ДА ПЫТАНЬНЯ АБ ПАРАДКУ ЛІКВІДАЦЫІ КААПЭРАЦЫЙНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ.

15-га чэрвеня г. г. ЦВК і СНК Саюзу ССР зацьвердзіў Палажэньне аб парадку спыненьня каапэрацыйных арганізацый пры іх ліквідацыі, злучэньні і падзяленьні (З. З.—27 г., № 37, арт. 371-372). Судовым працаўніком неабходна зьвярнуць асабліваю ўвагу на некаторыя пытаньні, якія вынікаюць з гэтага палажэньня.

Гэтае палажэньне пашыраецца на каапэрацыйныя арганізацыі ўсіх відаў і ўсіх ступеняў, адпаведна чаму, адначасна з выданьнем гэтае пастановы, зьменены тыя артыкулы палажэньняў аб усіх відах каапэрацыі, у якіх быў паказан парадак іх ліквідацыі.

Згодна гэтага Палажэньня, каапэрацыйныя арганізацыі могуць спыняцца з ліквідаваньнем іх спраў і маемасьці і без ліквідаваньня іх. Яны спыняюцца без ліквідаваньня ў выпадках злучэньня двох, або некалькіх арганізацый і падзяленьня аднэй арганізацыі на дзьве, або некалькі арганізацый.

З ліквідаваньнем спраў і маемасьці яны спыняюцца ў наступных выпадках:

а) спыненьня тэрміну, на які арганізацыя адчынена;

б) зьмяншэньня колькасьці сяброў арганізацыі ніжэй устаноўленай законам, або статутам, калі пры гэтым колькасьць сяброў ня будзе папоўнена ў працягу тэрміну, які прадугледжан статутам, а калі гэта не прадугледжана статутам, у працягу месяца;

в) прызнаньня арганізацыі судом неаплатнай;

г) ухіленьня арганізацыі ад мэты, якая зазначана ў яе статуце, або ў бок супраціўны інтарэсам дзяржавы;

д) прызнаньня агульным сходам (сходам упаўнаважаных) каапэрацыйнае арганізацыі неабходнасьці ліквідацыі яе.

Гэтае палажэньне зазначае падрабязны тэхнічны парадак ліквідаваньня каапэрацыйных арганізацый, але гэты парадак датычыць толькі тых выпадкаў, калі маемасьці каапэрацыйнай арганізацыі досыць для разьліку з крэдытарамі, бо гэта палажэньне зазначае:

1) Арт. 6-ы: пры прызнаньні арганізацыі неаплатнай па суду ліквідаваньне яе спраў і маемасьці адбываецца ў парадку, які ўстанаўляецца спэцыяльнымі законамі

2) Арт. 20-ы: калі пры ліквідацыі арганізацыі высьветліцца, што маемасьці арганізацыі ня досыць для ўтварэньня разьліку з крэдытарамі, і ня будзе дасягнута згоды з імі аб спосабах іх здавальненьня, ліквідацыйная камісія ў працягу тыдня пасьля высьвятленьня гэтых абставін павінна паведаміць

аб гэтым адпаведнаму суду, у мэтах узбуджэньня справы аб неаплатнасьці арганізацыі. Права ўзбуджэньня справы аб неаплатнасьці ліквідуемай арганізацыі належыць таксама крэдытарам і іншым органам, якія працугледжаны заканадаўствам аб неаплатнасьці. Гэта трэба мець на ўвазе як судовым працаўнікам, так і пракуратуры.

Трэба яшчэ адзначыць наступныя пытаньні:

Арт. 25. На аплату прэтэнзій, якіх ня прызнала ліквідацыйная камісія, і якія перададзены ў суд, ліквідацыйнай камісіяй адлічаюцца паказаныя ў іскавой заяве сумы, якія выдаюцца крэдытарам толькі пасьля ўступленьня у моц рашэньня суду. Калі гэта рашэньне не адбудзецца да дня сканчэньня дзеяньня ліквідацыйнай камісіі, дык спрэчная сума ўносіцца ў дэпазыт суду, з вынікамі, якія паказаны ў арт. 26.

Арт. 26. Сумы, якія павінны быць выданы крэдытарам, і якія не запатрабаваны ў працягу тыднёвага тэрміну з дня зацьверджаньня справаздачы аб ліквідацыі, уносяцца ліквідацыйнай камісіяй у дэпазыт суду на імя крэдытараў. Калі гэтыя сумы ня будуць запатрабаваны ў працягу трох гадоў пасьля ўнясеньня іх ўдэпазыт, гэтыя сумы перадаюцца беспасрэдна вышэстаячаму саюзу таго віду каапэрацыі, да якога належала ліквідацыйная арганізацыя.

Арт. 27. Прэтэнзіі крэдытараў, якія не здаволены ліквідацыйнай камісіяй з прычыны таго, што яны ня былі заяўлены крэдытарамі і пры гэтым ня былі выяўлены і самай ліквідацыйнай камісіяй да зацьверджаньня ліквідацыйнай справаздачы, прызнаюцца пагашанымі і не падлягаюць прад'яўленьню ў судовым парадку.

Арт. 33. Парадак прадстаўніцтва па іскавых справах, якія не закончаны да моманту спыненьня ліквідацыйнай камісіі, устанаўляецца заканадаўствам саюзных рэспублік, відавочна гэта будзе вышэйстаячая каапэрацыйная арганізацыя таго віду каапэрацый, да якога належала ліквідацыйная арганізацыя.

## АБ АДКАЗНАСЬЦІ ЗА ПАТРАВЫ.

З прычыны таго, што патрава можа прасьледавацца па арт. 196 Кр. Код., як наўмыснае папсаваньне чужое маемасьці, а, з другога боку, паводле палажэньня аб парадку выданьня абавязковых пастаноў (З. З.—25 г. № 31, арт. 288), і так сама паводле палажэньня аб раённых выканаўчых камітэтах гэтым камітэтам даецца права выдаваць абавязковыя пастановы аб барацьбе з патравамі, за парушэньне якіх прызнаецца адміністрацыйнае пакараньне, Прэзыдыум ЦВК 25-га жніўня г. г. пастанавіў:

1. Падзяліць пытаньне аб патравах палёў, сенажацяй, гарадоў і г. д. на 2 часткі: злосныя патравы і выпадковыя (нязлоснага характару).

2. Злосныя патравы, як у адносіне пакараньня вінаватых, так і ўзнагароды за страты пацярпеўшаму, разьвязваюцца ў судовым парадку.

3. Пытаньні аб выпадковых, ня носячых злоснага характару, патравах (напрыклад, недагляд і г. д.) рэгулююцца на мясцох акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі, шляхам выданьня адпаведных абавязковых пастаноў. У выдаваемых абавязковых пастановах павінны быць прадугледжаны, як пакараньні патраўшчыкаў у адміністрацыйным парадку, так і вызначэньне таксы за страты, якія прычынены пры патравах рознага роду жывёлай. Страты па ўстаноўленых таксах спаганяюцца ў ка

рысьць пацярпеўшага ў бясспрэчным парадку (адміністрацыйным). Пры азначэньні гэтых такс выканкомы павінны выходзіць з мясцовых умоў і маючагася вопыту ў гэтай адносіне.

4) У выпадку, калі патравай нанесены вялікія страты, і пацярпеўшы не згаджаецца атрымаць з адказчыка за страты па ўстаноўленай таксе, ён у праве запатрабаваць камісію, у якую ўваходзіць сябра савету і два панятых, для дасканальнага вызначэньня разьмераў страт. У гэткім выпадку, калі адказчык адмаўляецца плаціць страты, згодна азначэньня камісіі справа перадаецца ў суд.

Згодна даручэньню Прэзыдыуму ЦВК Наркамюстам распрацаван адпаведны заканапраэкт, які па ўзгадненьні з Народным Камісарыятам Унутраных Спраў, будзе прадстаўлен на зацьверджаньне Прэзыдыуму ЦВК.

## Растлумачэньне Прэзыдыуму ЦВК.

### Аб парадку ужываньня арт. 44 Інструкцыі аб выбарах у саветы.

Па пратэсту Пракурора Рэспублікі на пастановы АВК, Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту растлумачыў, што акруговыя выканаўчыя камітэты ня маюць права разьвязваць хадайніцтваў асоб, паказаных у арт. 44 Інструкцыі аб выбарах у саветы, аб аднаўленьні іх у выбарчых правох,—ні здавальняць гэтых хадайніцтваў, ні адхіляць, бо гэта належыць выключна Прэзыдыуму ЦВК. Хадайніцтвы, якія падаюцца гэтымі асобамі ў АВК, апошнія павінны прадстаўляць у Прэзыдыум ЦВК і толькі могуць даваць свой водзыў. Адначасна Прэзыдыум ЦВК даручыў Аргаддзелу ЦВК і НКЮ распрацаваць праэкт абежніка ЦВК па гэтаму пытаньню.

### Аб павялічэньні выпадкаў парушэньняў Крымінальнага Кодэксу, якія могуць канчацца прымірэньнем.

Прэзыдыум ЦВК пастановай ад 25 жніўня г. г. даручыў НКЮ праглядзець Крымінальна-Працэсуальны Кодэкс і распрацаваць праэкт пастановы аб магчымасьці павялічэньня прымірэньняў па некаторых арт. арт. Крымінальнага Кодэксу, маючы на ўвазе тыя злачынствы па спрэчных пытаньнях, якія ня носяць грамадзкага пагражаючага характару, у прыватнасьці, выдзеліць пытаньне аб патравах.

## У габінэте па вывучэньні злачынства і асобы злачынца пры Б. Дз. У.

Габінэтам закончана сацыялёгічнае абсьледваньне ўтрымоўваючыхся ў мясцох зьняволеньня БССР забойцаў і хуліганаў. Увесь сабраны апросны матар'ял распрацоўваецца па цэламу шэрагу тэм, з якіх найбольш вылучаюцца: „Дзяцінства і сацыяльны быт забойцаў“, „Матывы забойстваў“, „Прэламленьне забойстваў у сямейным быту“, „Гарадзкія і вясковыя забойствы“ і г. д. У бліжэйшы час намячаецца разбор усіх тэм і ацэнка дабытых абсьледваньнем вывадаў.

Па папярэдняй распрацоўцы можна сказаць, што досыць багаты апросны матар'ял мае патрэбу ў праверцы такіх фактаў, як выхаваньне, характар узаемаадносін у сям'і, матар'яльная забясьпека, дзеля чаго неабходно будзе зрабіць дадатковыя абсьледваньні забойцаў у Менскім Спраўдоме сіламі навуковых працаўнікоў габінэту.

31 жніўня ў габінэце была прачытана т. Слупскім лекцыя курсантам Юрыдычных Курсаў пры НКЮ. У лекцыі было высьветлена пытаньне аб важнасьці вывучэньня „Праблем злачынства“. Паказаны мэтады работы, якія праводзіліся габінэтам і падкрэсьлены былі асаблівасьці некаторых злачынстваў ва ўмовах БССР.

## Рэзалюцыя па дакладу т. Эднэрала

### аб становішчы і працы нацыянальных камэр народных судоў БССР.

Заслухаўшы даклад аб працы нацыянальных камэр народных судоў Нацыянальная Камісія ЦВК БССР адзначае, што:

1. Нацыянальныя камэры народных судоў за час сваёй працы здабылі папулярнасьць сярод насельніцтва, паказалі сваю жыцьцёвасьць і наогул палітычна і практычна сябе апраўдалі.

2. У мэтах яшчэ больш шырокага абслугаваньня судовымі ўстановамі нацыянальных меншасьцяй на роднай мове, а таксама прымаючы пад увагу, што існаваньне гэтакіх устаноў упаўне сябе апраўдала, лічыць неабходным у далейшым пашырыць сеткі нацыянальных камэр народных судоў.

3. З прычыны адсутнасьці сродкаў на разьезды судзьдзяў польскія і латыскія камэры нарсудоў працавалі ня з поўнаю нагрузкаю, у зьвязку з чым не абхапілі ўсяго насельніцтва сваею дзейнасьцю

Выходзячы з гэтага, прызнаць неабходным у далейшым народным судзьдзям. нацкамэр адпускаць больш сродкаў на разьезды і прыняць меры да палепшаньня матар'яльнага становішча нацкамэр нарсудоў наогул.

4. Даручыць НКЮ БССР прыняць меры да падняцьця кваліфікацыі народных судзьдзяў нацкамэр.

5. Адзначаючы нездавальняючае становішча памяшканьня нацкамэр прасіць Прэзыдыум ЦВК БССР даручыць Акруговым Выканаўчым Камітэтам прыняць меры да забесьпячэньня нацсудоў памяшканьнямі.

6. Прызнаць неабходным узмацненьне ў друку інфармацыі аб рабоце нацкамэр народных судоў.

## Рэзалюцыя па дакладу прэзыдыуму Віцебскай акруговай калегіі абаронцаў

### аб працы даведачных сталоў.

Заслухаўшы даклад прэзыдыуму калегіі абаронцаў аб выніках працы даведачных сталоў па Віцебскай і Полацкай акругах, Пленум Віцебскага Акруговага Суду адзначае, што праца па інструктаваньні даведачных сталоў усё яшчэ прадаўжае разварачвацца і па параўнаньню з мінулым годам значна прасунулася ўперад.

Разам з тым Пленум лічыць неабходным адзначыць наступныя недахопы перашкаджаючыя пашырэньню і паляпшэньню гэтай працы.

1. Недахват выездаў ЧКА ў сельсаветы з мэтай інструктаваньня ізбачоў, непасрэдна ажыцьцяўляючых даведачную работу пры хатах-чытальнях.

2. Незабясьпечанасьць даведачных сталоў здавальняючай колькасьцю неабходнай у практычнай рабоце юрыдычнай літаратуты.

3. Нездавальняючую пастаноўку вучоту зварочваньня да даведачных сталоў, што зьяўляецца перашкодай да вывучэньня іх работы.

4. Недаволенасьць у правядзеньні таксы за аказваемую дапамогу ў даведачных сталох, якая ў цэлым шэрагу даведачных сталоў зусім не праводзіцца, што цягне за сабой адсутнасьць сродкаў і не дае магчымасьці набываць неабходную літаратуру.

5. Нездавальняючую дапамогу з боку мясцовых органаў улады ЧКА ў сэнсе прадастаўленьня перавозачных сродкаў для выезду ў сельсаветы, што да некаторай ступені тлумачыцца адсутнасьцю ў ЧКА пляну выездаў узгодненага з РВК.

Пленум лічыць неабходным:

1. Узмацніць колькасьць выездаў ЧКА на вёску для непасрэднага інструктаваньня даведачных сталоў.

2. Упарадкаваць правядзеньне платнасьці, ў даведачных сталох, у частковасьці шляхам прыняцьця мер для правільнай пастаноўкі вучоту гэтакай (платнасьці); пацьвярдзіць, што юрыдычная дапамога бяднейшаму насельніцтву павінна аказвацца ва ўсіх сталох бясплатна.

3. Прыняць меры да забесьпячэньня даведачных сталоў і неабходнай у практычнай рабоце юрыдычнай літаратурай, у першую чаргу кодэксамі лічачы ў той-ж час, што забесьпячэньне юрыдычнай літаратурай павіннаісьці за кошт дзяржавы, прасіць НКЮ ўвайсьці з хадайніцтвам у СНК аб забесьпячэньні даведачных сталоў пры хатах-чытальнях кодэксамі, Зборамі Законаў БССР, Бюлетэнем СНК.

4. Упарадкаваць вучот аказваемай у даведачных сталох юрыдычнай дапамогі, дзеля чаго Прэзыдыуму Калегіі дагаварыцца з палітасьветнымі органамі, лічачы, што аказаньне юрыдычнай дапамогі насельніцтву зьяўляецца адным з паказальных момантаў культурнай і грамадзкай работы на вёсцы.

5. Прыняць меры к сваечасоваму атрыманьню перавозачных сродкаў для выездаў ЧКА на вёску, для чаго ў частковасьці, раённым ЧКА загадзя згаварыцца з адпаветнымі органамі.

6. Прыцягнуць ізбачоў, зьяўляючыхся непасрэднымі працаўнікамі даведачных сталоў, да ўдзелу ў працы раённых юрыдычных гурткоў.

7. Лічачы, што прымацаваньне дэлегатаў з даведачных сталоў у г. Віцебску цалкам сябе апраўдала, зьвярнуць увагу адпаведных арганізацый на мэтазгоднасьць прымацаваных дэлегатаў к даведачным сталом і на раёнах.

8. Прымацаваць да даведачнах сталоў пры прафклюбах (у горадзе), акрамя ЧКА таксама судовых работнікаў.

9. Нагляд за правядзеньнем працы па аказаньню юрыдычнай дапамогі ўскласьці ў раёнах на нарсудзьдзяў.

10. Да пачатковага наладжваньня работы даведачных сталоў і выяўленьня ўсіх вынікаў абсьледаваньня гэтакіх камандыраваць аднаго з членаў Акрсуду для ўдзелу ў рабоце Прэзыдыуму Калегіі Абаронцаў па аказаньню юрыдычнай дапамогі насельніцтву.

11. Рэкамэндаваць Прэзыдыуму Калегіі Абаронцаў абмеркаваць пытаньне аб скліку нарады па пытаньнях практычнага правядзеньня работы па аказаньню юрыдычнай дапамогі ў горадзе і на вёсцы.

12. З мэтай папулярызацыі работы даведачных сталоў у горадзе і на вёсцы высьветліць дзейнасьць апошніх у друку.

Зацьвержана Пленумам Віцебскага Акрсуду ў пасяджэньні 23-га ліпеня 1927 г., прат. № 27, § 1.

---

## Рэзалюцыя

### па дакладу аб дзейнасьці Віцебскага акрсуду і народных судоў Віцебскай акругі.

2-я Віцебская Акруговая Нарада працаўнікоў юстыцыі і міліцыі, заслухаўшы справаздачу т. Кудзельскага аб працы Віцебскага акруговага суду з садакладамі т. т. Гінзбурга і Шабуніна аб касацыйнай практыцы за тэрмін 1926 г. і першы квартал 1927 г. і народных судзьдзяў 2 і 6 вуч. Віцебскай акругі т. т. Саўлевіча і Трацякова, азначае:

1) Што праца Акруговага Суду зьяўляецца здавальняючай і што лінія, праводзіўшаяся ім як па крымінальных, так і па грамадзянскіх справах, пад вуглом забясьпекі інтарэсаў дзяржаўных і працоўных, зьяўлялася вытрыманай і правільнай.

2) Жывая сувязь і кіраўніцтва падлеглымі органамі значна палепшылася, як-та:

а) вытвараны рэвізіі і інструктаваньні 15 тэрыт. вучасткаў і Працоўнай Сэсіі, шляхам чаго на месцы зьнішчаліся маючыяся недахопы і даваліся належныя паказаньні;

б) заслуханы справаздачы ўсіх нарсудзьдзяў і судвыканаўцаў на Пленуме Аксуду і даны практычныя паказаньні для далешай працы;

в) у першы раз вытвараны спробы ўсяму складу адказных працаўнікоў, якая проба зьявілася значным штурхачом дзеля падрыхтоўкі іх, і таксама працы над сабой;

г) палепшылася якасьць каспрактыкі, апошняя давала больш прыватных паказаньняў і выпрамляла лінію нарсудоў, а таксама шляхам сыстэматычнага вучоту каспрактыкі, складаньня характарыстыкі і выдачы дырэктыўных паказаньняў.

3) Маюцца значныя посьпехі ў сэнсе вытварэньня дырэктыў вышэйшых органаў у галіне ажыцьцяўленьня нацыянальнае палітыкі наогул і беларусізацыі судовых апаратаў у прыватнасьці.

4) Праца Акрсуду працякала ў больш плянавым парадку.

5) Павялічылася грамадзка-палітычная праца судовых органаў, судзьдзі сталі больш прымаць удзел у грамадзкай працы на сялянскіх сходах, пасяджэньнях РВК і г. д.

6) Праведзена шырокая кампанія па перавыбарах засядацеляў, судовыя працаўнікі скарысталі яе як масавую прапаганду савецкага права і заканадаўст-

ва. У горадзе пачалася сыстэматычная праца сярод іх.

7) Акрсуд своечасова рэагаваў на злачынствы, якія выявілі ўзрост і вялікую грамадзкую карысьць, шляхам пазачарговага іх разгляду, арганізацыі паказальных працэсаў і Выяздных Сэсій.

8) Побач з паказаным трэба падкрэсьліць наступныя недахопы:

а) невыстарчальная колькасьць выяздаў Акрсуду на раёны;

б) ня досыць падрабязговае азначэньне каскалегіі і несвоечасовая іх адпраўка да судоў;

в) сярод засядацеляў на вёсцы да гэтай пары ня было сыстэматычнай працы;

г) апарат нарсудоў па Віцакрузе працуе пры значнай перагрузцы, што адбіваецца на якасьці разглядаемых спраў;

д) з віду паказанага мае месца марудны характар разгляду спраў.

9) У далейшай працы неабходна:

1. Дабівацца нармальных умоў працы нарсудоў, шляхам павялічэньня каштарысу і штату на 1927-28 г. у тых вучастках, якія на працягу гэтага году выявілі фактычную немагчымасьць справіцца з паступленьнем спраў, а таксама падысканьня больш прыгодных памяшканьняў для судоў.

2. Яшчэ больш палепшыць якасьць касацпрактыкі, шляхам дачы больш падрабязговых матывіраваных азначэньняў, а таксама своечасова накіроўваць апошнія да нарсудоў. Праца нарсудоў 2 і 6 вуч. зьяўляецца здавальняючай, лінія правільнай, абодвы суды працуюць пры значнай перагрузцы.

3. Павялічыць колькасьць Выяздных Сэсій Акрсуду ў раёны, ня менш аднаго выязду ў кожны раён на працягу году па бытавых і службовых справах, маючых грамадзкую адзнаку, а таксама нарсудоў на вёску.

4. Рашуча праводзіць рацыяналізацыю судовага апарату, шляхам пераходу на картачную сыстэму, спрашчэньня справаздачнасьці, трафарэцізацыі, а таксама прызначэньня касацыйных спраў праз нарсуды.

5. Узмацніць грамадзка-палітычную працу нарсудоў наогул і працу сярод засядацеляў, у прыватнасьці, па азнаямленьню іх з грунтоўнымі момантамі заканадаўства.

6. Прадаўжаць вытварэньне рэвізіі і інструктаваньне нарсудоў.

7. У мэтах абмену вопытам акругаў паставіць перад НКЮ пытаньне аб неабходнасьці скліканьня Ўсебеларускага зьезду працаўнікоў юстыцыі і міліцыі.

8. Паставіць перад НКЮ пытаньне аб кадыфікацыі нашага заканадаўства.

9. Палепшыць справу аказаньня юрыдычнай дапамогі насельніцтву шляхам запаўненьня ў двухмесячны тэрмін усіх раёнаў абаронцамі, сыстэматычнага выязду абаронцаў і суддзяў на вёску, дзе абавязкова інструктаваць хаты-чытальні і даведачныя сталы.

10. Дзеля плянавасьці гэтай працы і лепшага інструктаваньня рэкамэндаваць скліканьне раённых нарад загадчыкаў хат-чытален.

11. Абавязкова вытвараць ня менш 2-х у год раённых нарад працаўнікоў судовых і адміністрацыйных органаў міліцыі, суду, працаўнікоў сьледзтва, лясных, зямельных працаўнікоў).

12. Лічыць неабходным прывясьці ў парадак у 1927 г. падлягаючыя здачы архіўныя справы.

13. Канстатуючы кволую працу юрыдычных гурткоў у мінулым годзе, зьвярнуць увагу на неабходнасьць з восені пачаць іх працу, прыцягваючы ў гэтую працу працаўнікоў РВК і міліцыі і нарзасядацеляў.

---

## Юрыдычная дапамога насельніцтву па Бабруйскай і Слуцкай акругах*).

Апрача звычайнай штодзённай кансультацыі пры Бабруйскім акруговым судзе і кансультацыі па аўторках, серадах і чацьвяргох кожнага тыдню у доме Селяніна і інш., Прэзыдыумам Бабруйскай акруговай калегіі абаронцаў за мінулы час праороблена наступная праца спэцыяльна па хатах-чытальнях Бабруйскай і Слуцкай акруг:

Арганізаваны даведачна-кансультацыйныя сталы ў **1-м Бабруйскім раёне:** а) у в. Дваранінавічах—у складзе ізбача, вяскора і аднага камсамольца, якім асобам пры наведваньні хаты-чытальні раённым абаранцам былі растлумачаны мэты стала і коратка дадзены элемэнтарныя правілы для кіраваньня пры дачы юрыдычных парад, насельніцтву і пісаньню заяў. Для штомесячнай справаздачнасьці па гэтай працы ізбачу дадзены формы яе, якія прыняты ў практыцы калегіі абаронцаў.

На скліканым у хаце-чытальні сходзе сялян і сялянак вескі, абаронцам быў зроблен даклад аб рэвалюцыйнай законнасьці, які праслухан аўдыторыяй з вялікай зацікаўленасьцю. На ўзьнікшай пасьля дакладу гутарцы падніmaліся балючыя для вёскі пытаньні аб мерапрыемствах па зьнішчэньні хуліганства і зладзейства.

*) Па матар'ялах Прэзыдыуму Бабруйскай акруговай калегіі абаронцаў на інструкцыйны ліст НКЮ за № 2.

Нарзаседателям, якія тут-жа прысутнічалі, былі растлумачаны іх правы і абавязкі. Наогул сход прайшоў вельмі жыва, насельніцтва адняслося з давер'ям да растлумачэньняў абаронца і пры ад'езьдзе яго выказала пажаданьне аб часьцейшым наведваньні вёскі; б) у в. Казулічах—у складзе ізбача, настаўніка, старшыні сельсавету і вяскора. Гэты даведачны стол арганізаван абаронцам, які выязджаў для гэтай мэты ў в. Казулічы і інструктаваў увесь склад даведачнага стала аб мэтах яго бліжайшай працы па юрыдычнай дапамозе насельніцтву, па рэгістрацыі, паводле паказанай формы і па прадстаўленьні штомесячнай справаздачнасьці. Бюро пастаноўлена аб арганізацыі штодзеннага дзяжурства членаў юрыдбюро пры хаце-чытальні; в) у в. Ахвоцічах—у складзе ізбача, старшыні сельсавету, старшыні камітэту ўзаемадапамогі, аднаго камсамольца і аднаго члена сельсавету. На скліканым сходзе сялян ізбачом быў зроблен даклад аб дзейнасьці хаты-чытальні ў галіне юрыдычна-асьветнай, які выклікаў жывы абмен думак. Пасьля дакладу ізбача абаронца прачытаў даклад аб рэвалюцыйнай законнасьці, праслуханы сходам з вялікай увагай.

У мэтах набліжэньня юрыдычнай дапамогі да насельніцтва склад даведачнага стала ўхваліў адчыніць аддзяленьне стала з трох асоб у в. Баравіца, дзе знаходзіцца сельсавет. Ізбачу дадзена форма для штомесячнай справаздачы аб працы стала; г) у в. Глыбокавічы—у складзе ізбача, настаўніка, сакратара сельсавету і двух грамадзян. Наведаўшым хату-чытальню абаронцам было растлумачана прызначэньне даведачнага стала і паказан спосаб падачы юрыдычнай дапамогі насельніцтву, форма штомесячнай справаздачнасьці і форма запісаў па кансультацыях. Хата-чытальня, акрамя вёскі Глыбаковічы, абслугоўвае яшчэ вёску Барчыцы, хут. Лешчанку, вёску Падлешчанку, ваколіцу Ізабеліна, пас. Кісьцені, пас. Н. Лешчанку і пас. Вянера-Вінаград.

**У 2-ім Бабруйскім раёне:** а) у в. Восава, член калегіі абаронцаў, які туды выязджаў, арганізаваў пры хаце-чытальні даведачна- кансультацыйны стол у складзе: ізбача і чатырох грамадзян. У сувязе з сьвятам 1 мая—абаронца прыняў удзел у арганізацыі мітынгу і гутарак, на якім была расказана гісторыя сьвята і яго значэньне, а потым была прачытана лекцыя на тэму аб народных засядацелях, іх правох і абавязках з пытаньнямі і адказамі на іх. Гутарка мела жывы характар. Па сканчэньні сяляне прасілі абаронца часьцей прыязджаць да іх на вёску; б) у в. Брожа абаронцам быў арганізаван пры хаце-чытальні даведачна-кансультацыйны стол у складзе: ізбача і двох грамадзян. Дадзена была інфармацыя аб мэтах і задачах даведачнага стала і аб парадку работы ў ім; в) у в. Турках арганізаван даведачна-кансультацыйны стол у складзе ізбача і трох грамадзян, якім растлумачаны задачы стала і спосабы юрыдычнай дапамогі насельніцтву і г) у в. Цялуша—ізбачу даны былі інструкцыі аб мэтах і задачах працы стала, але-ж склад стала яшчэ не запоўнен.

**У Парыцкім раёне:** Даведачныя сталы арганізаваны пры хатах-чытальнях у в. в. Чэрнін, Дуброве, Чырковічах, Шчадрыне, Навозы, у м. Парычах маецца нардом. Парыцкімі абаронцамі ўстаноўлена сувязь з усімі сталамі: усе хаты-чытальні наведаны абаронцамі пры паасобных выездах і ізбачы належным чынам інструктаваны; па прасьцейшых юрыдычных пытаньнях ізбачы даюць насельніцтву парады і пішуць заявы. Асабіста абаронцамі праводзяцца гутаркі на праўныя тэмы, а таксама вечары пытаньняў і адказаў. У Парычах 13 красавіка г. г. быў зроблен даклад аб шлюбе, сям'і і апецы, а ў вечары тагож самага дню праведзен вечар пытаньняў і адказаў у прысутнасьці ня менш 100 чал. мясцовых жыхароў і рабочых, якія выявілі значную зацікаўленасьць да пытаньняў права. 28 красавіка ў Чэрнінской хаце-чытальні праведзена гутарка на тэмы: „Новы закон аб усынаўленьні. апецы і папячыцельстве“, „Наём на сельскія работы“, „Парадак вядзеньня спраў аб абнаўленьні парушанага карыстаньня зямлёю“, „Арэнда зямлі“, „Купля-прадажа маемасьці, нявыклю анай з абароту“. Прысутнічала каля 60 чал. Актыўнасьць сходу выявілася ў шматлікіх пытаньнях і запатрабаваньнях тлумачэньняў па зьместу дакладу.

**У Глускім раёне:** Даведачныя сталы пры хатах-чытальнях у в. в. Жалвінец, Ляскавічы, Карпілаўка, Германава Слабада і Латыскай калегіі функцыянавалі ўсю зіму. Праца абаронцы выявілася ў інструктаваньні ізбачоў і ў падтрымліваньні з імі пісьмовай сувязі ў адказах на розныя праўныя запытаньні. Паасобны выезд быў зроблен толькі ў Жалвінецкую хату-чытальню. У самым Глуску абаронцам былі прачытаны даклады: 13 красавіка ў рабочым клюбе саюзу дрэваапрацоўнікаў „аб рэвалюцыйнай законнасьці“, 17 красавіка ў юрыдычным гуртку „аб шлюбным праве“ і 30 красавіка ў райміліцыі „аб крымінальным і грамадзянскім праве.“

**У Сьвіславіцкім раёне:** Арганізаваны даведачна-кансультацыйныя сталы пры хатах-чытальнях у вёсках: Востраў, Касьсе, Елізава, Градзянка і Пагарэлае. Ізбачы гэтых хат былі інструктаваны абаронцамі і сувязь з імі падтрымліваецца шляхам пісьмовых адказаў абаронцы на прысылаемыя яму пытаньні.

**У Клічаўскім раёне:** Даведачна-кансультацыйныя сталы існуюць пры хатах-чытальнях у вёсках: Кабылянка, Запольле, і Суша. Сувязь з гэтымі сталамі абаронцы падтрымліваюць выпадкова пры выездах з судом і пры наведваньні ізбачамі м. Клічава. Паасобныя выезды абаронцаў па хатах-чытальнях з прычыны значнай ад.

легласьці іх ад м. Клічава злучаны з труднасьцямі і застаўленьнем раёну без абаронцы на цэлыя тыдні. Ізбачы праінструктаваны абаронцам у час пяцідзённых курсаў для нарзасядацеляў у м. Клічава.

**У Жлобінскім раёне:** Хаты-чытальні існуюць у вёсках: Лукі, Старая Рудня, Снажаткі, Каратковічах і Чэцьвернях. У лютым г. г. пры наведваньні в. Мышалаўка на шматлікім сходзе абаронцам зроблен даклад аб рэвалюцыйнай законнасьці, ізбачы кожны паасобку былі інструктаваны пры наведваньні вёсак, а 19 красавіка на зьезьдзе ізбачоў у г. Жлобіне быў зроблен даклад на тэмы: „Роля і значэньне абароны паводле Савецкіх законаў“, „У чым грамадзянская праца савецкага юрыста“, „Ізбачы, як распаўсюджвацелі савецкага права на вёсцы“, „Аб арганізацыі даведаўчых сталоў“, „Аб шкоднасьці падпольнай адвакатуры і мерапрыемствах па барацьбе з ею“, „У чым павінна выявіцца сувязь абаронцы з хатамі-чытальнямі“.

**У Рагачоўскім раёне:** З хатамі-чытальнямі ў вёсках Ціхінічы, Забалоцьце і Азяраны сувязь устаноўлена і пры іх арганізаваны даведачныя сталы.

**У Гарадзецкім раёне:** Пры двух хатах-чытальнях Стапнянскай і Цэркаўскай арганізаваны даведачна-кансультацыйныя сталы.

**У Буда-кашалёўскім раёне:** Маецца адзін нардом і 2 хаты-чытальні, у нардоме кансультацыйны стол адчынен і належным чынам інструктаван, а з хатамі-чытальнямі пакуль што ўстаноўлена толькі сувязь.

**У Асіповіцкім раёне:** У раёне есьць 3 хаты-чытальні, з якімі пакуль што ўстаноўлена толькі сувязь.

**У Страшынскім раёне:** Маецца адзін нардом і 2 хаты-чытальні. У гэтым доме адчынен кансультацыйна-даведачны стол і дадзена адпаведнае інструктаваньне. З хатамі-чытальнямі ўстаноўлена толькі сувязь.

**У Слуцкім раёне:** Маецца 3 хаты-чытальні ў вёсках Амгавічы, Цараўцы і Урэччы і нардом імя Леніна, якія шляхам выездаў абаронцаў былі абсьледаваны і ізбачы належным чынам інструктаваны; пры ўсіх хатах даведачныя сталы функцыянуюць і праца іх працякае здавальняюча, за выключэньнем Цараўскай хаты, дзе даведачны стол амаль што бязьдзейнічае, што тлумачыцца блізкай адлеглацьцю яго ад гор. Слуцку.

**У Любаньскім раёне:** маецца нардом і 3 хаты-чытальні, даведачны стол пры нардоме працуе пры беспасрэдным і сыстэматычным удзеле раённага абаронцы. Хаты-чытальні належным чынам інструктаваны і даведачныя сталы працуюць бесьперабойна.

**У Старадарожскім раёне:** Маецца нардом і 3 хаты-чытальні. Даведачны стол пры нардоме працуе пад непасрэдным наглядам раённага абаронцы. У в. в. Дарагавава, Новыя Дарогі, і Горкі ў працягу красавіка даведачныя сталы таксама арганізаваны. На раённым зьезьдзе ізбачоў у Старых-Дарогах абаронцам зроблен даклад аб правільным вядзеньні працы ў даведачных сталох.

**У Копыльскім раёне:** Маецца нардом і 4 хаты-чытальні ў в. в. Пясочнае, Бабоўня, Ланцуцнае і Крывасельле. Праца даведачнага стала пры нардоме працякае пад неспасрэдным наглядам раённага абаронцы, але-ж выездаў па хатах-чытальнях ня было з прычыны нядаўняга ўсяленьня абаронцы на месца і перагружанасьцю працай па правядзеньню курсаў для работнікаў сельсаветаў.

**У Грэскім раёне:** Ёсьць нардом і 3 хаты-чытальні ў весках Грэск, Старыца і Замосьце. Пры ўсіх хатах-чытальнях даведачныя сталы функцыянуюць і інструктуюцца.

**У Чырвонаслабодзкім раёне:** Гэты раён ня мае сталага абаронцы і абслугоўваецца абаронцай Грэскага раёну, а часткова і Старобінскага. У раёне маецца нардом і 3 хаты-чытальні ў в. в. Семяжова, Малашэвічы і Чапліцы, у якіх праца даведачных сталоў наладжана.

**У Старобінскім раёне:** Маецца нардом і 5 хат-чытальняў у в. в Пагост, Чэнялі, Жоўты Брод, Князь-возера і Дзякавічы. Даведачны стол пры нардоме працуе нармальна пры сталым супрацоўніцтве раённага абаронцы, з хат-чытальняў толькі ў адной наладжана праца даведачнага стала. а ў апошнія 4 выяздаў да гэтага часу ня было, але-ж сувязь з хатамі-чытальнямі ўстаноўлена.

Робячы падлік вышэйвыкладзенага, трэба канстатаваць, што калегія абаронцаў ня поўнасьцю выканала ўскладзеную на яе працу па юрыдычна-асьветнай дапамозе насельніцтву і там, дзе праца ўжо наладзілася, правадзілася яна да гэтага часу без здавальняючай энэргіі і без сыстэматычнага пляну, але-ж ня ўся віна за слабасьць праведзенай працы можа быць укладзена на калегію. Галоўная прычына гэтага—адсутнасьць сродкаў перасоўваньня, кепская забясьпека большасьці абаронцаў і вясновае раздарожжа. Посьпех працы калегіі абаронцаў залежыць ад сталага і сыстэматычнага ў раней адзначаныя дні правядзеньня яе па хатах-чытальнях, сьледам чаго самым потрэбнымі у гэтай справе забясьпечаньнем калегіі і паасобных яе членаў зьяўляюцца сродкі перасоўваньня, а паміж тым, гэтых сродкаў няма, за выключэньнем выпадковых без папярэдняга паведамленьня насельніцтва, а пагэтаму і наведваньне хат-чытален часам не давала таго максымуму вынікаў, якога можна было чакаць пры больш спрыяючых умовах перасоўваньня.

На будучы час Прэзыдыум калегіі абаронцаў лічыць патрэбным унесьці у гэтую справу некаторую сыстэму: распрацаваць плян працы і прыняць усе мерапрыемствы да таго, каб наведваньні хат-чытален абаронцамі дасягалі магчыма большых вынікаў. У гэтай працы прэзыдыум павін-

на прыйсьці на дапамогу абраная ім культурная камісія ў складзе аднаго члена прэзыдыуму і двох абаронцаў, а таксама прадстаўнікоў ад акруговых палітасьветы і акрпрафсавету, на якую ўскладзен абавязак распрацоўкі календарнага пляну працы, складаньня сьпісу патрэбных юрыдычных падручнікаў для хат-чытален, якімі апошнія слаба забясьпечаны і вышукваньня сродкаў перасоўваньня і спосабаў зносін з хатамі-чытальнямі, бо толькі на свае сродкі калегія разьлічваць ня можа.

## АДКАЗЫ НА ПЫТАНЬНІ

**Пытаньне 1.** Грам. А. падана ў суд заява аб высяленьні гр. Б. з займаемай ім кватэры ў яго доме з прычыны неабходнасьці вытвару рамонту, суд знаходзячы трэбаваньні грунтоўнымі выносіць рашэньне на падставе арт. 171 п. „б“ ГК аб высяленьні гр. Б. з займаемай кватэры, з правам заняцьця гэтакай па вытвару рамонту.

Перад заканчэньнем рамоту гр. А. падаецца новая іскавая заява аб тым, каб гр. Б. ня быў уселен у раней займаемую ім кватэру з прычыны таго, што ім незаплачана кватэрная плата згодна існуючых ставак за 4 месяцы з просьбай гэтакую спагнаць у яго карысьць. Як у гэткім выпадку суд павінен паступіць, калі факт неплацяжу кватэрнай платы ўстанаўляецца і іск трэбаваньня падпадае пад арт. 171 п. „з“ ГК і аднačасова справы зьвязаны адна з другою?

**Адказ.** Згодна п. „і“ арт. 173 ў рэдакцыі 1927 г. Грам. Код., у выпадку неабходнасьці вытварэньня грунтоўнага рамонту, дагавор найму можа быць дасрочна парван судом па патрабаваньню зацікаўленых асоб і ўстаноў, аднак, з той абавязковай умовай, што па сканчэньні гэтага рамонту, памяшканьне павінна быць прадастаўлена асобам, якія у ім пражывалі, калі яны гэтага пажадаюць. Гэткім чынам, калі адбылася пастанова суду аб высяленьні для рамонту, дагавор найму лічыцца скасаваным і за кватарантам застаецца толькі права, калі ён таго пажадае, патрабаваць пусьціць яго ў тое памяшканьне па сканчэньні рамонту. Калі-ж выявіцца, што кватарант ня выканаў дагавору і ў прызначаны законам тэрмін ня ўнёс арэнднае платы і гэта ўстаноўлена пастановай суду аб спагнаньні з яго гэтае платы, існец мае права патрабаваць пазбавіць адказчыка адваротнага ўсяленьня ў кватэру, і суд павінен пастанавіць спагнаць з адказчыка арэндную плату і пазбавіць яго адваротнага заняцьця кватэры, якое паказана ў рашэньні ад такога-та числа. Гэта ня будзе адмена самым судом свайго рашэньня, бо па-першае, кватарант быў ня істцом, а адказчыкам і агаворка ў рашэньні ёсьць абмежаваньне таго, што прысуджана суду, а па-другое, права, якое мела старана, хоць-бы яно нават было прысуджана судом, старана можа быць пазбаўлена судом на іншых законных падставах, якія ня былі прадметам абгаварэньня ў першай справе, а можа вынiклі пасьля. Зразумела, што ў час падачы першага іску можа яшчэ ня зышоў двухмесячны тэрмін на ўзнос кватэрнай платы і існец і ня меў права тады патрэбаваць высяленьня за ня ўнос платы. Аднак, трэба мець на ўвазе, што гэта не датычыць платы за час рамонту, бо за гэты час плата ня можа спаганяцца, за адсутнасьцю дагавору найму.

**Пытаньне 2.** Як быць у такіх выпадках, калі Камгасам выдаецца ордэр члену саюзу на заняцьце толькі жылое плошчы (кватэры), між тым як па сямейных умовах, альбо разьмежаваньне займаемай кватэры, азначанаму жыльцу

неабходным зьяўляецца заняцьце халоднае будовы: хлява, кладавое і г. д. для складу дроў, трыманьня каровы і г. д. Дамаўласьнік, карыстаючыся гэтым, трэбуе плату ад кватаранта за азначаныя будовы сколькі яму ўздумаецца (непасільную) і па адмове плаціць прад'яўляе ў суд іск?

**Адказ**. Пытаньні аб выдзяленьні жылой плошчы немуніцыпалізаваных будынкаў рэгулююцца пастановай ЦВК і СНК ад I/II-25 г. (З. З. БССР 25 г. № 9, арт. 79). Згодна арт. 2, плошча выдзяляецца дамакіраўніцвамі, або дамаўласьнікамі па згодзе з Аддзелам Камунальнае Гаспадаркі, а спрэчкі разьвязваюцца судом (З. З. БССР 1926 г., № 21 арт. 79). Халодныя будовы пры доме (хлеў, кладавая і г. д.) зьяўляюцца прыналежнасьцю дому (арт. 25 Гр. Код.) і падзяляюць лёс галоўнай рэчы, дзеля гэтага з выдзяленьнем у камунальны фонд кватэрнае плошчы, павінны быць прадастаўлены ў адпаведных разьмерах, і службовыя будынкі, або месца карыстаньня ў іх. Гэтае пытаньне канкрэтна павінна быць урэгулявана Камгасам, а прынцыпова, на падставе арт. 25 Гр. Код. дамаўласьнік павінен прадаставіць ў карыстаньне службы, калі яны ёсьць і высяляць за няплату за іх ня мае права.

**Пытаньне 3**. Па справах аб самавольным захопе зямлі—ці павінна раней Зямельная Камісія ўстанавіць налічча захопу, аднавіць парушанае землякарыстаньне і потым толькі магчыма прыцягненьне да крымінальнай адказнасьці па арт. 103 КК., або наадварот?

**Адказ.** Паводле арт. 25 і ўвагі да арт. 199 Зям. Код. пры самавольным захопе зямлі, аднаўленьне парушанага землякарыстаньня, да вырашэньня справы па сутнасьці ва ўсім аб'ёме, вытвараецца на падставе прыватнай пастановы Зямельнай Камісіі. Такі парадак аднаўленьня парушанага землякарыстаньня ўстаноўлен у законе, напэўна, дзеля таго, што ў гэтых выпадках узьнікае пытаньне не аб праве на зямлю, каторае патрабавала аб прызнаньні яго судовымі рашэньнямі, а толькі аб факце самавольнага захопу зямлі, які факт толькі і павінен быць пасьведчан. А з тае прычыны, што Крымінальны Суд кампэтэнтэн ва ўстанаўленьні тых або іншых фактычных акалічнасьцяй, утвараючых у сваёй злучнасьці складанае злачынства, то для зварочваньня ў гэты суд з хадайніцтвам аб прыцягненьні вінаватых у захопе да адказнасьці па арт. 103 КК няма законных падстаў патрабаваць папярэдняга рашэньня пытаньня аб захопе зямельнай камісіяй. Гэтак-жа сама няма падстаў для зварочваньня ў Зямельную Камісію патрабаваць папярэдняга рашэньня пытаньня аб захопе Крымінальным Судом (гл. інструкцыю Наркамзему „аб парадку вытварэньня зямельных спраў, гл. XXIII—Бюл. СНК 1925 г., № 9, стар. 21). Калі, аднак, справа аб захопе вырашана Крымінальным Судом або Зямельнай Камісіяй, то пры пасьледуючым вырашэньні адпаведным судом Грамадзянскіх або Крымінальных пасьледкаў закону павінны мець дапасаваньне правілы выкладзеныя ў арт. 12 і 13 КПК.

**Пытаньне 4**. Ці магчыма ў мястэчку прыцягненьне да адказнасьці па арт. 135 КК дамаўласьніка за вымаганьне з працоўных кватэрнай платы звыш вызначаных ставак СНК для гарадоў пры наліччы жылкрызісу ў мястэчку і адсутнасьць таксы аплаты жылых памяшканьняў у мястэчках.

**Адказ.** Па арт. 137 КК прасьледуецца спагнаньне з працоўных кватэрнай платы за жылішча вышэй разьмеру, вызначанага мясцовымі выканаўчымі камітэтамі ў межах устаноўленых Саветам Народных Камісараў. Дзеля гэтага ў мясцовасьцях, для каторых гранічныя стаўкі кватэрнай платы Саветам Народных Камісараў не

ўстаноўлены, арт. 135 КК ня можа мецъ дапасаваньня.

**Пытаньне 5.** Вінаватыя ў продажы дарэньняў і г. д., паводле арт. 26 ЗК падлягаюць прыцягненьню да адказнасьці ў судовым парадку. Па якім артыкулу Крымінальнага Кодэксу належыць кваліфікаваць гэта злачынства?

**Адказ.** У крымінальным кодэксе няма прамога артыкулу, каторы прадугледжваў-бы ў судовым парадку паводле арт. 26 зямельнага кодэксу. На падставе-ж арт. 10 КК. гэтыя правапарушэньні бліжэй усяго могуць быць падведзены пад дзеяньне арт. 136 К. К., прадугледжваючага парушэньне палажэньняў рэгулюючых правядзеньне ўжыцьцё дзяржаўных манаполій, бо распараджэньне зямлёю за выключэньнем выпадкаў, паказаных у арт. 30 і далей зямельнага кодэксу, прыналежыць ў канчатковым выніку выключна дзяржаве, каторая, згодна арт. 2 таго-ж кодэксу, зьяўляецца ўласьнікам усіх зямель, пад чым-бы ведамам яны не знаходзіліся.

**Пытаньне 6.** Грамадзянка два месяцы пражыла (з 15/VI-15/VIII) у двары свайго фактычнага мужа, пасьля чаго ён яе выгнаў; заработнай платы патрабаваць яна ня можа, бо жыла і працавла ў якасьці жонкі, а не батрачкі, але ў двор фактычнага мужа фармальна залічана ня была.

Ці мае права гэтая жанчына на іск за беспадстаўнае абагачэньне?

**Адказ.** Згодна арт. 22 Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (Збор Зак. БССР 1927г., №—7, арт. 26) фактычная жонка мае права на маемасьць, нажытую ёю і яе супругам супольнаю працаю ў часе фактычнага шлюбу. У даным выпадку жонка сваёй працай ўнесла каштоўнасьць у гаспадарку супруга, таму яна і мае права на гэтыя каштоўнасьці, хоць-бы ў разьмеры заработнай платы батрачкі за час працы ў двары адказчыка.

Для доваду гэткага іску неабходна ўстанавіць перад судом існаваньне незарэгістраванага шлюбу довадамі, якія паказаны ў арт. 23 Кодэксу Законаў аб шлюбе, сям'і і апецы (запытаньне нарсудзьдзі Назарука).

**Пытаньне 7.** Грамадзяніну па распараджэньню ЦВК было перадана бясплатна без дагавору муніцыпалізаванае памяшканьне. За час карыстаньня гэты грамадзянін на свае сродкі пабудаваў на двары каменны будынак і пакінуў прадастаўленае яму памешканьне.

Ці мае права грамадзянін на ўзнагароду за пабудаваны ім будынак або ці трэба дапасаваць да гэтага выпадку правілы арт. 181 Грамадзянскага Кодэксу?

**Адказ.** Калі будынак быў падаваны пасьля 1 сакавіка 1923 г. (час увядзеньня ў дзеяньне Грамадзянскага Кодэксу БССР), забудоўшчык, самавольна яго пабудаваўшы, мае права, на падставе арт. 441 Грамадзянскага Кодэксу БССР, на атрыманьне ад аддзелу камунальнай гаспадаркі каштоўнасьці будынку, але пры ўмове, што камунаддзел не патрабуе зносу будынку ў апошнім выпадку забудоўшчык мае права толькі атрымаць сабе ўзваротна будаўнічы матар'ял.

Арт. 181 Гр. Код. да данага выпадку дапасоўваць нельга.

# Бібліаграфія.

Праф. М. Грэдынгер.

**„Гражданский Кодекс Советских Республик. Текст и практический комментарий под редакцией проф. А. Л. Малицкого. Издание третье, исправленное и дополненное. Юридическое издательство НКЮ УССР, 1927 г.“, 774 стар., цана 4 р. 25 к. (у вокладцы 4 р. 65 к.).**

Гэты выдатны камэнтары, які заваяваў сабе моцныя і справядлівыя сымпатыі на ўсёй тэрыторыі Саюзу ССР, зараз павялічыўся ў аб'ёме ў параўнаньні з папярэднім выданьнем 1925 г. амаль ня ў два разы, а ў параўнаньні з яго першым выданьнем 1923 г.—роўна ў два з палова разы. Такі хуткі рост камэнтарыя праф. Маліцкага, плянамернае, праз кожныя два гады новае перавыданьне яго ў дапоўненым і папраўленым відзе, лепш за ўсё сьведчыць аб тэй вялікай патрэбе, якую адчуваюць—у першую чаргу судовыя працаўнікі, а за імі, ня ў меншай меры, сучасная навука права.

Калі ў першым выданьні разглядаемага камэнтарыя асновай зьявілася ўкраінскае заканадаўства, якое рэгулюе грамадзянска-праўныя адносіны, і гэта заканадаўства ў той час толькі двума артыкуламі адрозьнівалася ад заканадаўства РСФСР, то ў сучасны момант каля аднае сёмае часткі ўсіх артыкулаў грамадзянскіх кодэксаў гэтых дзьвёх рэспублік ужо не супадаюць. Гэта разыходжаньне грамадзянска-праўных норм паасобных савецкіх рэспублік пазьней яшчэ значней будзе адчувацца, хоць яно далёка не заўсёды тлумачыцца рэальнымі патрэбамі і бытавымі асаблівасьцямі і лёгка можа прывесьці да непатрэбнага, а часамі і шкадлівага праўнага разлучэньня паасобных членаў „единородной“ [1]) саюзнай дзяржавы [2]).

А. Л. Маліцкі яшчэ першаму выданьню свайго камэнтарыя даў назву „Гражданский Кодекс Советских Республик“, захаваўшы яе і для трэцяга выданьня. Але, коратка гаворачы, такая назва не адпавядае фактычнаму становішчу, папершае, таму, што-калі ня лічыць прыведзеных, як дадаткі, на старонках 707—733 зьмен і дапаўненьняў Г. К. ССРГ і ССРА—заканадаўствы іншых рэспублік, БССР і Айзэрбайджана, не гаворачы ўжо аб Туркменскай і Узьбецкай, у камэнтарыі зусім не знашлі свайго адбітку. Праўда, Беларускі грамадзянскі кодэкс, напрыклад, толькі ў самыя апошнія часы вышаў цэльным выданьнем у сьвет. Аднак, гэта яшчэ ня значыць, што ад часу прыняцьця і ўваходжаньня ў сілу Г. К. РСФСР на Беларусі, г. зн. з 1-га сакавіка 1923 г., у Беларускім заканадаўстве не рабілася ніякіх зьмен і дапаўненьняў да тэтага кодэксу. Яны сваячасна апублікоўваліся ў афіцыйных органах друку.

А з другога боку ня трэба забываць, што адзінага, агульнага для ўсіх савецкіх рэспублік Грамадзянскага Кодэксу ня існуе, і разглядаемая з гэтага пункту погляду назва: „Гражданский Кодекс Советских Республик“ на справе ня зусім удалая. Зразумела, гэтым яшчэ не гаворыцца, што цікавячы нас камэнтарый—апроч УССР і РСФСР—для іншых нашых рэспублік ня прыдатны, або ня мае практычнага значэньня. Не гаворачы ўжо пра тое, што грунтоўнае знаёмства з рознамясцовымі нормамі наогул зьяўляецца канечным абавязкам савецкага праўніка,—

[1]) Паводле прынятага мною азначэньня; гл. мой артыкул „Вокруг основных начал землепользования и землеустройства в „Працах БДУ“, 1927 г., № 14.

[2]) Асабіста я ня раз выказваў скэптычны погляд на падобныя зьявішчы. Гл., напр., мой артыкул „Наша гражданско-судебная практика и вопрос о склонении сторон к миру“ в „Весьці НКЮ БССР“, 1927 год, № 4—5. Далей: у маёй „Характеристике гражданского права лиф.крест.“, 1904 г., ст. 40—41. Гл. таксама мой артыкул у Бэрлінскім журнале „Острехт“кн. 3, 1927 г. і інш. („Ostrecht“).

рэгуляваньне грамадзянска-праўных адносін заканадаўствамі паасобных нашых рэспублік ня можа выявіць вельмі рэзкіх прынцыповых розьніц, пасколькі асноўная лінія, накіраваная на будаўніцтва сацыялізму, ва ўсіх іх аднолькавая [1]).

З надворнага боку новае выданьне камэнтарыя выгодна адрозьніваецца ад папярэдніх лепшым друкам і рэльефным выдзяленьнем паасобных тэзісаў, што палягчае арыентыроўку і карыстаньне кнігаю.

Зварочваючыся да разгляду ўнутраных якасьцяй камэнтарыя, нельга не адзначыць з асаблівым жалем, што бязьлітасная сьмерць выхапіла з калектыву ранейшых удзельнікаў распрацоўкі яго такога першараднага знаўца грамадзянскага права і, у паасобку, савецкага заканадаўства, якім быў прафэсар і акадэмік В. М. Гардон. Але апроч гэтай страты, значных перамен у складзе супрацоўнікаў па распрацоўцы камэнтарыя не адбылося. Імёны прафэсароў Карэцкага, Сьлівіцкага, Сямёнавай, Сераброўскага і інш., браўшых удзел у цікавячай нас калектыўнай працы, загадзя зьяўляюцца гарантыяй, што яна і ў новым сваім відзе апраўдвае набытую за ранейшымі выданьнямі яе рэпутацыю. Апроч гэтага склад супрацоўнікаў яшчэ вельмі ўдала папоўніўся С. Н. Ландкофам, які ўжо пасьпеў сябе добра заракамандаваць у нашай літаратуры, і М. В. Гардонам, сынам нябожчыка акадэміка. А на чале ўсяго калектыву ў якасьці кіраўніка і галоўнага рэдактара стаіць праф. А. Л. Маліцкі, адзінакава добра вядомы як практык (ён зьяўляецца старшынёю грамадзянскае касацыйнае калегіі найвышэйшага суду УССР), і як тэарэтык. Калі бясспрэчна, што сучасная навука права ня можа ня мець практычнага напрамку, бо бяз практыкі яна мёртвая, то, з другога боку, і практыка, тагды толькі будзе стаяць на патрэбнай вышыні, калі судовыя працаўнікі будуць уладаць у выстрачальнай меры тэарэтычнымі ветамі. Да пасільнага задаволеньня запыданьняў адных і другіх і імкнецца камэнтары Маліцкага.

У далейшым спынімся на важнейшых момантах, якія могуць ахарактарызаваць праведзеную для трэцяга выданьня гэтага камэнтарыя работу. Усебаковы разбор яго патрабаваў-бы вельмі многа месца і выходзіць за рамкі часопіснага водзыву.

Адзначым перш за ўсё арт. арт. 105[1]—105[9], якія нармуюць залог тавару ў звароце паводле ўкраінскага заканадаўства (С. У. УССР, 1926 г. № 63, ст. 425). Апошняму належыць пачын у заканадаўчым рэгуляваньні гэтай арыгінальнай угоды. Але з тае прычыны, што апэрацыя залогу тавару ў звароце—фактычна вельмі ўжываецца і ў іншых рэспубліках,—ня гледзячы на адсутнасьць у іх азначаючых яе станоўчых, пазытыўных норм—то гэты разьдзел камэнтарыя зьяўляецца двойчы цікавым для іх. Камэнтарыі для гэтага разьдзелу зроблены т. Давідовічам умела і грунтоўна.

Тэзісы пад арт. 118 ў новай рэдакцыі адрозьніваюцца большаю выразнасьцю ў параўнаньні з ранейшаю. Выкінута паміж іншым апошняе палажэньне, прыведзенае ў ранейшых выданьнях пад гэтым артыкулам,—аб тым, што на падставе нашага Г. К. немаемасная шкода не павінна адплачвацца. Выказаны ў такой станоўчай форме гэты тэзіс, як здавалася некаторым, не адпавядаў тэзісу пад арт. 107, паводле якога дзеяньне можа і не насіць маемаснага, а ў паасобку, грашовага, характару. Крытыка ў свой час аспрэчвала юрыдычнае значэньне з пункту погляду нашага заканадаўства немаемаснага інтарэсу. Напэўна, пад яе ўплывам зазначаны тэзіс выключан з ліку аб'ясьненьняў да арт. 117 [2]).

Разьдзелы аб агульных палажэньнях права абавязнасьцяй і абавязнасьцях, вынікаючых з дагавораў, абагаціліся цэлым шэрагам каштоўных аб'ясьненьняў, з якіх асабліва трэба падкрэсьліць зьмешчаныя пад арт. арт. 120, 124—128. Некаторыя з іх, як напрыклад, аб'ясьненьні пад арт. 121 (прасрочка даўжніка) або пад арт. 129 (выпадкі спыненьня абавязаньня) зьяўляюцца лепшымі старонкамі камэнтарыя.

Вялікую практычную і тэарэтычную вартасьць маюць, далей, нанава ўнесеныя дапаўненьні да аб'ясьненьняў, прысьвечаных да дагавору куплі-продажу. Тут прыведзены таксама багаты матар'ял, скарыстаны з рашэньняў арбітражных камісій. Вельмі цікава разьбіраецца юрыдычнае значэньне так званае абмоўкі „рэбус сік станцібус", якая гатова часамі прыняць гіпэрбалічныя разьмеры. Т. Ландкоф, якому належыць камэнтары да названага разьдзелу, лічыць гэта правіла не дасягаючым мэты [3]). Але асноўнае па-

---

[1]) Гл. мой арт. у № 6—7 „Вестника Советской Юстиции" за 1927 г.

[2]) Паміж іншым, ускладаньне абавязкаў загладзіць шкоду, як мера сацыяльнае абароны, па правільным тлумачэньні таксама не патрабуе бязумоўна прысутнасьці страты маемаснага характару. Аб гэтым гл. мой артыкул: „Проблема возложения обязанности загладить вред и отношение ее к обязательству возмещения причиненного вреда", у „Працах БДУ" 1925 г., № 6—7.

[3]) Ландкоф, Проблема советского гражданского права в иностранном освещении, в сборнике в память В. М. Гордона", 1927 г., ст. 222—223.

лажэньне аспрэчваемае ім тэорыі, згодна з якім даўжнік звальняецца ад прынятае на сябе абавязнасьці, калі пры заключэньні дагавору нельга было прадбачыць рашаючае зьмены суадносін паміж задаволеньнем і адказным задаволеньнем, застаецца неабвергнутым і актуальным, незалежна ад дзяржаўнага ладу краіны [1]).

Удала камэнтыраван арт. 191, на падставе якога, калі прадавец індывідуальна-азначанай рэчы прадаў яе некалькім асобам аднэй за другой, ужываецца прынцып старшынства.

Значна перапрацована таксама частка камэнтарыя, якая датычыць дагавору займу. Гэта работа належыць т. Ходжашу і адзначаецца вялікімі практычнымі і навуковымі вартасьцямі. Для ілюстрацыі сваіх тэзісаў аўтар скарыстоўвае вялікі судовы матар'ял, спыняючыся разам з гэтым на розных крэдытных угодах, на спэцыяльным бягучым рахунку, онколе і іншых. Можна было-б толькі пажадаць больш яскравага, нагляднага азначэньня дагавораў рэальнага і консэнсуальнага. Аб'ясьніць, што рэальныя дагаворы—такія, што вынікаюць ня іначай, як пры дапамозе перадачы, а консэнсуальныя—такія, што вынікаюць пры дапамозе аднае толькі згоды, гэта, па сутнасьці, мала скажа розуму і сэрцу нязедаючых добра юрыдычных драбніц. А яно-ж у іх адрас, у першую чаргу, накіроўваецца разглядаемы камэнтары. Трэба было-б больш падрабязна выявіць гэтую розьніцу, падкрэсьліўшы, што рэальны дагавор—такі, які іменна толькі з моманту перадачы рэчы набывае юрыдычную сілу.

Грунтоўна перапрацован, далей, разьдзел аб дагаворы даручэньня. Адхілены некаторыя шарахаватасьці і недахопы, якія былі па гэтым пытаньні ў ранейшых выданьнях камэнтарыя.

Спэцыяльнае ўвагі заслугоўвае, нарэшце, тая частка камэнтарыя, якая ахапляе стар. 435—490, якая прысьвечана дагавору камісіі. Тэзісы пад імі павінны будуць бясспрэчна дапамагаць судовым працаўнікам, бо гэты дагавор, як вядома, атрымаў афіцыйнае афармленьне ня так даўно. Акрэсьленьне адзначаных рыс, якія характарызуюць камісіянэра, маклера і агэнта, якія так часта блытаюцца на практыцы (ст. 437—438), не пакідае жадаць лепшага. Роўным чынам вельмі карысна папуганае паказаньне на заканадаўчыя акты, якія маюць важнае значэньне для камісіянэрства, суб'ектаў і аб'ектаў камісійных угод і адносін, што вынікаюць на іх глебе. Тут адчыняецца мажлівасьць шырокага скарыстаньня паказаньняў камэнтарыя для юрыдычнай і у, паасобку, судовай практыкі. Можна толькі пашкадаваць, што багатая практыка арбітражных камісій па гэтых угодах не зьвярнула на сябе ўвагі аўтара. Сапраўды, камісійныя ўгоды знаходзілі судовую абарону ў нас да зьяўленьня адпаведных пастаноў, уключаных у Г. К., бо для абавязальных адносін савецкае права ня ведала і ня ведае замкнутага кругу ўгод [2]).

Амаль што бяз усякіх зьмен застаўся аддзел аб таварыствах, які мясцамі зьяўляецца занадта сумарным. Мала зьмяніўся таксама зьмест аб'ясьняльных артыкулаў, якія трактуюць аб дагаворы страхаваньня.

Затое з асаблівай дакладнасьцю перапрацован аддзел аб спадчынным праве. Аўтарам гэтае часткі зьяўляецца яго рэдактар праф. А. Л. Маліцкі. Шмат у гэтым аддзеле, як, напрыклад, пытаньні, датычныя спрэчак аб правох на спадчыну, адчыненьня, прыняцьця і вымарачнасьці спадчыны, устанаўленьня яго вартасьці, маюць важнае практычнае значэньне і глыбокі навуковы інтарэс. Некаторыя тэзісы ў адзначаным аддзеле разрасьліся да межаў сьцісла напісаных паасобных нарысаў.

Дарэмна было толькі на чале яго прыводзіць тэкст пастановы аб скасаваньні абмежаваньня разьмеру маемасьці, якая можа пераходзіць у парадку спадчынаёмства. Аб гэтым было-б лепей запісаць у аб'ясьненьнях да арт. 416. Зразумела, што асаблівае бяды тут няма. Але гэта драбніца парушае складнасьць агульнага пляну і паступовасьць. Так, напр., да арт. 138 (аб дагаворы дарэньня) зусім не дададзена тэксту пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР аб скасаваньні максімуму маемасьці, якая дапушчаецца да пераходу ў парадку дарэньня.

Ня можа мець істотнага значэньня і тая акалічнасьць, што, дапасавальна да арт. 110 і іншых, не знайшло водгульля ў камэнтарыі тое, што азначэньне валюты золатам зрабілася анахранізмам, чаму адсутнасьць гэтага паказаньня ў розных даўгавых дакумэнтах, асабліва-ж у вэкселёх, практыку непакоіць не павінна. Сапраўды, НКЮ УССР справядліва растлумачыў, што „у сувязі з устанаўленьнем сталае валюты і спыненьнем ужываньня грашовых знакаў узору 1923 г.,—якое спыненьне ўжываньня было ўстаноўлена з 11 мая 1924 г.,—указаньні на валюту золатам не пазбаўляе вэксаля вэксальнае сілы". Памянуць аб гэтым у камэнтары, хоць ён датычыць толькі да Грамадзянскага Кодэксу, было не бескарысна.

Такім выяўляецца, у агульных рысах, новае выданьне камэнтарыя да Грамадзянскага Кодэксу пад рэдакцыяю праф. Маліцкага.

---

[1]) Аб тым вельмі добра гаворыцца Кругерам у Архіве для цывіліст практыкі (Archiv far zivil. Praxis).

[2]) Мой артыкул у „ВСЮ" № 6—7 за 1927 г.

**ЗЯМЕЛЬНЫ КОДЭКС БССР з узаканеньнямі, правіламі, інструкцыямі і абежнікамі, выданымі ў яго разьвіцьцё, а таксама растлумачэньнямі і тэзісамі з пастаноў Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах.**

**Зборнік складзен па афіцыйных матар'ялах працаўнікамі Асобай Калегіі Я. І. Лабаноўскім, М. Г. Вашчыла-Вірыным, А. І. Вішнеўскім., Д. І. Гарцманам і М. І. Кварыным. Ц. 2 р. 60 к.**

Зямельныя працаўнікі БССР і ўсе асобы, якім так ці інакш прыходзіцца стыкацца з нормамі зямельнага права БССР да гэтага часу мелі выданым асобна толькі тэкст зямельнага кодэксу. Што-ж тычыцца большай колькасьці часткаю апублікаваных у розны час у разьвіцьцё і растлумачэньне гэтага кодэксу інструкцый, абежнікаў і растлумачэньняў, то іх даводзілася адшукваць у розных афіцыйных органах: Зборнік Законаў БССР, Бюлетэнь СНК БССР і інш. Усё гэта вельмі абцяжарвала працу па азнаямленьню з зямельным правам БССР. Гэта было тым больш горай, што маючыяся ў друку зборнікі па зямельнаму праву адносяцца выключна к зямельным кодэксам РСФСР і УССР, каторыя маюць цэлы шэраг адрозьненьняў ад нашага Зямельнага Кодэксу.

Дзеля гэтага належыць асабліва вітаць выпуск у сьвет кнігі, загаловак якой выпісан вышэй.

Якраз складальнікі гэтай кнігі—адказныя працаўнікі—спэцыялісты Асобай Калегіі Вышэйшага Кантролю па зямельных справах служаць парукаю ў дабраякаснасьці зьмешчанага ў кнізе матар'ялу.

Разглядаемая кніга з надворнага боку распадаецца на чатыры часткі: 1) уводная частка; 2) тэкст Зямельнага Кодэксу БССР з дапаўняючым яго і растлумачальным матар'ялам; 3) альфабэтна-прадметны паказьнік да артыкулаў Зямельнага Кодэксу і 4) храналёгічны паказьнік законаў і адміністрацыйных распараджэньняў зьмешчаных у зборніку.

Уводная частка складаецца з двух пастаноў ЦВК і СНК БССР: а) аб увядзеньні ў дзеяньне адзінага Зямельнага Кодэксу БССР і б) аб распаўсюджваньні гэтага кодэксу на тэрыторыі далучаемых да БССР ад РСФСР Гомельскага і Рэчыцкага паветаў. Нажаль складальнікі ня далі хоць-бы ў самым кароткім відзе, нарысу гісторыі Савецкага Зямельнага Заканадаўства БССР,—гэта аблегчыла-б зямельным працаўнікам упаўне асмысьленае азнаямленьне з беларускім зямельным правам; дарэчы добра было-б тутжа зьмясьціць і нарыс галоўнейшых адзнак нашага зямельнага кодэксу ад кодэксу РСФСР, ад каторай мы дважды далучылі тэрыторыі з беларускім насельніцтвам.

Другая частка кнігі самая вялізарная па разьмеру і найбольш важная па значэньню.

Тут сабран і разьмешчан пад адпаведнымі артыкуламі зямельнага кодэксу аграмадны матар'ял: законы, інструкцыі, абежнікі і растлумачэньні.

Падбор і разьмяшчэньне матар'ялу ўмела, усюды маюцца даты зьмяшчаемых пастаноў, растлумачэньняў і г. д. і месца іх апублікаваньня. Нажаль складальнікі кнігі адхіліліся ад зьмяшчэньня пад артыкуламі закону і сваіх уласных камэнтарый, праўда большасьць артыкулаў забясьпечаны растлумачэньнямі Асобай Калегіі Вышэйшага Кантроля, якія замяняюць камэнтарыі, але там, дзе гэтакіх растлумачэньняў ня маецца, належала-б складальнікам кнігі не адмаўляцца ад дачы ўласных растлумачэньняў, якія даюць працаўніку магчымасьць правільна разабрацца ў Законе і адшукаць адказы на пытаньні, узьнікаючыя пры яго ўжываньні. Для прыкладу возьмем арт. 60 і ўвагу да яго. Увага да арт. 60—новая норма, якая дае зямельнаму таварыству права здаваць пры пэўных умовах зямельныя вучасткі агульнага карыстаньня пад забудоўку. Тут узьнікае цэлы шэраг пытаньняў аб форме ўгод па аддачы такіх зямель пад забудоўку, аб нормах, як'я належыць дапасоўваць к такому праву забудоўкі і г. д. З прычыны нязначнасьці пэрыяду часу дзеяньня азначанага закону афіцыйнага растлумачальнага матар'ялу яшчэ ня маецца, па гэтаму і было-б пажадана, каб камэнтары самі, шляхам інтэрпрэтацыі закону, спрабавалі даць належныя паказаньні.

Без камэнтарыя, напр. застаўся артыкул 8 Зямельнага Кодэксу, а між тым, пад ёю патрэбна было-б даць кіраўнічыя паказаньні па адшуканьню падлягаючых законаў і дарэчы пастарацца высьветліць асноўную думку і ўзаемаадносіны пастаноў арт. 8 Зям. Код. і арт. 3 Гражд. Кодэксу.

Да недахопаў гэтай часткі належыць аднесьці адсутнічаньне спасланьняў пад некаторымі артыкуламі на адпаведны растлумачальны матар'ял, які зьмешчан пад другімі артыкуламі.

Вельмі каштоўным дадаткам да разглядаемай кнігі зьяўляецца храналёгічны паказьнік законаў і адміністрацыйных распараджэньняў, зьмешчаных у кнізе.

Нельга таго-ж сказаць аб альфабэтным паказьніку: яго абясцэньвае тое, што ён зьяўляецца паказьнікам толькі да артыкулаў самога Кодэксу, а не растлумачальнага матар'ялу, зьмешчанага ў кнізе. Маецца цэлы шэраг пытаньняў (напрыклад, адчужэньне будоў, ільготы чырвонаармейцам і г. д), якія знайшлі водгук у кнізе, але знайсьці зьмешчаны па гэтых пытаньнях матар'ял праз алфабэтны паказьнік нельга. У наступным

выданьні альфабэтны паказьнік неабходна разьвінуць, зрабіўшы яго паказьнікам да ўсяго матар'ялу.

Мы зазначылі вышэй на некаторыя дэфэкты разглядаемай кнігі выключна для таго, каб у наступным выданьні гэтыя недахопы былі адхілены. Але трэба прызнаць, што ўсе гэтыя дэфэкты не абясцэньваюць самой кнігі. У ёй сабран у адно і сыстэмазаван аграмадны матар'ял. Гэта такая вялікая і каштоўная праца, за якую кожны зямельны працоўнік скажа дзякуй. Але гэта праца мае вялікае значэньне і ў якасьці матар'ялу для пераапрацоўкі Зямельнага Кодэксу: на падставе сабранага ў кнізе заканадаўчага і растлумачальнага матар'ялу можна ўжо з большаю лёгкасьцю і чоткасьцю высьвятліць прабелы і недахопы закону.

Паўтараем, кніга складзена вельмі ўмела, старанна і досыць поўна, калі і натыкаешся на прабелы, дык галоўным чынам таму, што тое або іншае пытаньне аказаліся без адказу ў законе або судовай практыцы.

Надворны выгляд кнігі добры, памылак мала, цана кнігі (351 стар.) нявысокая.

Дзеля гэтага пажадаем кнізе шырокае распаўсюджваньне, а ў выпадку новага выданьня яе, каб яна папоўнілася ў адпаведных мясцох аб'яснялымым тэкстам складальнікаў па прыкладу выданьняў Грамадзянскага Кодэксу і Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу, пад рэдакцыяй т. Маліцкага.

## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ.

*1. З 1-га кастрычніка г. г. дармовая пасылка часопісі ўсім судова-сьледчым і пракурорскім органам і працаўнікам спыняецца.*

*Усе судова-сьледчыя і пракурорскія органы, працаўнікі, жадаючыя мець нашу часопісь павінны падпісацца.*

*Умовы падпіскі паказаны на вокладцы часопісі.*

**2. Падымаецца пытаньне аб перайменаваньні часопісі „Весьці НКЮ“ ў „Наша Права“.**

# Частка афіцыйная.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Унутраных Спраў БССР

### аб парадку праверкі рэчавых доказаў у органах дазнаньня і суду.

*Усім акруговым судом, акруговым пракурорам і начальнікам акруговых адміністрацыйных аддзелаў.*

Па розных зьвестках, якія маюцца ў НКЮ і НКУС у шмат якіх органах дазнаньня і суду хаваюцца рэчавыя доказы па старых справах, якія даўно ўжо разгледжаны і знаходзяцца ў архівах.

Прымаючы пад увагу, што разьвязаньне пытаньня асобна па кожнаму рэчаваму доказу ў працэсуальным парадку выкліча для судоў шмат перапіскі і працы па расшукваньню спраў, да якіх гэтыя рэчавыя доказы адносяцца, Народны Камісарыят Юстыцыі і Народны Камісарыят Унутраных Спраў БССР прапануюць:

1. Арганізаваць з 1-га ліпеня г. г. пры акрсудох і нарсудох камісіі дзеля праверкі рэчавых доказаў ва ўсіх судох і органах дазнаньня.

2. Арганізацыя памянёных камісій ускладаецца на старшынь акрсудоў у акруговых гарадох і на нарсудзьдзяў у раёнах, а ў Полацку на старшынь сталай выязднай сэсіі Віцебскага Акруговага Суду па Полацкай акрузе і паказаныя асобы зьяўляюцца адказнымі за правільнае і своечасовае выкананьне гэтага абежніку.

3. У склад вышэйпаказаных камісій уваходзяць:

а) у акруговых гарадох прадстаўнік акрсуду—старшыня камісіі і прадстаўнікі акруговай пракуратуры і міліцыі—сябрамі тэй жа камісіі;

б) у раёнах—нарсудзьдзя—старшынёй камісіі, а вучастковы пам. пракурора і начальнік раённай міліцыі—сябрамі гэтай камісіі.

УВАГА 1. Старшынёй камісіі ў Полацкай акрузе зьяўляецца старшыня сталай выязднай сэсіі Віцебскага акрсуду ў Полацкай акрузе.

УВАГА 2. У тых мясцох, дзе няма вучастковай пракуратуры членам памянёнай камісіі зьяўляецца вылучаемы для гэтага прадстаўнік раённага выканаўчага камітэту.

4. На вышэйпаказаныя камісіі ўскладаецца абавязак у месячны тэрмін пераглядзець рэчавыя доказы ва ўсіх судох і органах дазнаньня, знаходзячыхся на тэрыторыі гораду, або раёну, справы па якіх разгледжаны у пэрыяд часу да 1924 г. ўключна.

5. Мэтай разгляду камісіямі рэчавых доказаў павінна быць разьмеркаваньне іх на падлягаючыя накіраваньню ў адпаведныя органы або зьнішчэньню, пры чым рэчавыя доказы, аб зьнішчэньні якіх будзе пастаноўлена камісіяй, павінны быць зьнішчаны той-жа камісіяй, аб чым апошняй складаецца адпаведны акт.

6. Рэчавыя доказы, якія падлягаюць канфіскацыі, або безгаспадарчыя рэчы (п. 16 інструкцы і аб прыёме, хаваньні і здачы рэчавых доказаў—Зб. Зак. БССР 1923 г., № 1—2, арт. 16) павінны быць прададзены камісіяй з таргоў, аб чым складаецца адпаведны акт, а вырučаныя з таргоў грошы перадаюцца ў грашовы аддзел акруговага, ці раённага выканаўчага камітэту ў карысьць дзяржавы.

7. Рэчавыя доказы, якія зьяўляюцца прыладаю злачынства, фатаграфічныя карткі абвінавачаных і іншыя падсобныя рэчы (гл. абежнік НКЮ 1925 г., № 86) павінны быць перададзены ў музэй Крымінальнага Вышуку Адміністрацыйнай Управы НКУС цераз мясцовыя крымінальныя вышукі.

8. Аб выніках сваёй працы камісіі павінны скласьці адпаведныя пастановы і акты, якія належыць хаваць пры справах адпаведных органаў суду, сьледзтва і дазнаньня, як апраўдальныя дакумэнты да справаздачнасьці аб рэчавых доказах.

9. Рашэньні камісіі адносна разьмеркаваньня рэчавых доказаў зьяўляюцца канчатковымі і павінны быць выкананы ў тыднёвы тэрмін з часу іх вынясеньня.

Час. вык. абав. Народнага Камісара Юстыцыі
і Пракурора Рэспублікі БССР *С. Гохман.*

Нам. Народнага Камісара Ўнутраных Спраў БССР *Я. Кроль,*

Член Калегіі НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

НКЮ: № 61
НКУС: № 122
8 ліпеня 1927 г.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб ужываньні асноўных пачаткаў крымінальнага заканадаўства і асноў крымінальнага судаводзтва Саюзу ССР і саюзных рэспублік і палажэньня аб дзяржаўных злачынствах.

*Усім судовым установам і органам пракуратуры.*

У № 32 Збору Законаў Саюзу ССР за 1927 г. апублікавана пастанова ЦВК і СНК Саюзу ССР за 1 чэрвеня 1927 г. (арт. 326), паводле якой законы і загады ўраду Саюзу ССР вымагаюць для правядзеньня іх у жыцьцё, выданьня адпаведных норм урадамі саюзных рэспублік толькі ў наступных выпадках: 1) калі гэтыя законы і загады зьяўляюцца толькі прапановамі (дырэктывамі) урадам саюзных рэспублік аб афармленьні маючыхся ў дырэктыве норм у парадку заканадаўства саюзных рэспублік і 2) калі гэтыя законы і загады цалкам або у частцы зьяўляюцца такімі, якія аб'ектыўна ня могуць быць выкананы бяз выданьня прадугледжаных імі канкрэтызуючых або дэталізуючых пастаноў ураду Саюзу ССР або ўрадаў саюзных руспублік або ведамственных загадаў.

Ва ўсіх іншых выпадках законы і загады ўраду Саюзу ССР, у тым ліку тыя, якія носяць назву „асноў“, „асноўных пачаткаў“ і г. п, а таксама тыя, у якіх маецца прапанова ўрадам саюзных рэспублік унясьці вынікаючыя з іх зьмены ў заканадаўства рэспублік, уводзяцца ў чыннасьць у агульным парадку, г. з.—з дню атрыманьня ў адпаведным выканаўчым камітэце таго нумару афіцыйнага выданьня, дзе яны апублікаваны.

Выходзячы з гэтай пастановы, НКЮ прапануе, уперад да выданьня КК і КПК БССР, узгодненых з саюзным заканадаўствам, прыняць да кіраваньня і выкананьня ніжэйнаступнае:

1. Асноўныя пачаткі крымінальнага заканадаўства і асновы крымінальнага судаводзтва Саюзу ССР і саюзных рэспублік за 31-е кастрычніка 1924 г. з наступнымі зьменамі павінны лічыцца ўжо ўступіўшымі ў чыннасьць і падлягаюць ужываньню пры вырашэньні крымінальных спраў, не чакаючы выданьня ўрадам БССР норм, узгодненых з гэтымі асноўнымі пачаткамі і асновамі, паколькі ў тых ці іншых артыкулах іх ня маецца паказаньня на неабходнасьць выданьня ўрадам Саюзу ССР або ўрадамі саюзных рэспублік канкрэтызуючых або дэталізуючых норм. Пры гэтым належыць мець на ўвазе, што ў тых выпадках, калі чынныя цяпер

## Папраўка.

У абежніку НКЮ за 6 жніўня 1927 г., № 72, на старонцы III у 2-м радку зьверху пачынаючы з слоў: „вызначэньнях і пастановах“... прапушчана: „павінна рабіцца спасланьне на артыкулы КК і КПК, пры наяўнасьці-ж такой супрэчнасьці“...

артыкулы КК і КПК не супярэчаць асноўным пачаткам крымінальнага заканадаўства і асновам крымінальнага судаводзтва, у прысудах, вызначэньнях і пастановах трэба рабіць спасланьне на адпаведныя артыкулы асноўных пачаткаў і асноў.

Апроч таго ў КПК ўнесены зьмены Палажэньнем аб ваенных трыбуналах і ваеннай пракуратуры за 20 жніўня 1926 г. (Збор Зак. СССР 1926 г., № 57, арт. 412), адпаведнымі артыкуламі якога і належыць кіравацца ў належных выпадках.

2. Такім-жа чынам належыць лічыць уступіўшым у чыннасьць і ўжываць пры вырашэньні крымінальных спраў, не чакаючы адпаведнай зьмены КК урадам БССР, Палажэньне аб дзяржаўных злачынствах—контррэвалюцыйных і асобна для Саюзу ССР небясьпечных злачынствах супроць парадку кіраваньня, апублікаванае ў № 12 Збору Зак. СССР за 1927 г. На адпаведныя артыкулы гэтага Палажэньня і належыць рабіць спасланьне ў прысудах і пастановах ва ўсіх выпадках, калі злачынства, якое зьяўляецца прадметам справы, прадугледжана ў Палажэньні, прычым у адносінах гэтых злачынстваў адпаведныя артыкулы КК такім чынам аўтаматычна трацяць сілу.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі БССР *М. Сэгаль.*

6 жніўня 1927 г.
№ 72.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб разглядзе працоўных спраў з батракамі.

*Усім нарсудом (асобным сэсіям па працоўных справах).*

У зьвязку з маючыміся недахопамі пры разглядзе працоўных спраў з батракамі Наркамюст БССР прапануе:

а) Разглядаць справы з батракамі ў першую чаргу не пазьней тыдня пасьля атрыманьня заявы аб разглядзе справы.

б) Дапушчаць бяз усякіх перашкод для ўдзелу ў справе ў якасьці абаронцаў батракоў і пастухоў прадстаўнікоў прафсаюзаў сельска-гаспадарчых і лясных рабочых.

в) Апавяшчаць стораны аб выніках разгляду справы ў той-жа дзень, калі справа разглядаецца, дапасоўваючы арт. 177 ГПК ў самых выключных выпадках.

г) У выпадку неабходнасьці прызначыць асобны дзень для разгляду спраў з батракамі і пастухамі, узгадніўшы пытаньне з мясцовым органам прафсаюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых.

д) Не накіроўваць у міравыя камісіі пры раённых выканаўчых камітэтах спраў з батракамі і пастухамі, якія паступілі для разгляду ў Нарсуд.

е) Прыняць неабходныя крокі да зьнішчэньня працэсуальных затрыманьняў, зьвязаных з разглядам гэтых спраў (напрыклад—выклік сьведак і г. д.).

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і
Старшэйшы Пракурор Рэспублікі БССР *С. Гохман.*

5 жніўня 1927 г.
№ 73.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб правільным скарыстаньні адпускаемых крэдытаў па заработнай плаце.

*Усім акрпракурорам і старшыням акруговых судоў.*

Савет Народных Камісараў паведаміў, што ў час рэвізіі органамі фінансавага кантролю, Народным Камісарыятам Працы і НК Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі выдаткаў па заработнай плаце заўважана, што ў апошні час ёсьць шмат выпадкаў парушэньня службовымі асобамі дзеючых пастаноў аб аплаце працы, як: перавышэньне зацьверджаных ставак заработнае платы, выдачы авансаў у лік заработнае

платы, аплата звышмерных работ без належнага афармленьня І г. д. і адначасова папярэдзіў, што адказнасьць за матар'яльную шкоду, зробленую дзяржаве парушэньнем дзеючых пастаноў аб аплаце працы ва ўстановах і прадпрыемствах, знаходзячыхся на ўтрыманьні дзяржаўнага і мясцовага бюджэтаў, а таксама на гаспадарчым (камэрцыйным) разрахунку, ускладаецца на службовыя асобы, з дазволу якіх гэтыя парушэньні зроблены.

На аснове зазначаных указаньняў Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе пад асабістую адказнасьць усіх распарадчыкаў крэдытаў акруговых пракурораў і старшынь акруговых судоў строга сачыць за правільным скарыстаньнем адпускаемых крэдытаў і недапушчаць ні ў якім разе выдачы заработнае платы авансам, аплаты звышмернае працы без адпаведнага афармленьня апошняй ва ўстаноўленым парадку выдачы непрадугледжаных законам прэмій, нагарод і дапамог па якіх-бы то ня было выпадках, і ўсякага наогул незаконнага павялічэньня заработнае платы пад якім-бы відам яно не рабілася, супроць зацьверджаных штатаў, тарыфаў і каляктыўных дагавароў. Акрамя гэтага НКЮ папераджае распарадчыкаў крэдытаў, што, калі пасьля вытвару рэвізій органамі фінансавага кантролю, НК РСІ і НК Працы, рэвізійнымі камісіямі, альбо бухгальтэрыяй НКЮ пры праверцы ведамасьцей на выдадзеную пэнсію будуць выяўлены парушэньні правіл аб аплаце працы, то вінаватыя ў гэтым службовыя асобы будуць прыцягвацца да адказнасьці ў дысцыплінарным або крымінальным парадку з ускладаньнем на іх папаўненьне няправільных выдач.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і
Пракурора Рэспублікі БССР *С. Гохман.*

5 жніўня 1927 году.
№ 74.

---

## Пратакол згоды між НКЮ і ЦСУ БССР

### па пытаньню ўзаемнага абмену статыстычнымі зьвесткамі аб руху спраў аб асуджаных і аб мерах сацыяльнай абароны.

У зьвязку з частковымі скарачэньнямі ведамственнай статыстыкі НКЮ і і перадачай гэтакай у органы ЦСУ і ў мэтах узаемнай інфармацыі аб стане злачыннасьці, Народны Камісарыят Юстыцыі і Цэнтральная Статыстычная Ўправа лічыць неабходным:

1. Ускласьці на акрстатбюро распрацоўку, атрымоўваемых імі ад народных і акруговых судоў статыстычных лісткоў. Распрацоўка статлісткоў павінна праводзіцца акруговымі статбюро па форме № 1 аб разьмеркаваньні асуджаных па полу, мясцовасьці і па арт. арт. злачынстваў і па форме № 2 і 3—аб разьмеркаваньні асуджаных па мерах пакараньняў і занятках. Азначаныя формы прадстаўляюцца акруговымі статбюро ў ЦСУ (і ў акруговыя суды) да 15 жніўня—за 1 паўгодзьдзе і да 15 лютага—за 2-ое паўгодзьдзе.

2. Адпаведна згрупаваныя ад акруговых статбюро па формах № 1, 2 і 3 пасылаюцца ў копіях Цэнтральным Статыстычным Управам у НКЮ і найвышэйшаму суду да 15 верасьня за 1-ае паўгодзьдзе і да 15 сакавіка—за 2-ое паўгодзьдзе.

3. Сводныя зьвесткі аб руху спраў у народных і акруговых судох пасылалаюцца Наркамюстам Цэнтральнай Статыстычнай Управе ў тэрміны, паказаныя ў п. 2 гэтага пратаколу.

4. На ЦСУ і яго органы на мясцох ускладаецца інструктаваньне народных і акруговых судоў аб парадку запаўненьня і прадстаўленьня статыстычных лісткоў пры чым, паказаньні гэтыя павінны быць узгоднены, кожны раз адпаведна цэнтральнай статуправай і яго акруговымі Бюро, Наркамюстам, або акруговымі судамі, у залежнасьці ад таго, ці носяць указаньні агульны для Рэспублікі характар, альбо яны зьўляюцца толькі мясцовымі.

5. Народны Камісарыят Юстыцыі бярэ на сябе абавязак сачыць за своечасовай адсылкай у акруговыя статбюро акрсудамі і нарсудамі запоўненых статлісткоў і іншых статыстычных зьвестак, устаноўленых адпаведнымі абежнікамі НКЮ.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

Кіраўнік Цэнтральнай Статыстычнай
Управы БССР *Прафэрансаў.*

26 жніўня 1927 г.
№ 81.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб бязумоўным і дакладным захаваньні арт. 137 аб абавязковай вайсковай службе.

*Усім акруговым судом, нарсудом, акрпракурорам і сьледчым органам.*

Па закону аб абавязковай вайсковай службе (арт. 137 Зб. Зак. СССР 1925 г. № 62, п. 463, разьдзел XI), грамадзяне, якія дасягнулі прызыўнага ўзросту і якія знаходзяцца к моманту чарговага прызыву пад сьледзтвам і судом і ня трымаюцца пад вартай, павінны зьяўляцца к прызыву, але прыймацца на абавязковую вайсковую службу толькі са згоды судовай альбо сьледчай улады.

Па маючыхся ў Народным Камісарыяце Юстыцыі зьвестках, пры штогодных чарговых прызывах у армію пратачваецца значная колькасьць падсьледных і падсудных, адносна якіх прызыўныя камісіі не атрымліваюць ад судовых і сьледчых органаў адпаведных паведамленьняў, патрабуемых арт. 137 аб абавязковай вайсковай службе.

З мэтай прададхіленьня падобных зьявішч у будучым і дачы магчымасьці камандаваньню Чырвонай Арміі бесьперабойна праводзіць работу па вывучэньню прызваных, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе акрсудом, нарсудом, акрпракурорам і сьледчым органам раней да прызначанага дню прызыву, паведамляць у адпаведныя прызыўныя камісіі зьвесткі аб знаходзячыхся пад судом альбо сьледзтвам асоб, прызываемых у Чырвоную Армію, паказаўшы ў іх:

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку абвінавачваемага.
2. Год нараджэньня.
3. Месца жыхарства.
4. Па якіх арт. арт. КК абвінавачваецца.
5. На які дзень назначана справа да слуханьня (калі справа ўжо ў судзе), альбо калі будзе скончана сьледзтва па гэтай справе (калі гэта справа знаходзіцца яшчэ ў стадыі сьледзтва).

Вынятка арт. 137: Грамадзяне, якія знаходзяцца к моманту чарговага водпуску пад сьледзтвам альбо судом, але не знаходзячыяся пад вартай, павінны зьяўляцца да чарговага прызыву, але прыймаюцца на абавязковую вайсковую службу толькі са згоды судовай, альбо сьледчай улады. Пры адсутнасьці такой згоды, прыём такіх асоб на службу адтэрміноўваецца да бліжэйшага моманту заканчэньня суду альбо сьледзтва прызыву.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *М. Сэгаль.*

8 верасьня 1927 г.
№ 83.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

*Усім старшыням акруговых судоў і акруговым пракурорам.*

У мэтах прадастаўленьня насельніцтву магчымасьці атрымліваць хутка неабходныя спраўкі па тэлеграфу і тэлефону праз апарат сувязі, Наркампачтэль СССР увёў дачу такіх справах праз свой апарат.

Прымаючы пад увагу, што большасьць справак з боку насельніцтва адносіцца да тых, ці іншых спраў, знаходзячыхся у справавядзеньні дзяржаўных устаноў, у тым ліку і судова-сьледчых і што апарат Наркампачтэлю можа даваць гэтыя спраўкі толькі па атрыманьні іх ад адпаведных устаноў,—Народны Камісарыят Юстыцыі гэтым прапануе наступнае.

1) У выпадках зварочваньня працаўнікоў Наркампачтэлю за атрыманьнем спраўкі гэтыя спраўкі павінны кожны раз давацца хуткім часам і пры гэтым толькі тым адказным працаўніком, якія зьяўляюцца адказнымі за дачу спраўкі і за самую магчымасьць такой дачы.

2) Пры гэтым спраўкі могуць давацца толькі ў выпадках, калі існуючым законам дапушчаецца дача такіх справак і калі дача такой спраўкі ня можа прынесьці шкоды знаходзячайся ў справавядзеньні судова-сьледчай справе, па якой даецца спраўка.

Таксама неабходна мець на ўвазе, што гэтыя спраўкі могуць давацца толькі ў тых выпадках, калі ў іх няма сакрэтнага матар'ялу, не падлягаючага да агалашэньня.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор
Рэспублікі *М. Сэгаль.*

12 верасьня 1927 г.
№ 84.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

*Усім натарыяльным канторам і народным судзьдзям БССР.*

Салдаты Паўночна - Амэрыканскае Арміі, між якімі былі таксама асобы расейскага пахаджэньня, былі застрахаваны ў час імпэрыялістычнае вайны ў Амэрыканскім Бюро Страхаваньняў на выпадак сьмерці або інваліднасьці.

У цяперашні час як самі вэтэраны салдаты, так і насьледнікі і ўтрыманцы забітых, раненых або кантужаных салдат Паўночна-Амэрыканскае Арміі маюць магчымасьць атрымаць страхавальную ўзнагароду і іншыя кампэнсацыі праз Бюро Вэтэранаў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў.

Усе гэтакія асобы павінны падаць у Бюро Вэтэранаў устаноўленыя апошнім анкеты і ў патрабуемых выпадках свае заявы пацьвярдзіць паказаньнямі двох незацікаўленых асоб па асобнай форме, устаноўленай Бюро Вэтэранаў. Подпісы заяўнікаў на анкетах, а таксама подпісы двох пабочных асоб павінны быць засьведчаны натарыусамі.

Між тым маюцца зьвесткі, што ў некаторых выпадках натарыусы адмаўляюць у паказаным засьведчаньні на той падставе, што натарыяльнае засьведчаньне або пасьведчаньне дакумэнтаў, якія маюць характар заяў і паказаньняў сьведак, палажэньнем аб натарыяце не прадугледжаны.

Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае, што вышэйпаказаныя анкеты і заявы маюць юрыдычныя вынікі і таму няма законных падстаў для адмовы натарыяльных органаў, (а дзе іх няма—народных судзьдзяў) у пасьведчаньні подпісаў заяўнікаў і пабочных асоб (сьведак) на анкетах, заявах і пасьведчаньнях, якія прызначаюцца да падачы, ў Бюро Вэтэранаў Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатаў праз Дзяржаўны Банк Саюзу ССР і Расейскае Таварыства Чырвонага Крыжу для атрыманьня страхавальнае ўзнагароды або ўсякай іншай дапамогі (кампэнсацыі).

Пры гэтым паказаныя анкеты, як адрасаваныя ня органам улады Саюзу ССР і накіраваныя праз Чырвоны Крыж не падлягаюць аплаце гэрбавым зборам.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

14 верасьня 1927 г.
№ 85.

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### па пытаньню аб тым, на каго павінны накладацца штрафы за парушэньне дзяржаўнага прамысловага падатку.

*Усім акруговым пракурорам.*

У віду паступіўшых запытаньняў аб тым, на каго павінны накладацца штрафы за парушэньне палажэньня аб прамысловым падатку, Пракуратура Рэспублікі растлумачвае, што згодна Палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку, якое зацьверджана 24 верасьня 1926 г. (З. З. СССР 1926 г., № 63, арт. 473—474) прамысловымі падаткамі абкладаюцца як гандлёвыя прадпрыемствы, належачыя

асобам фізычным і асобам юрыдычным, гэтак і прамысловыя занятні, і што адпаведна гэтаму і штрафы за парушэньні палажэньня аб прамысловым падатку павінны накладацца на прадпрыемствы, калі яны належаць юрыдычным асобам, і на фізычных асоб як уласьнікаў прадпрыемстваў, гэтак і занятых промысламі.

Штраф за нявыбарку патэнтаў на служачых, занятых у гандлёвых і прамысловых прадпрыемствах павінен накладацца не на гэтых асоб, а на прадпрыемствы, якія павінны выбраць патэнты для служачых (арт. 56 Палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку, зацьверджанага 24 верасьня 1926 г.).

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі *М. Сэгаль.*

Пам. Пракурора Рэспублікі *Судакоў.*

21 верасьня 1927 г.
№ 86.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў БССР

### аб парадку разгляду скарг па дзяржаўных падатках.

*Усім акрвыканкомам, акрпракурорам і аддзелам грашовых спраў.*

Як відаць з пратаколаў пасяджэньняў акруговых выканаўчых камітэтаў, некаторыя акруговыя выканаўчыя камітэты разьвязваюць справы па скаргах аб накладаньні акрфінаддзеламі штрафаў за парушэньне палажэньня аб прамысловым падатку, або аб няправільным налічэньні гэтага падатку.

Паводле гэтага Наркамюст і Наркамат Грашовых спраў зварочваюць увагу АВК, акруговых пракурораў і аддзелы грашовых спраў на наступнае:

Згодна арт. 60 Палажэньня аб прамысловым падатку (З. З. БССР-1926 г. № 69, арт. 474), узысканьні, прадугледжаныя арт. 53—59 гэтага палажэньня накладаюцца акруговымі грашовымі аддзеламі і могуць быць абскарджаны ў акруговыя падатковыя камісіі і ў вышэйшыя інстанцыі ў парадку, які паказан у палажэньні аб падатковых камісіях (З. З. СССР-1926 г. № 2, арт. 11).

Згодна арт. 16 Палажэньня аб падатковых камісіях, пастанова акруговае камісіі зьяўляецца канчатковай і можа быць абскарджана толькі ў выпадках парушэньня законаў і інструкцый ў Народны Камісарыят Грашовых Спраў адпаведнае саюзнае рэспублікі.

Пастановы Н. К. Грашовых Спраў саюзнае рэспублікі могуць быць абскарджаны ў Н. К. Грашовых Спраў Саюзу ССР. Народны Камісарыят Грашовых Спраў СССР разьвязвае паказаныя скаргі, калі неадбылося па гэтаму пытаньню пастановы ЦВК, або СНК саюзнай рэспублікі.

Калі ў заявах няма скаргі на няправільнае налічэньне падатку, а толькі хадайніцтва аб пазбаўленьні ад яго, заявы гэтыя разглядаюцца ў парадку палажэньня аб спагнаньні падатку (З. З. 1925 г. № 70, арт. 518).

Згодна арт. 40 гэтага палажэньня, поўнае, або частковае пазбаўленьне ад нядоімак па агульна-дзяржаўных падатках, акрамя сельска-гаспадарчага, як па хадайніцтву плацельшчыкаў у выпадках здарыўшыхся няшчасьцяў, выклікаўшых поўную або частковую неплатаздольнасьць, таксама і тых, якія няправілна лічацца, і безнадзейных утвараецца акруговымі грашовымі аддзеламі на суму ня больш 300 руб., а на большую суму з дазволу Народнага Камісарыяту Грашовых Спраў саюзнай рэспублікі.

Скаргі на пастановы акруговых фінансавых аддзелаў, згодна правіл, зацьверджаных Н. К. Грашовых Спраў СССР 12/X—1925 г. (В. Ф. 1925 г. № 7) падаюцца ў Народны Камісарыят Грашовых Спраў саюзнай рэспублікі.

Такім чынам, гэтыя пытаньні ня могуць разьвязвацца акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі БССР *М. Сэгаль.*

Народны Камісар Грашовых Спраў БССР *Васілевіч.*

27 верасьня 1927 г.
№ 87.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб праве вучастковых пракурораў патрабаваць грамадзянскія справы з народнага суду яго вучастку.

*Усім акруговым судом і акруговым пракурорам.*

З прычыны узьнікшага пытаньня аб тым, ці мае права вучастковы пракурор запатрабаваць у парадку нагляду грамадзянскую справу з нарсуду, Народны Камісарыят Юстыцыі растлумачвае:

Згодна п. „б“ арт. 73 Палажэньня аб судабудаўніцтве, у галіне судовай работы на абвязкі Пракуратуры ўскладаецца выпаўненьне чыннасьці, якая ўскладаецца на Пракуратуру Грамадзянскім Працэсуальным Кодэксам у тым ліку і апратэставаньне рашэньняў і пастаноў па грамадзянскіх справах, а таксама згодна п. „б“ арт. 75 Палажэньня аб судабудаўніцтве, для ажыцьцяўленьня ўскладзеных на Пракуратуру абавязкаў, асобам пракурорската нагляду належыць апрача праў прыўласьціўленых ім Крымінальным і Грамадзянскім Працэсуальнымі Кодэксамі, патрабаваць ад усіх органаў Савецкае ўлады, устаноў, арганізацый і асоб неабходныя весткі і матар'ялы.

Паводле гэтага вучастковы пракурор мае права патрабаваць грамадзянскую справу з народнага суду, які знаходзіцца ў яго вучастку.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і
Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

13 кастрычніка 1927 г.
№ 89.

---

## Распараджэньне Аддзелу Друку ЦК КП(б) Б.

*УСІМ РЭДАКТАРАМ ГАЗЭТ БССР.*
*Копія акруговым судом і акруговым пракурорам для ведама.*

З прагляду НКЮ судовых справаздач, зьмяшчаемых у друку, заўважана, што некаторыя працаўнікі газэт, прысутнічаючы пры правядзеньні судовых спраў, даюць агульны малюнак судовага сьледзтва і спрэчак бакоў суду далёка неадпавядаючы сапраўдным акалічнасьцям працэсу, а зачастую нават скажае сэнс працэсу, як гэта было пры высьвятленьні разгляду справы Выязной Сэсіяй Вярхоўнага Суду ў газэце „Полесская Правда“.

Прымаючы пад увагу што зьвесткі зьмяшчаемыя ў друку, становяцца вадомымі ўсей масе працоўных ня толькі Саюза ССР, але і насельніцтву розных па ідэолёгіі і палітычных поглядах груп і партый замежных дзяржаў, што па судовых справаздачах, іх пабудове і канчатковых вывадах прысудах робяцца адпаведныя вывады аб клясавасьці пралетарскага суду, што малейшае адхіленьне ад асноўнай думкі суду скажае сэнс лініі пралетарскага суду, Аддзел Друку ЦК ў згодзе з НКЮ прапануе Вам у далейшым указаныя вышэй выпадкі зьнішчыць.

Пры пасылцы работнікаў рэдакцыі ў суд у якасьці карэспандэнта неабходна даваць яму належнае ўказаньне.

У выпадках, калі матыр'ял судовага працэсу прыходзіцца камбінаваць, альбо па якіх небудзь прычынах асноўная думка працэсу карспандэнтам ня ўяўлена, неабходна гэтае пытаньне вырашыць пры дапамозе старшыні суду, а пры спрэчках бакоў—з пракурорамі,

Заг. Аддзелу Друку ЦК КП(б)Б *Сянькевіч.*

8 кастрычніка 1927 г.

---

## Абежнік Народнага Камісарыяту Юстыцыі і Вярхоўнага Суду БССР

### аб падсуднасьці спраў па абвінавачваньні службовых асоб у парушэньні правіл аб гандлю.

*Усім судовым установам і органам пракуратуры.*

Народны Камісарыят Юстыцыі і Вярхоўны Суд БССР, у зьмену п. 1 літ. „а“ абежніку НКЮ за 19 ліпеня 1926 г. №—86 аб мерах барацьбы за зьніжэньне дробных цен (Бюлет. СНК 1926 г., №—10, стар. 33), растлумачваюць:

1) парушэньне службовымі асобамі правіл аб гандлі ў частковасьці пастаноў і дырэктыў урадавых органаў аб зьніжэньні дробных цэн, павінна кваліфікавацца толькі па арт. 141 КК і

2) справы аб гэтых злачынствах, як прадугледжаных арт. 141 КК, не паказаны ў арт. 26 КПК ў ліку падсудных акруговым судом і дзеля гэтага падлягаюць разгляду народных судоў.

Пры гэтым справы аб паказаных парушэньнях, якія ўжо знаходзяцца ў справаводзеньні акруговых судоў, не падлягаюць перадачы ў народныя суды і павінны канчацца акруговымі судамі ў найхутчэйшы тэрмін.

Час. вык. аб. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Гохман.*

Старшыня Вярхоўнага Суду БССР *Варашылаў.*

15 кастрычніка 1927 г.
№ 90.

---

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### АБ УСКАРЭНЬНІ ЗЬНІШЧЭНЬНЯ ЗАПАЗЫЧАНАСЬЦІ ПА ЗАРПЛАЦЕ.

*Усім акруговым пракурорам, старшыням акруговых судоў, старшыням працсэсій і народным судзьдзям.*

За апошні час заўважана, што ў працы па часьці працоўных спраў акрпракуроры, акрсуды і працсэсіі адносяцца вельмі фармальна, пакідаючы часта шэраг дырэктыў НКЮ бяз усякай увагі.

Органы Пракуратуры і суду павінны разумець, што праца ў галіне працоўных спраў зьяўляецца аднэй з асноўных работ гэтых органаў у цэлым.

Існуючы інстытут Пракуратуры Працы, спэцыяльныя працсэсіі і спэцыяльныя абавязкі акрпракурора, альбо яго памочніка па нагляду па працоўных справах, характарызуюць паколькі Народны Камісарыят Юстыцыі высоўвае гэту работу як адну з першачарговых задач НКЮ і яго органаў на мясцох.

Між тым гэта не адчуваецца ў працы мясцовых органаў.

Асабліва гэта падкрэсьліваецца адносінамі акрпракурораў і судовых органаў па пытаньню аб барацьбе з запазычнасьцю па зарплаце. Да шматлікавых дырэктыў па гэтаму пытаньню з боку НКЮ, мясцовыя органы аднесьліся недапушчальна фармальна, ня прыняўшы рашучых мер па гэтаму поваду і не паведамляючы больш месяца НКЮ аб праробленай у гэтым напрамку работы.

У судох справы таксама пападаюць у агульную чараду і зацягваюцца вырашэньнем.

Лічачы ў корані недапусьцімым падобныя адносіны да гэтых пытаньняў, катэгарычна, пад Вашу асабістую адказнасьць прапаную ўсе гэтыя недахопы зьнішчыць, для чаго Вам неабходна: неадкладна праверыць асабіста ўсе распараджэньні і дырэктывы па працоўных справах, наколькі яны выкананы, чаму ня выкананы і канкрэтныя вынікі па іх; узмацніць працу органаў Пракуратуры і суду па часьці працоўных спраў; судом выдзеліць тэрмінова ўсе справы па запазычанасьці па зарплаце і вырашыць іх у тэрміновым парадку; асаблівую ўвагу ўдзяліць пытаньню аб своечасовай выплаце зарплаты.

Аб выніках выкананьня гэтага ліста паведам'це спэцыяльнай супольнай (акрсудоў і акрпракуратур) дакладной запіскай не пазьней 2-х тыднёвага тэрміну з дню атрыманьня гэтата ліста.

Аднача сова прапанована Пракурору па працоўных справах прадставіць весткі, хто ня выканаў апошніх нашых дырэктыў па пытаньню аб зарплаце на прадмет прыцягненьня вінаватых да дысцыплінарнай адказнасьці.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі
І Ст. Пам. Пракурора Рэспублікі **С. Гохман.**

Член Калегіі НКЮ БССР **С. Эднэрал.**

18 кастрычніка 1927 г.
№ 14.

---

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР.

*Усім старшыням акрсудоў і акрпракурорам.*

Ня гледзячы на шэраг дасягненьняў, якія маюцца за апошні час у працы як судова-сьледчых органаў, таксама і органаў Пракуратуры, усё-ж ёсьць асобныя часткі працы, на якія з боку акрсудоў і акпракуратур ня зьвернута яшчэ выстарчаючай увагі і якія патрабуюць рашучых мерапрыемстваў.

Гэтым лістом НКЮ зварачае ўвагу на наступныя моманты працы:

1. Вытвараная органамі суду і Пракуратуры праца па барацьбе з растратамі і іншымі найбольш важнымі службовымі злачынствамі дала сваё значнае дасягненьне, але ўсё-ж яшчэ досыць не ліквідаваны гэтыя віды злачынства і патрабуюць яшчэ больш рашучай барацьбы з імі.

Дзякуючы гэтаму неабходна неадкладна правесьці ў жыцьцё наступнае:

а) Прыняць усе меры да таго, каб па гэтых справах, як сьледзтва, таксама і разгляд справы ў судзе праводзіліся як можна хутчэй, з тым, каб ніякім чынам ні адна з гэтых спраў не знаходзілася ў вытварэньні судовых-сьледчых органаў больш як тры месяцы.

б) У сувязі з гэтым неабходна, каб старшыні акруговых судоў, а таксама акруговыя пракуроры мелі неаслабнаеназіраньне за рухам гэтых спраў і з свайго боку прымалі ўсе належныя меры да таго, каб усе падлеглыя ім органы гэтыя справы прапушчалі бяз усякай чаргі і ніякім чынам не дапушчалі парушэньня тэрмінаў руху па гэтых справах, якія былі вызначаны абежнікамі НКЮ за №№ 40, 51, 16, 73с, 33, 86, 93, 113с, 130 ад 24/VI, 31/VII, 16-IX—25 г. і ад 4-III, 9-VII, 31-VII і 2-X—26 г.

в) Як відно з практыкі, вельмі часта маюцца выпадкі, калі такія злачынствы, як растраты, безгаспадарнасьць і г. д. маюць месца, дзякуючы таму, што Рэвізійныя Камісіі тых ці іншых устаноў нядбайна адносяцца да сваіх абавязкаў. Сьледам чаго неабходна каб пры вытварэньні сьледзтва і пры разглядзе спраў судом зварочвалася асаблівая ўвага на іх дзейнасьць і ва ўсіх выпадках, калі будзе ўстаноўлена, што Рэвізійная Камісія нядбайна адносілася да сваіх абавязкаў, прыцягваць іх членаў да адказнасьці. за нядбайныя адносіны да сваіх службовых абавязкаў, альбо за поўную бязьдзейнасьць.

г) Паміж тым маюцца выпадкі, калі такія злачынствы, як растраты, безгаспадарнасьць, нядбайныя адносіны да службовых абавязкаў і г. д. маюць месца, дзякуючы таму, што кіраўнікі ўстаноў і іншыя адказныя працаўнікі ня маюць павіннага нагляду за дзейнасьцю падлеглых ім службовых асоб.

Пры вытварэньні сьледзтва і пры разглядзе спраў судом, таксама неабходна зварочваць на такія зьявішчы больш увагі і, у тых выпадках, калі такія факты будуць даведзены, неабходна гэтых асоб прыцягваць да судовай, альбо іншай адказнасьці ў залежнасьці ад акалічнасьцяй справы.

Апрача таго ў гэтых выпадках неабходна, каб старшыні акрсудоў і акруговыя Пракуроры мелі неабходны кантакт з акруговымі ўпаўнаважанымі РСІ ў мэтах асьведамленьня іх аб стане працы і ролі кіраўнікоў тых устаноў, дзе мелі месца такія злачынствы.

д) Акруговыя пракуроры павінны зараз ажыўляць дзейнасьць нарад па барацьбе з злачынствамі, з тым каб гэтыя нарады значна рэагіравалі на найбольш небясьпечныя віды злачынстваў, маючыя месца ў акрузе, у тым ліку і растраты, каб гэтыя нарады выпрацоўвалі-б практычныя мерапрыемствы па барацьбе з гэтымі злачынствамі. Для гэтага неабходна, каб акруговыя пракуроры ўвязвалі гэту

працу з акруговымі ўпаўнаважанымі РСІ, а таксама і з тымі органамі, якія вядуць барацьбу з злачынствамі.

Пры гэтым неабходна паставіць працу гэтых нарад такім чынам, каб усе яе пастановы ў сапраўнасьці абавязкова праводзіліся ў жыцьцё.

е) Рашучая барацьба агулам са ўсімі злачынствамі і ў асаблівасьці з такімі, як растраты, зьніжэньне цэн, безгаспадарнасьць і г. д. патрабуюць паміж іншым мер, стварэньня навокал такіх спраў асаблівую зацікаўленасьць з боку усіх працоўных.

Для гэтага неабходна, каб працаўнікі судова-сьледчых органаў і пракуратуры праводзілі-б сярод працоўных і галоўным чынам у тых установах, дзе мелі месца такія злачынствы, як растраты і г. д., гутаркі, на якіх працоўныя знаёміліся-б з тым, як стаіць справа па барацьбе з гэтымі злачынствамі, якія мэтады барацьбы праводзяцца ў жыцьцё і г. д.

Таксама неабходна, каб гэтыя працаўнікі часьцей высьвятлялі ў друку як асобныя справы па растратах, без аспадарнасьці і г. д., таксама і пэрыядычна высьвятлялі вынікі барацьбы з гэтымі злачынствамі і дзейнасьць у гэтай галіне, як Рэвізійных Камісій, так і іншых устаноў грамадзкага кантролю. Старшыні акрсудоў і акпракуратуры павінны мець неаслабнае назіраньне за тым, каб усе адказныя судова-сьледчыя працаўнікі прымалі шырокі ўдзел у гэтай грамадзкай працы сярод працоўных як у частцы пастаноўкі гутарак на сходах працоўных таксама і праз друк. Прапанаваць усім падлеглым Вам судова-сьледчым працаўнікам і пракурорам абавязкова прыцягваць да судовай, альбо якой небудзь іншай адказнасьці тых з адказных працаўнікоў, якія несваечасова паведамлялі аб здарыўшыхся ў іх установах злачынствах, альбо несваечасова далі адказ на затрэбаваньні гэтых органаў аб прадстаўленьні ім неабходных зьвестак, альбо іншых матар'ялаў.

2. Прымаючы пад увагу, што правільная пастаноўка аказаньня юрыдычнай дапамогі насельніцтву, галоўным чынам сялянству, мае вялікае значэньне і, што да гэтага часу ўсё-ж у гэтай галіне працы ёсьць недахопы, неабходна усім судовым пракурорскім працаўнікам зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу шляхам абсьледваньня і інструктаваньня пастаноўкі працы ў кансультацыях і таксама ў хатахчытальнях і побач з гэтым. шляхам непасрэднага прыняцьця ўдзелу ў іх працы.

3. Зьвярнуць увагу на абавязковую неабходнасьць прымаць актыўны ўдзел у працы нарад, якія будуць склікацца РСІ па ажыцьцяўленьню працы Рэвізійных Камісій, на якіх ставіць даклады аб недахопах працы гэтых камісій, якія выяўляюцца ў працягу судова-сьледчай працы.

4. Дзякуючы таму, што сваечасовасьць разгляду судовых спраў мае вялізарнае значэньне і што яна ў большасьці атрымліваецца ад несваечасовасьці ўручэньня позваў—неабходна зьвярнуць увагу на тое, каб міліцыя і сельскія саветы добра праводзілі гэту працу.

Для гэтага неабходна з боку ўсіх судова-сьледчых працаўнікоў і працаўнікоў Пракуратуры інструктаваньне як органаў міліцыі, так і сельсаветаў аб мэтадах, так і парадку уручэньня позваў, зьвярнуўшы пры гэтым асаблівую увагу на недапушчэньне ўручэньня позваў праз пабочных асоб.

5. Ня гледзячы на наяўнасьць дасягненьняў у галіне сьледчай працы, як органаў дазнаньня, таксама і сьледчых, усё-ж неабходна адзначыць, што якасьць гэтай працы патрабуе яшчэ значна а паляпшэньня. Для гэтага неабходна, каб Пракуратура, як гэта ўжо колькі раз НКЮ зазначалася, зьвярнула асаблівую ўвагу на гэту працу і пры рэвізіях і абсьледваньнях органаў міліцыі, крымінальнага вышуку і сьледчых, зварочвала ўвагу на якасьць іх працы і таксама на тое, наколькі гэтыя органы выконваюць распараджэньні Пракуратуры.

Старшыням акруговых судоў неабходна, пры рэвізіях падлеглых ім нарсудоў, таксама зварочваць больш увагі на самую якасьць судовай працы і шляхам жывога інструктаваньня дапамагчы нарсудом у іх працы. Пры гэтым вельмі важна пры рэвізіях зварочваць больш увагі на тое, як нарсуды вывучаюць паказаньні касацыйных інстанцый.

6. У мэтах найбольшага прыбліжэньня апарату сьледчых да насельніцтва і недапушчэньня выпадкаў выкліку як абвінавачаных, так і сьведак за 30 і больш вёрст, неабходна ўстанавіць як правіла, што сьледчыя павінны ў такіх выпадках не выклікаць іх для допыту ў сваю камэру, а самім выяжджаць для іх допыту ў бліжайшыя мясцовасьці з тым, каб гэтыя выезды праводзіць плянава, зараз па цэламу шэрагу спраў, як гэта было ўжо колькі раз прапанована НКЮ.

7. Маючаяся зрушэньне ў галіне працы Пракуратуры па судоваму нагляду і па судовай працы сьледчым, усё-ж ня можа лічыцца ў поўнай меры здавальняючай і патрабуе значнага пашырэньня галоўным чынам у часьці выступленьняў Пракуратуры па грамадзянскіх справах, дзе зачэплены інтарэсы дзяржаўных устаноў, альбо працоўных мас. Для гэтага нарсуды павінны сваечасова паведамляць пракурораў аб усіх такіх справах, з тым, каб яны мелі магчымасьць прымаць удзел у парадку арт. 2 ГПК, а па асобна важных справах, кіруючыся арт. 12 ГПК прыцягваць самі пракурораў да ўдзелу ў такіх справах.

8. Таксама акруговым судом і акрпракурорам неабходна значна пашырыць судовы нагляд шляхам пэрыядычнага разгляду спраў у парадку нагляду ўсіх нарсудоў акругі.

9. Урэшце неабходна ў дадатак да ўсіх раней быўшых распараджэньняў па пастаноўцы працы па зьніжэньню цэн, зноў указаць старшыням акрсудоў і акрпракурорам на неабходнасьць працягваньня рашучай барацьбы з выпадкамі незаконных надбавак на цэны. Гэта барацьба павінна вясьціся шляхам найхутчэйшага сканчэньня як дазнаньняў, так і сьледзтва па справах, таксама і шляхам хуткага разгляду спраў судамі. Таксама неабходна вакол гэтых спраў сутварыць грамадзкі інтарэс сярод працоўных мас шляхам правядзеньня сярод іх гутарак аб значэньні гэтай барацьбы і яе мэтадах. Побач з гэтым неабходна на аснове судова-сьледчай працы па гэтых справах выяўляць прычыны гэтых злачынстваў і на падставе гэтага прымаць далейшыя меры барацьбы.

Выкананьне ўсіх патрабаваньняў гэтага цыркулярнага ліста ўскладаецца цалкам на старшынь акрсудоў і акрпракуратуры, якія з свайго боку павінны прыняць усе залежныя ад іх меры да таго, каб усе падлеглыя ад іх судова-сьледчыя працаўнікі цалкам праводзілі іх у жыцьцё і каб уперад усе меўшыя да гэтага часу недахопы ў працы былі зьнішчаны.

Народны Камісар Юстыцыі і Пракурор Рэспублікі БССР *М. Сэгаль.*

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

14 верасьня 1927 г.
№ 15.

---

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР і Прэзыдыуму Усебеларускага Аб'яднаньня Калегій Абаронцаў.

*Усім старшыням акруговых судоў і прэзыдыумам акруговых калегій абаронцаў.*

Юрыдычная дапамога працоўнаму насельніцтву БССР, ня гледзячы на шмат сваячасна прадпрынятых НКЮ мерапрыемстваў, да гэтага часу не атрымала дастатнай гібкасьці і прыстасаваньня да насельніцтва.

З прычыны вышэйпамянёнага, Народны Камісарыят Юстыцыі і Прэзыдыум Усебеларускага Аб'яднаньня Калегій Абаронцаў у катэгарычнай форме прапануе зараз-жа прыняць самыя рашучыя меры да выкананьня ў самым хуткім часе ніжэйнаступных вымаганьняў:

1) прыняць меры да ўкамплектаваньня ўсіх раёнаў членамі калегіі абаронцаў;

2) узмацніць працу існуючых у гарадох юрыдычных кансультацый;

3) у мэтах набліжэньня юрыдычнай дапамогі да фабрычна-заводзкіх клюбаў і прадпрыемстваў—старшыням акруговых судоў і старшыням прэзыдыумаў акруговых калегій абаронцаў узгадніць пытаньне на мясцох з прафэсіянальнымі органамі аб парадку правядзеньня гэтае працы і прыняць усе меры да арганізацыі кансультацыйных сталоў на ўсіх буйных прадпрыемствах і пры фабрычна-заводзкіх клюбах. Там, дзе такая арганізацыйная праца ўжо пачата, плянамерна яе выконваць у кантакце з прафэсіянальнымі органамі.

4) Скончыць арганізацыю даведачных сталоў пры ўсіх хатах-чытальнях і нардамох, дагаварыўшыся аб гэтым з акруговымі палітасьветамі.

5) Старшыням акруговых судоў і старшыням прэзыдыумаў калегій абаронцаў дагаварыцца з акруговымі палітасьветамі аб парадку забесьпячэньня даведачных сталоў неабходнай юрыдычнай літаратурай.

6) Старшыням акрсудоў і старшыням прэзыдумаў калегій абаронцаў дагаварыцца з акрвыканкомамі аб неабходнасьці выданьня райвыканкомамі раённым членам калегій абаронцаў неабходных сродкаў перасоўваньня на паездкі іх па раёнах і вёсках для інструктаваньня загадчыкаў даведачных сталоў пры хатах-чытальнях і нардамох, для аказаньня юрыдычнай дапамогі і папулярызаваньня савецкага права

7. Вясьці рашучую барацьбу з выпадкамі правышэньня таксы аплаты юрыдычнай дапамогі, якая ўстаноўлена Наркамюстам, у раённых юрыдычных кансультацыях, каб апошнія былі сапраўднымі органамі, у якіх працоўныя маглі-б атрымліваць аўтарытэтную юрыдычную дапамогу і вырвалі насельніцтва з рук падпольнай адвакатуры і іншых сурагатаў юрыдычнай дапамогі.

8. Для большай увязкі з райвыканкомамі, як мясцовымі органамі ўрадавай улады, і падняцьця аўтарытэту раённых членаў калегій абаронцаў—старшыням акруговых судоў дагаварыцца з райвыканкомамі аб неабходнасьці пастаноўкі ім раённымі абаронцамі дакладаў аб дзейнасьці апошніх па аказаньню юрыдычнай дапамогі насельніцтву і папулярызаваньню савецкага права.

9. Старшыням акруговых судоў і старшыням прэзыдыумаў акруговых калегій абаронцаў зьвярнуцца да мясцовых аддзелаў працы аб забараненьні канторскімі бюро трудкалектыву пры органах Наркампрацы права аказваньня насельніцтву юрыдычнай дапамогі ў форме юрыдычных рад, складаньня розных юрыдычных і судовых папер, як напрыклад: іскавыя заявы, касацыйныя скаргі, праэкты дагавароў, абавязацельствы і інш.

10. Старшыням акрсудоў паставіць перад акрвыканкомамі пытаньне аб зачыненьні так званых канторскіх бюро пры райвыканкомах, камітэтах узаемадапамогі і пры іншых установах у раёнах, бо гэты від юрыдычнай дапамогі высьлізгае ад нагляду і агульнага кіраўніцтва судовых органаў, раённых членаў калегій абаронцаў і прэзыдыумаў акруговых калегій абаронцаў.

11. Прэзыдумам акруговых калегій абаронцаў зьвярнуць асаблівую ўвагу на падрыхтоўку членаў калегій абаронцаў, бо ў Наркамюсьце распрацоўваецца пытаньне аб праверцы юрыдычных і палітычных ведаў для слаба падрыхтаваных членаў калегій абаронцаў.

12. Зьвярнуць увагу, каб праз Інстытут стажора, пры калегіях абаронцаў былі завербаваны для калегіі абаронцаў перадавыя працаўнікі сельскай і местачковай працоўнай інтэлігэнцыі, а таксама грамадзкія працаўнікі з рабочых і сялян, залічаныя ў лік стажораў павінны праходзіць свой стаж не толькі ў кансультацыях акруговых цэнтраў, але таксама і ў раёнах пад кіраўніцтвам членаў калегій абаронцаў.

13. У мэтах рэгуляваньня спэцыяльнага росту калегіі абаронцаў неабходна зьвярнуць увагу на сацыяльнае становішча асоб, якія жадаюць уступіць у калегіі абаронцаў.

14. Зьвярнуць увагу на больш шырокі доступ у шэрагі калегіі абаронцаў.

15. Зьвярнуць асаблівую увагу на канчатковае правядзеньне сярод членаў калегіі абаронцаў і па юрыдычных кансультацыях беларусазнаўства.

16. Прыняць належныя меры да пашырэньня працы членаў калегіі абаронцаў па папулярызацыі права і ўсімі мерамі вясьці барацьбу з наглядаючыміся выпадкамі ўсякага роду ўхілаў ад гэтай працы аж да выключэньня з калегіі абаронцаў.

17. Прэзыдыуму калегій абаронцаў уцягваць усіх абаронцаў у грамадзкую працу, пабуджаючы адсталых у гэтым напрамку належнымі мерамі да ўзмацненьня іх грамадзкай дзейнасьці; у асобных выпадках аб безнадзейных абаронцах у грамадзкай працы—ставіць пытаньне аб мэтазгоднасьці іх далейшага застаўленьня ў складзе калегій абаронцаў.

18. На пленумах акруговых судоў рэгулярна заслухоўваць справаздачы аб дзейнасьці калегій абаронцаў.

Дзеля таго, каб усе гэтыя палажэньні сапраўды былі праведзены ў жыцьцё, а не засталіся толькі на паперы, неабходна адкінуць часта наглядаемы фармальны падыход да выкананьня пастаноў і дырэктыў Наркамюсту і іншых кіраўнічых органаў.

Нельга абмяжоўвацца чыста знадворным выкананьнем гэтых пастаноў, а старацца ўкараніць у сьвядомасьць членаў калегіі ўсю важнасьць і значэньне тых мерапрыемстваў, якія прапануюцца пастановамі і маюць сваей мэтаю падрыхтаваць кваліфікаваныя кадры абаронцаў, якія адпавядаюць усёй сыстэме савецкага суду і ўзмацніць іх прафэсіянальную і грамадзкую працу, а таксама і падняць іх аўтарытэт у вачох мясцовых працаўнікоў і насельніцтва.

Намесьнік Народнага Камісара
Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

Старшыня Прэзыдыуму Ўсебеларускага
Аб'яднаньня Калегій Абаронцаў *Слонім.*

29 верасьня 1927 г.
№ 16.

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

*Усім судовым установам БССР,*

Згодна пастаноў Эканамічнай Нарады БССР ад 22 га кастрычніка і ад 11-га лістапада 1926 г. Дзяржаўнаму Выдавецтву БССР даручаецца ўзыскаць даўгі з дэбітараў б. Газэтнага Сэктару і Белдзяржрэклямы.

Гэтае даручэньне даецца Белдзяржвыдавецтву дзеля ліквідацыі памянёных Газэтнага Сэкратара і Белдзяржрэклямы, пры гэтым Белдзяржвыдавецтва ўзысківае даўгі б. Газэтнаму Сэктару і Белдзяржрэкляме ў якасьці прадстаўніка Дзяржавы, у асобе Эканомнарады.

З прычыны гэтага і па сіле п. „а" арт. 43 Грамадзянскага Працэсуальнага Кодэксу Белдзяржвыдавецтва па ўсіхісках па спагнаньню на карысьць Дзяржавы сум па даўгох б. Газэтнаму Сэкратару і Белдзяржрэкляме пазбаўляецца ад платы судовай пошліны і іншых збораў і вытрат па справе.

Вышэйвыкладзенымі паказаньнямі суды павінны кіравацца пры прыняцьці вышэйпаказаных іскаў Белдзяржвыдавецтву.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі і Пракурора Рэспублікі *С. Гохман.*

Член калегіі НКЮ БССР *С. Эднэрал.*

5 кастрычніка 1927 г.
№ 17.

---

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

**аб зьмяшчэньні ў апісальнай частцы прыгавараў паказаньняў аб клясавай належнасьці і сацыяльным становішчы падсудных, аб складаньні анкет на іх і аб заўважваньні іх клясавай належнасьці і сацыяльнага становішча пры пастаноўцы прыгавараў.**

*Усім судовым органам.*

Угледжваецца, што пры складаньні судамі апісальнай часткі прыгавару, паводле арт. 334 КПК, не заўсёды адзначаецца ў гэтай частцы прыгавару клясавая належнасьць і сацыяльнае становішча падсуднага, што тлумачыцца некаторымі працаўнікамі суду тым, што пры пастаноўцы прыгавару не заўсёды магчыма знайсьці ў матар'ялах справы неабходныя для гэтага зьвесткі.

Адсутнасьць гэткіх паказаньняў у апісальнай частцы прыгавару і вышэй адзначанае тлумачэньне гэтай адсутнасьці сьведчаць аб тым, што суды пры пастаноўцы прыгавару не заўважваюць важнага моманту клясавага суду—ацэнкі клясавай належнасьці і сацыяльнага становішча падсуднага, ад якой ацэнкі ў значнай меры залежыць вызначэньне ступені сацыяльнай небясьпечнасьці падсуднага і ў адпаведнасьці з гэтым, прызначэньне яму меры сацыяльнае абароны.

З прычыны вышэй выкладзенага, у мэтах адхіленьня паказаных недахопаў, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе наступнае:

1. Пры выяўленьні старшынёй суду ў судовым пасяджэньні, у парадку 264 арт. КПК, асабістасьці падсудных складаць на кожнага з іх паасобную анкету па форме, якая пры гэтым дадаецца, і далучаць гэтую анкету да пратаколу судовага пасяджэньня.

2. Строга наглядаць за выкананьнем патрабаваньня арт. 334 К. П. К. адносна зьмяшчэньня ў апісальнай частцы прыгавару ўсіх азначаных у гэтым артыкуле паказаньняў, у прыватнасьці—клясавай належнасьці і сацыяльнага становішча падсудных.

3. Пры пастаноўцы прыгавару і вызначэньні меры сацыяльнай абароны строга выяўляць, у адпаведнасьці з патрабаваньнем арт. 24 КК, асабістасьць падсуднага, прымаючы пад увагу, апроч іншага, яго клясавую належнасьць і сацыяльнае становішча, як моманты, якія характаразуюць ступень небясьпечнасьці злачынства і самога злачынцы.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

Ст. Інспэктар Н. К. Юстыцыі БССР *Барышаў.*

8 кастрычніка 1927 г.
№ 18.

# ДАДАТАК

## да цыркулярнага ліста Н. К. Ю. № 18 за 8 кастрычніка 1927 г.

ФОРМА.

№ справы

Запаўняецца у судовым пасяджэньні.

### Анкета на падсуднага.

1. Прозьвішча, імя і імя па бацьку ...

2. Колькі гадоў ...

3. Пісьменнасьць ...

4. Партыйнасьць ...

5. Дзе радзіўся: горад, губэрня, акруга, воласьць, раён і вёска ...

6 Месца сталага жыхарства: горад, губэрня, акруга, воласьць, раён і вёска ...

7. Сямейнае становішча, колькасьць членаў сям'і, колькі з іх працаздольных і колькі знаходзіцца на ўтрыманьні падсуднага ...

8. Клясавая належнасьць і сацыяльнае становішча ...

9. Прафэсія ...

10. Матар'яльнае становішча:

а) колькі атрымлівае пэнсіі ...

б) склад маемасьці: зямлі і будынкаў, коняй, буйнае і дробнае жывёлы і г. д. ...

в) які іншы і з чаго мае прыбытак ...

г) ці карыстаецца наёмнай працай ...

11. Ці служыў у Чырвонай Арміі ...

12. Ці быў пад судом або сьледзвам, калі, дзе і за што ...

*Старшыня*

*Сакратар*

---

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб адхіленьні некаторых недахопаў у галіне адміністрацыйнай працы акруговых судоў.

*Усім акруговым судом.*

Нагляд за дзейнасьцю акруговых судоў выяўляе цэлы шэраг недахопаў у галіне адміністрацыйнай працы акрсудоў, на якія апошнім неабходна зьвярнуць сваю ўвагу. Так, наглядаецца: а) нездавальняючае скарыстаньне дадатковых нар-

судзьдзяў, якія ў большасьці выпадкаў працуюць толькі пры адным якім-небудзь вучастку нарсуду і нават у тых выпадках, калі гэта не выклікаецца неабходнасьцю; б) нескарыстаньне нарсудзьдзяў у якасьці народных засядацеляў у судовых пасяджэньнях акруговых судоў па грамадзянскіх справах 1-й інстанцыі; в) нездавальняючы нагляд за дзейнасьцю нацыянальных камэр нарсуду і нездавальняючае высьвятленьне іх дзейнасьці сярод працоўных і ў друку; г) нездавальняючая нагрузка працы нарсудзьдзяў латыскіх і польскіх нацыянальных камэр нарсуду; д) малае высоўваньне на судовую працу жанчын; е) слабы нагляд за дзейнасьцю судовых выканаўцаў, асабліва за выкананьнем імі таксы аплаты іх дзеяньняў; ж) нездавалняючы нагляд за сваечасовай здачай нарсудамі грашовых сум і з) невыкананьне акрсудамі тэрмінаў распрацоўкі касацыйнага матар'ялу.

Дзеля гэтага, у мэтах адхіленьня вышэйпаказаных недахопаў, Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць наступныя мерапрыемствы:

1. Праверыць у тэрміновым парадку ступень нагрузкі тых вучасткаў нарсуду, у якіх працуюць дадатковыя нарсудзьдзі, і ў выпадках, калі гэтыя вучасткі зьяўляюцца неперагружанымі справамі, перакінуць дадатковых нарсудзьдзяў у тыя вучасткі нарсуду, якія зьяўляюцца найбольш загружанымі і патрабуюць тэрміновай іх разгрузкі.

2. Устанавіць у далейшым, пад асабістую адказнасьць старшыняў акрсудоў бязупынны, асаблівы нагляд за дзейнасьцю вучасткаў нарсуду, у якіх працуюць дадатковыя нарсудзьдзі, з прыняцьцем адносна апошніх мер, якія паказаны вышэй.

3. Прыняць меры да больш шырокага скарыстаньня нарсудзьдзяў у якасьці народных засядацеляў пры разглядзе ў акрсудох грамадзянскіх спраў 1-й інстанцыі зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на прыцягненьне да гэтай працы нарсудзьдзяў нацыянальных камэр.

4. Зьвярнуць асаблівую увагу на ўстанаўленьне сталага нагляду за дзейнасьцю нацыянальных камэр нарсуду, у мэтах паляпшэньня іх працы, шляхам больш частых выклікаў іх на пленум акрсуду з дакладамі аб іх працы і пэрыядычных паверак іх дзейнасьці.

5. Шырэй разьвярнуць працу па высьвятленьні дзейнасьці нацыянальных камэр нарсуду сярод працоўных мас шляхам пастаноўкі дакладаў нарсудзьдзяў на сходах працоўных і апублікаваньня ў друку пэрыядычных справаздач аб дзейнасьці нацыянальных камэр нарсуду і аб паасобных праведзеных імі працэсах.

6. Зьвярнуць увагу на неабходнась большай нагрузкі нарсудзьдзяў латыскіх і польскіх нацыянальных камэр нарсуду, іншай, апроч судовай, працай, як, напрыклад, шляхам прыцягненьня іх да працы ў акруговых зямельных камісіях і ў камісіях па справах аб непаўналетніх.

7. Зьвярнуць увагу на большае прыцягненьне да судовай працы жанчын з складу народных засядацеляў, шляхам высоўваньня іх кандыдатур на пасаду народных судзьдзяў.

8. Устанавіць сталы нагляд за дзейнасьцю судовых выканаўцаў шляхам больш частых і раптоўных паверак іх дзейнасьці, зварочваючы пры гэтым асаблівую ўвагу на ступень шпаркасьці выкананьня імі спраў, правільнасьці вядзеньня справаводзтва і захаваньне імі таксы аплаты іх дзеяньняў (Збор Зак. БССР 1924 г., № 1, арт. 12), у прыватнасьці—на ступень правільнасьці спагнаньня імі платы за праезд, асабліва—па справах, па якіх спаганятыя былі зволены ад судовай пошліны, як, напрыклад, па справах аб алімэнтах.

9. Устанавіць бязупынны нагляд за сваечасовай здачай грашовых сум у народных судох шляхам больш частых і раптоўных паверак гэтай часткі працы нарсудоў, усклаўшы вытвар эньне гэтых паверак на нарсудзьдзяў адпаведных вучасткаў, у акруговых гарадох, апроч таго, і на паасобных членаў акрсудоў.

10. Прыняць меры, пад асабістую адказнасьць старшыняў акрсудоў, да сваечасовай распрацоўкі акрсудамі касацыйнага матар'ялу на падставе абежніку НКЮ за № 62—1926 г., у адпаведнасьці з тэрмінамі, прызначанымі цыркулярным лістом НКЮ за №—1 за 24 жніўня—1926 г., г. з. не пазьней, як у месячны тэрмін пасьля кожнага кварталу году.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

Ст. Інспэктар НКЮ БССР *Барышаў.*

8 кастрычніка 1927 г.
№ 19.

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб сваечасовым выкліку экспэртаў, аб забясьпечаньні іх неабходнымі ўмовамі да іх працы і аб прыняцьці мер да забясьпечаньня судовых органаў сьпісамі сталых перакладчыкаў.

*Усім акруговым судом.*

Нагляданьне за дзейнасьцю судовых органаў выяўляе, што ў некаторых выпадках суды выклікаюць экспэртаў у тэрміновым парадку, у дзень вытварэньня экспэртызы, нават па тэлефону, што выклікае няяўку экспэртаў і адкладаньня спраў.

Зварочваюць на сябе таксама ўвагу спосаб і парадак вытварэньня экспэртызы, пры якіх экспэрты не заўсёды забясьпечваюцца неабходнымі самымі элемэнтарнымі ўмовамі для іх працы, у сэнсе прадастаўленьня ім здавальняючых памяшканьняў, сьвету, неабходных матар'ялаў і г. д.

У ва многіх выпадках пытаньні, якія ставяцца на разьвязаньне экспэртаў, фармулююцца ня досыць ясна і дакладна, што ня толькі перашкаджае працы экспэртаў, але і пазбаўляе іх магчымасьці ў некаторых выпадках даць свае заключэньне па пастаўленых пытаньнях.

Таксама наглядаецца адсутнасьць у судовых органах сьпісаў сталых перакладчыкаў з замежных і мясцовых моў, што пазбаўляе суды магчымасьці ў неабходных выпадках хутка знайсьці адпаведнага перакладчыка.

Усё гэта вельмі дрэнна адбіваецца на руху спраў, на якасьці працы судовых органаў.

З прычыны вышэйвыкладзенага Народны Камісарыят Юстыцыі прапануе прыняць наступныя мерапрыемствы:

1. Урэгуляваць пытаньне аб выкліку экспэртаў у судовыя пасяджэньні, як народных судоў, так і самага акруговага суду, маючы на ўвазе, каб позвы аб выкліку экспэртаў у судовыя пасяджэньні даручаліся ім сваечасова і загадзя да дню судовага пасяджэньня і каб яны мелі магчымасьць узгадніць сваю яўку ў суд з тэй установай або прадпрыемствам, дзе яны працуюць, калі экспэртамі зьяўляюцца служачыя або рабочыя, і сваю працу з яўкай у суд—у астатніх выпадках, з найменшай шкодай для сваіх гаспадарчых інтарэсаў, і не дапушчаць як правіла, выкліку экспэртаў у судовыя пасяджэньні па тэлефону, калі гэта не выклікаецца тэрміновай неабходнасьцю.

2. Урэгуляваць пытаньне аб прадастаўленьні экспэртам пры вытварэньні імі экспэртызы ў судовых пасяджэньнях усіх неабходных умоў для іх працы, як, напрыклад: неабходных матар'ялаў, здавальняючага памяшканьня, сьвету і г. д.

3. Зьвярнуць увагу судовых органаў на тое, каб пытаньні, якія ставяцца імі на вырашэньне экспэртаў у судовых пасяджэньнях, былі ясна і дакладна фармуляваны, з тым, каб, па магчымасьці, адхіліць у далейшым выпадкі зварочваньня экспэртаў да суду ў час вытварэньня імі экспэртызы за расплумачэньнем пастаўленых ім пытаньняў і выпадкі адмовы іх перад судом ад дачы заключэньня з прычыны няяснай або недакладнай фармуліроўкі пытаньняў, якія належаць іх разьвязаньню.

4. Прыняць меры да забясьпечаньня акрсуду і нарсудоў сьпісамі сталых перакладчыкаў з замежных і мясцовых моў, галоўным чынам—з нямецкай, яўрэйскай, польскай, латыскай і расейскай, шляхам зносін па гэтым пытаньні з мясцовымі органамі Наркамасьветы.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

Ст. Інспэктар НКЮ БССР *Барышаў.*

8 кастрычніка 1927 г.
№ 20.

## Цыркулярны ліст Народнага Камісарыяту Юстыцыі БССР

### аб мэтазгоднасьці вядзеньня кнігі прызначэньня спраў да слуханьня.

*Усім акруговым судом.*

Цыркулярным лістом НКЮ за 24 жніўня 1926 г. за № 1 на імя старшыняў акрсудоў і акрпракурораў (п. 14) было прапанована ўвесьці з 1 кастрычніка 1926 г. ва ўсіх народных судох кнігу прызначэньня спраў да слуханьня па форме, якая была далучана да вышэйпаказанага ліста.

Аднак, як відаць з матар'ялаў, якія маюцца ў НКЮ, гэтая кніга вядзецца не ўва ўсіх народных судох, пры чым некаторыя працаўнікі Юстыцыі вельмі няўважліва адносяцца да гэтай кнігі і лічаць вядзеньне яе зусім немэтазгодным.

Устанаўленьне вядзеньня кнігі прызначэньня спраў да слуханьня мела сваёй мэтай адхіленьне цеганіны ў народных судох, якая ўзьнікала ў выніках несваечасовага і няправільнага прызначэньня спраў да слуханьня і нераўнамернага разьмеркаваньня іх па паасобных днёх судовых пасяджэньняў. Так, наглядаліся выпадкі, калі адны справы прызначаліся да слуханьня раней другіх, якія паступілі пазьней; у адно судовае пасяджэньне прызначалася шмат спраў і выклікалася шмат людзей, а другое—мала; прызначэньне спраў да слуханьня ўтваралася выключна сакратаром нарсуду, а нарсудзьдзя ня ведаў, з якой прычыны адна справа прызначана да слуханьня раней другой і г. д. Словам, прызначэньне спраў да слуханьня ў некаторых нарсудох знаходзілася ў самым хаатычным становішчы.

У мэтах адхіленьня гэтых недахопаў, якія перашкаджалі ня толькі працы нарсуду, але і інтарэсам працоўных, і была ўведзена кніга прызначэньня спраў да слуханьня.

Гэтую кнігу павінен весьці сам нарсудзьдзя і яна павінна быць яго асабістым настольным рэестрам.

Дзякуючы гэтай кнізе дасягаюцца наступныя вынікі: 1) устанаўляецца асабісты нагляд нарсудзьдзі за прызначэньнем спраў да слуханьня; 2) адхіляецца магчымасьць дапушчэньня няправільнасьцяй і злаўжываньняў пры прызначэньні спраў да слуханьня; 3) дасягаецца сваечасовасьць прызначэньня спраў і больш раўнамернае разьмеркаваньне іх па паасобных днёх судовых пасяджэньняў; 4) прадастаўляецца магчымасьць больш дакладнага выкананьня дырэктыў вышэйстаячых органаў аб разглядзе спраў некаторых катэгорый у пазачарговым парадку і 5) наогул—больш дакладнага захаваньня плянавага парадку судовай працы нарсуду.

З прычыны вышэйвыкладзенага, Народны Камісарыят Юстыцыі, пацьвярджаючы цыркулярны ліст свой за 25 жніўня 1926 г. за №—1, прапануе прыняць меры да ўвядзеньня паказанай кнігі прызначэньня спраў да слуханьня ва ўсіх народных судох і пры вытварэньні равізій нарсудоў зварочваць увагу нарсудзьдзяў на неабходнасьць выкананьня імі гэтай дырэктывы ў мэтах паляпшэньня пастаноўкі працы нарсуду.

Нам. Народнага Камісара Юстыцыі БССР *С. Эднэрал.*

Ст. Інспэктар НКЮ БССР *Барышаў.*

8 кастрычніка 1927 г.
№ 21.

---

Адказны Рэдактар: **Рэдакцыйная Калегія.**

Цана 60 кап.

# АБВЕСТКА

ПАДПІСВАЙЦЕСЯ НА ЧАСОПІС

## „Весьці Народнага Камісарыяту Юстыцыі".

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:

**М. Сэгаля, С. Гохмана, С. Эдиэрала, А. Варашылава, Міхайлава, Судакова і Гаўзе.**

У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ ВЫДАТНЫЯ НАВУКОВЫЯ БЕЛАРУСКІЯ СІЛЫ.

**У склад супрацоўнікаў уваходзяць:**

**Банін К.**, **Бутур** (Віцебск), **Бяргoвень** (Мазыр), **Белянец** (Ворша), **Варашылаў А.**, **Ватацы Б.**, **Вішнеўскі**, **Гаўзе**, **Гарцман**, праф. **Грэдынгер**, **Гохман С.**, **Глезераў Б.**, **Генкін Л.**, **Гінзбург**, **Добрас Г.**, **Карначоў**, **Кацін**, **Кісельгоф** (Бабруйск), **Кіпарысаў А.**, **Курачкін**, **Кудзельскі** (Віцебск), праф. **Ленц**, **Лейлант** (Полацк), **Лодзьдзін** (Магілеў), **Ліндэ** (Масква), **Лійц**, **Макуня Н.**, **Малёнак М.**, **Налівайка** (Магілеў), **Нікольскі** (Гомель), **Пінкес** (Бабруйск), **Рахманін С.**, **Слупскі С.**, **Судакоў**, **Савіцкі** (Ворша), **Уладаўскі** (Віцебск), **Чарняўскі** (Менск), **Чарняўскі** (Мазыр), праф. **Шыраеў** і шмат іншых працаўнікоў.

**Часопіс „Весьці НКЮ" выходзіць раз у месяц.**

Падрабязная праграма і мэта часопісі зьмяшчалася ў папярэдніх нумарох.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:**

На год—**4 руб.**, на 6 месяцаў—**2 руб. 10 кап.**, на 3 месяцы—**1 руб. 10 кап.**

**Асобны нумар 40 кап.**

**Падпіску і грошы накіроўваць:**

*Выдавецтва Народнага Камісарыяту Юстыцыі, Менск, вул. Карла Маркса, дом № 5.*